*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*




# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 19 лютага 1988 г. № 8 (3418) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.

## ПЛЕНУМ ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА КАМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ САВЕЦКАГА САЮЗА

Адбыўся чарговы Пленум Цэнтральнага Камітэта КПСС. Пленум адкрыў Генеральны сакратар ЦК КПСС **М. С. Гарбачоў.** Разгледжана пытанне «Аб ходзе перабудовы сярэдняй і вышэйшай школы і задачах партыі па яе ажыццяўленні». З дакладам па гэтым пытанні выступіў член Палітбюро, сакратар ЦК КПСС **Я. К. Лігачоў.**

У спрэчках па дакладзе выступілі: тт. **В. І. Сітнікаў** —першы сакратар Іркуцкага абкома КПСС, **Ф. Т. Маргун** — першы сакратар Палтаўскага абкома Кампартыі Украіны, **Н. М. Яршова** — наладчыца вытворчага аб'яднання «Машынабудаўнічы завод імя Ф. Э. Дзяржынскага», г. Перм, **В. І. Міроненка**— першы сакратар ЦК ВЛКСМ, **В. Ц. Сайкін** — старшыня выканкома Маскоўскага гарадскога Савета народных дэпутатаў, **В. А. Капцюг** — віцэ-прэзідэнт Акадэміі навук СССР, старшыня Сібірскага аддзялення АН СССР, **К. М. Багіраў** — першы сакратар ЦК Кампартыі Азербайджана, **К. Г. Вайна** —першы сакратар ЦК Кампартыі Эстоніі, **Г. А. Ягадзін** — міністр вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі СССР, **В. С. Шаўчэнка** — Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета Украінскай ССР, **Н. А. Назарбаеў** — Старшыня Савета Міністраў Казахскай ССР, **У. Р. Калеснікаў** — міністр электроннай прамысловасці СССР, **Г. М. Маркаў** — старшыня праўлення Саюза пісьменнікаў СССР, **Ю. П. Салаўёў** — першы сакратар Ленінградскага абкома КПСС, **Я. Я. Сакалоў** — першы сакратар ЦК Кампартыі Беларусі і іншыя.

З вялікай прамовай на Пленуме выступіў Генеральны сакратар ЦК КПСС **М. С. Гарбачоў.**

Пленум прыняў па абмеркаванаму пытанню разгорнутую пастанову.

Пленум прыняў па выступленню т. **Гарбачова М. С.** пастанову.

Пленум выбраў т. **Маслюкова Ю. Д.** кандыдатам у члены Палітбюро ЦК КПСС.

Пленум выбраў сакратара ЦК КПСС т. **Разумоўскага Г. П.** кандыдатам у члены Палітбюро ЦК КПСС.

Пленум выбраў сакратаром ЦК КПСС т. **Бакланава А. Д.**

Пленум вызваліў т. **Ельцына Б. М.** ад абавязкаў кандыдата у члены Палітбюро ЦК КПСС.

Пленум перавёў з кандыдатаў у члены ЦК КПСС тт. **Болдзіна В. І.** — загадчыка агульнага Аддзела ЦК КПСС, **Гелерт Н. У.** — механізатара саўгаса імя Амангельды, Казахская ССР, **Міроненку В. І.** — першага сакратара ЦК ВЛКСМ.

# САВЕЦКІМ УЗБРОЕНЫМ СІЛАМ—70



Мастацтву гэтых артыстаў апладзіруюць не толькі воіны Савецкай Арміі, але і працаўнікі многіх гарадоў і вёсак нашай краіны. Гастрольныя маршруты Ансамбля песні і танца Чырванасцяжнай Беларускай ваеннай акругі тройчы праходзілі праз Афганістан, дзе слухачамі былі салдаты абмежаванага кантынгенту савецкіх войск, жыхары кішлакоў і аулаў. У самы напружаны час ліквідацыі вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС давалі там канцэрты армейскія артысты. Гастралявалі яны ў Францыі, у Польшчы, у многіх іншых краінах, і паўсюль — удзячнасць гледачоў, слухачоў.

Здымак гэты зроблены пад час рэпетыцыі. У цэнтры народны артыст РСФСР падпалкоўнік Леў Мураназ.

Менавіта ў гэтыя дні ансамбль песні і танца БВА адзначае сваё 50-годдзе. Першы яго канцэрт адбыўся 17 лютага 1938 года і быў прымеркаваны да дваццацігоддзя Чырвонай Арміі. А сённяшнія канцэртныя праграмы ансамбля прысвечаны слаўнаму 70-гадоваму юбілею Савецкіх Узброеных Сіл.

Тэкст і фота Д. ЛУПАЧА

## СВЯТА ВЯРТАННЯ ПАЭТА

— Час рэвалюцыйнай перабудовы — гэта, апрача ўсяго іншага, час вяртання ў гісторыю нашай культуры імён, якім належыць у ёй законнае, адметнае і віднае месца. Адно з самых ярніх такіх імён, адна з самых прывабных постацей на гістарычным небасхіле нашай культуры — гэта, бясспрэчна, імя і постаць паэта, празаіка і драматурга Алеся Гаруна, юбілей якога, хаця і з пэўным спазненнем, мы сёння ўпершыню за 70 гадоў нашай сацыялістычнай эры ўшаноўваем. Сімвалічнае, я сказаў бы, супадзенне: імя і слова Гаруна вяртаецца да нас у юбілейныя дні другога слаўнага сына Беларусі — вялікага змагара за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне працоўных, выдатнага рэвалюцыянера-дэмакрата Кастуся Каліноўскага. Усе імёны, якім на раду было напісана, што яны будуць свяціць нашчадкам, збіраюцца ў адно дзівоснае сузор'е...

Гэтак гаварыў, адкрываючы вечар, прысвечаны 100-годдзю з дня нараджэння А. Гаруна, што адбыўся 16 лютага ў Доме літаратара, Н. Гілевіч.

Слова пра жыццёвы і творчы шлях паэта сказаў А. Лойка. На вечары выступілі таксама М. Лужанін, Б. Сачанка, У. Казбярук, В. Рагойша, Б. Спрынчан.



Вечар, прысвечаны 100-годдзю з дня нараджэння А. ГАРУНА. Выступае М. ЛУЖАНІН.

Фота Ул. КРУКА

Стварэнню сапраўды святочнай атмасферы вечара паспрыяла і кніга А. Гаруна «Матчын дар». Яна літаральна напярэдадні выйшла ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» (факсімільнае перавыданне адзінага прыжыццёвага зборніка паэта 1918 года), і шматлікія ўдзельнікі вечара змаглі набыць яе — яшчэ, як кажуць, «цёпленькую», з пахам друкарскай фарбы.

Дадаў вечару святочнасці і канцэрт, у якім прынялі ўдзел

(Заканчэнне на стар. 6).

## З ПОШТЫ «ЛіМа»

# • ВЫПІСАЎ І ЗАПОМНІЎ... • ЦВЯРОЗЫ ПОГЛЯД НА РЭЧАІСНАСЦЬ • ПАТРЭБЕН ТАКІ ЧАСОПІС • ПРАЗ ДВАЙНЫ ЗАСЛОН

У АДНЫМ з літаратурна-краязнаўчых артыкулаў адзначалася, што рэдка цяпер знойдзеш чалавека, які б выпісваў з газетных або часопісных публікацый вершы ці хоць радкі з іх сабе ў сшытак. Каб потым перачытаць ці запомніць. Маўляў, аўтары зараз не тыя, і чытачы іншыя...

Напэўна ўсё залежыць ад майстэрства пісьменніка. Калі, напрыклад, чытаеш вершы Пімена Панчанкі, Ніла Гілевіча, Генадзя Бураўкіна і іншых, то немагчыма ўтрымацца, каб не перапісаць сабе ў сшытак і асобныя радкі, і цэлыя вершы.

Даўно мяне хвалявала і абурала, што некаторыя прайдзісветы жывуць прыпяваючы і ніякая трасца іх не бярэ. У чым справа, думаў.

На гэта пытанне знайшоў адказ у новай выдатнай аповесці Васіля Быкава «Кар'ер»: «...за ўсё трэба плаціць — за добрае і за кепскае, якія так моцна звязаны ў гэтым жыцці. Але ўся справа ў тым: хто плоціць? Плоціць, канечне ж, той, хто менш за ўсіх вінаваты, хто не разлічвае на выгаду, хто ад нараджэння схільны даваць, у адрозненне ад тых, хто навучыўся прыстойна браць ды патрабаваць з іншых».

Есць што, аказваецца, выпісваць з твораў дзеячаў роднай літаратуры! Выпісваць і запамінаць...

**М. КАВАЛЕЎ.**
г. Рагачоў.

●

«АКТЫЎНАЕ, нават бурнае абмеркаванне на старонках друку выклікалі ў мінулым годзе выступленні А. Адамовіча («Московские новости», 8.4.87 г.) і В. Каваленкі («ЛіМ», 23.10.87 г.). Хіба ж дзіўна — размова ў абодвух выступленнях ішла аб галоўным пытанні сучаснасці: быць ці не быць роду людскому, і натуральна, у іх знайшлося нямала як прыхільнікаў, так і апанентаў. Над довадамі апошніх мне і хацелася б паразважаць»,— так пачынаецца артыкул Навума Кісліка «У палоне стэрэатыпаў» («ЛіМ», 29.01.88 г.).

Адразу ўражвае слоўца «натуральна». Атрымліваецца, паводле Навума Кісліка, што гэта зусім «натуральна» — тое, што знайшліся апаненты, якія лічаць для сябе магчымым прытрымлівацца думкі, што роду людскому можна і «не быць». Вось якія жудасныя меркаванні ён прыпісвае тым, хто не згодны, у прыватнасці, з Алесем Адамовічам, а дакладней кажучы, не ўвогуле «апанентам», а канкрэтнаму В. Дашкевічу — аўтару артыкула «Дзе сваё, дзе чужое» («Звязда», 10.12.87 г.).

«Злавіўшы» В. Дашкевіча на літаратурна-гістарычнай недакладнасці (і сапраўды, блытаць Пралеткульт з РАППам не варта было б), Н. Кіслік ледзьве не дзве трэціх свайго выступлення прысвячае разважанням на гэтую тэму, хоць гэта яўны перакос, бо «пралеткультаўскаму» моманту ў публікацыі В. Дашкевіча адведзена літаральна некалькі радкоў. Застаецца ўражанне, што Н. Кісліку важна было знайсці зачэпку, каб дыскрэдытаваць аўтара задоўга да таго, як гаворка дойдзе да асноўнага прадмета спрэчак — рэакцыі на «славуты ўжо эпізод з капітанам ядзернай падлодкі, апісаны Алесем Адамовічам. Адкладу гаворку аб гэтым і я, каб сказаць яшчэ некалькі слоў на пралеткультаўска - раппаўскую тэму. Накont Л. Авербаха. Так, ён, канечне, быў несправядліва асуджаны і справядліва рэабілітаваны. Але рэабілітацыя Авербаха зусім не даказвае таго, што ён не быў у свой час адыёзнай фігурай, моцна вінаватай перад савецкай літаратурай. Накont лозунга «Далоў Пушкіна!». Так, В. Дашкевіч зноў-такі памыліўся — Н. Кіслік слушна заўважае, што гэта футурысты заклікалі «скінуць Пушкіна з парахода сучаснасці». Але што пісалі пралеткультаўскія паэты? А вось што: «Во имя нашего завтра сожжем Рафаэля, разрушим музей, растопчем искусства цветы». Розніцы прынцыповай паміж першым і другім лозунгамі няма...

А цяпер — пра галоўнае, у чым разыходзяцца пазіцыі В. Дашкевіча і Н. Кісліка. «На жаль,— піша Н. Кіслік,— некаторым людзям надта лёгка ўявіць сябе бяздумным націскальнікам разнастайных кнопак. Куды цяжэй — ахвярамі падобных дзеяў».

Гэта — пра рэакцыю В. Дашкевіча на шырока вядомае красавіцкае выступленне А. Адамовіча. Удумаемся. Вайсковец, чалавек, які прынёс прысягу, наш абаронца, наш шчыт, адказвае А. Адамовічу няпэўным «я змоўчу... Ніхто, а тым больш яны, не павінны ведаць, што зраблю я»—на пытанне, ці націсне ён кнопку ў выпадку, калі на нас будзе абрынуты ядзерны ўдар.

«Не дай бог,— піша В. Дашкевіч,— каб у нас пачалі пладзіцца падобныя «капітаны»... І тут жа атрымлівае ярлык «бяздумнага націскальніка разнастайных кнопак». Але хіба гэта не страшна, калі ён сапраўды існуе — гэты рэальны, не выдуманы савецкі афіцэр з яго вялым «я змоўчу»?

«Аднадумцы Дашкевіча,— працягвае Н. Кіслік,— міжволі аказваюцца на пазіцыі «ядзернага стрымлівання...» Якое небяспечнае абвінавачванне, ці не праўда? Але тэрмін гэты — ядзернае стрымліванне — скампраметаваны праз частае ўжыванне яго кіраўнікамі ядзерных дзяржаў у кантэксце адмовы ад поўнага ядзернага раззбраення. Давайце прыгадаем гісторыю. Калі ў амерыканцаў была ўжо бомба, а ў нас не, калі мы паспешліва, церпячы вялізныя цяжкасці, стваралі сваю — хіба дзеля таго, каб пусціць яе ў ход, мы стараліся? Мы рабілі гэта якраз дзеля «ядзернага стрымлівання»— каб «яны» ведалі, што беспакаранымі ў выпадку агрэсіі не застануцца.

«Ці гатовы вы — («праясняючы» тэст-пытанне А. Адамовіча, пытаецца ўжо Н. Кіслік) — за злачынства купкі, што схавалася ў бункерах, безразважна помсціць мільёнам тых, хто ніякіх бункераў зразумела, не мае? Калі так, дык на пазіцыях якога класа стаіце?» Атрымліваецца, калі мы — за тое, каб савецкі афіцэр аказаўся верным прысязе і без ваганняў выканаў свой воінскі абавязак, дык мы стаім ужо не «на нашых» пазіцыях. Што ж гэта, калі не «палітычная дыскрэдытацыя апанента» (тое, у чым сам Н. Кіслік абвінавачвае В. Дашкевіча)?

Давайце прадоўжым думку наконт «безразважнай помсты мільёнам». Калі гэтая думка — слушная, дык трэба ўжо сёння распускаць армію, нішчыць ядзерную зброю — усю запар, не чакаючы, пакуль гэта пачнуць рабіць іншыя ядзерныя дзяржавы. Навошта нам армія і зброя, калі прыводзіць іх у дзеянне ў любым выпадку амаральна?

Фантастычная логіка! Словы гэтыя, адрасаваныя В. Дашкевічу, хочацца пераадрасаваць іхняму аўтару Н. Кісліку.

«Шукаючы разумнага кампрамісу ў сённяшнім складаным свеце,— піша В. Дашкевіч,— мы не павінны плаціць цану, пасля якой самі сябе не пазнаем... Палітычны механізм, які б гарантаваў немагчымасць войнаў, толькі выпрацоўваецца. І пакуль ён не створаны, гатоўнасць к адпору магчымай агрэсіі, гатоўнасць тэхнічная і маральна-псіхалагічная, павінны набліжацца да абсалюту».

Вось галоўная думка артыкула «Дзе сваё, дзе чужое». Артыкула, які Н. Кіслік абзывае «эпігонскім «фільмам жахаў». Але гэта не «фільм жахаў». Гэта цвярозы погляд на самыя балючыя і сур'ёзныя праблемы сучаснасці.

**А. РАМАНОЎСКАЯ.**
г. Мінск.

●

НЯДАЎНА ў Гродне адбылася навукова-практычная канферэнцыя «Гісторыя фармацыі і аптэчнай справы». Прысвяцілі яе 300-годдзю гарадзенскай фарнай аптэкі.

Апроч усяго іншага, канферэнцыя абудзіла яшчэ і вось якія думкі. Гродна, па нашым разуменні, займае гэткае гісторыка-культурнае становішча, як і блізкія Каўнас, Беласток, а таксама Львоў. У гэтых гарадах багатыя старадаўнія культурныя традыцыі, выходзяць літаратурныя і навукова-гістарычныя часопісы. Думаецца, што традыцый не займаць і нам. Дзвесце гадоў назад у горадзе былі медычная акадэмія, тэатр, музычная школа. А тутэйшая балетная трупа стала зародкам Варшаўскага балета. Калі браць шырэй, дык існаваў тэатр у Слоніме, багатыя кнігазборы Храптовічаў, Нарбутаў. Не кажу ўжо пра літаратурныя традыцыі, якія таксама шырока вядомыя. Але, на жаль, свайго часопіса ў горадзе дагэтуль няма.

Чым абгрунтуем мы патрэбу ў ім і якім ён нам бачыцца? Па-першае, выданне не трэба рабіць выключна літаратурна-мастацкім, каб не дубліраваць іншыя рэспубліканскія часопісы. Нам здаецца, што кірунак яго павінен быць літаратурна-краязнаўча-гістарычным. Няхай гэта нават будзе напачатку не часопіс, а альманах з перыядычнасцю друку раз у два месяцы ці ў квартал. Па-другое, гэта павінна быць рэспубліканскае выданне з гродзенскай «прапіскай».

І нарэшце, якія маюцца падставы для абгрунтавання патрэбы яго адкрыцця менавіта ў Гродне? У горадзе існуе некалькі ВНУ, у тым ліку і універсітэт. Есць Рэспубліканскі музей гісторыі атэізму і рэлігіі, гісторыка-краязнаўчы музей і музей Максіма Багдановіча, краязнаўчы клуб «Паходня». А гродзенская пісьменніцкая арганізацыя — самая моцная сярод абласных. Невыпадкова ж, што літаратурны альманах «Краю мой Нёман» (1985 г.) быў прыхільна сустрэты чытачамі.

Далей. На вышэйзгаданай канферэнцыі надзвычай цікавымі былі даклады А. Грыцкевіча (Мінск), В. Грыцкевіча (Ленінград) і іншыя. У снежн 1986 г. адбылася першая, падобная да гэтай, канферэнцыя,

## РЭПАРТАЖ У НУМАР

# Кніга... з «малатка»? А чаму б і не?

### У Мінску прайшоў першы гарадскі антыкварна-букіністычны аўкцыён



Аўкцыён пачаўся. У цэнтры - Валерый Маслюк.

Новае — добра забытае старое... Скажам, вяртаецца да жыцця, набывае сваё першаснае значэнне харошае слова «дабрачыннасць». Колькі цікавых мерапрыемстваў праведзена па ініцыятыве шчырых прыхільнікаў Беларускага фонду культуры, каб вырučаныя грошы накіраваць на рэстаўрацыю Верхняга горада ў Мінску, пабудову помніка Кастусю Каліноўскаму ў Гродне, на шэраг іншых важных акцый!

А кніжны аўкцыён? Таксама справа для нас пакуль нязвыклая. Пра конныя, пушныя — ведаем, чыталі ў друку, бачылі на блакітным экране. Праўда, параўнальна нядаўна масквічы паспрабавалі арганізаваць і першы кніжны аўкцыён. Атрымалася. Ініцыятыву падтрымалі кіяўляне, бакінцы.

Не захацелі застацца ўбаку ад новай і цікавай справы і мінчане. За ажыццяўленне гэтай ідэі ўзяліся Мінскі абласны кнігагандаль, Дзяржаўная бібліятэка БССР імя У. І. Леніна, Фундаментальная бібліятэка імя Якуба Коласа АН БССР.

Папрацаваць арганізатарам давялося шмат. У ацэначную камісію ўвайшлі вядомыя спецыялісты, бібліяфілы. Кнігі, адабраныя для аўкцыёна, былі выстаўлены для знаёмства ў кнігарні «Вянок». Своечасова аддрукавалі запрашальныя білеты і каталог.

І вось жаданы дзень прыйшоў. У Доме настаўніка атмасфера святочная. Выступае фальклорны ансамбль пад кіраўніцтвам У. Кур'яна, працуе выстаўка экслібрыса, у кіёску можна набыць букіністычную літаратуру. Сярод будучых пакупнікоў — шмат знаёмых твараў: які ні вялікі наш Мінск, а сапраўдных кнігалюбаў у ім не так і шмат. Тут і нашы вядомыя пісьменнікі Максім Лужанін і Барыс Сачанка. Яны таксама бяруць нумары, каб прыняць удзел у аўкцыёне.

А больш за іншых хвалюецца галоўны рэжысёр Рускага тэатра БССР імя М. Горкага В. Маслюк — яму даручана весці аўкцыён.

А дванаццатай гадзіне на сцэну ў вялікай зале Дома настаўніка падымаюцца вядучы і яго асістэнты. Аўкцыяніст называе першы лот. У зале... цішыня! Ніхто не падымае свой нумар, хоць кніга унікальная: купалаўскі зборнік «Шляхам жыцця», выдадзены суполкай «Загляне сонца і ў наша аконца» яшчэ ў 1913 годзе. Яшчэ секунда-другая і прагучыць гонг, пасля якога кніга з аўкцыёна здымаецца. Няўжо такое выданне не знойдзе свайго пакупніка? Нарэшце ўгору падымаецца нумар. Ён належыць прадстаўніку Аб'яднання дзяржаўных літаратурных музеяў г. Мінска.

Дарэчы, музеі, бібліятэкі, іншыя грамадскія арганізацыі маюць першачарговае права на набыццё рэдкіх выданняў. Аўкцыён, як магчымасць папоўніць свае фонды, выкарыстала і Дзяржаўная бібліятэка БССР імя У. І. Леніна, якая купіла альманах «Гриф» за 1903 год, унікальнае выданне Вальтэра, шэраг іншых кніг.

Гэта было пазней, калі аўкцыён набраў тэмп, калі адчуў асалоду ў цяжкай і новай для яго ролі В. Маслюк, калі

прысвечаная 300-годдзю першага анатамічнага ўскрыцця на тэрыторыі Беларусі (у Гродне). У выступленнях на ёй таксама было шмат цікавых звестак па гісторыі краю. Нядаўна адбылася навуковая канферэнцыя да 150-годдзя з дня нараджэння Кастуся Каліноўскага. Падобныя мерапрыемствы, прысвечаныя пытанням гісторыі і культуры, мяркуецца зрабіць рэгулярнымі, з перыядычнасцю правядзення адзін раз у год ці два. У горадзе былі наладжаны цікавыя рэспубліканскія мастацкія выстаўкі да юбілеяў К. Лышчынскага і Д. Гарадзенскага.

Штогод пашыраюцца ў нас археалагічныя раскопкі, убіраецца ў сілу гродзенская філія аб'яднання «Белрэстаўрацыя». У Гродне жыве вядомы даследчык замкавага дойлідства і вайсковай справы сярэдневяковай Беларусі М. Ткачоў, жывуць даследчыкі жыцця землякоў-дзекабрыстаў, рэвалюцыянераў-дэмакратаў XIX — пачатку XX стагоддзя.

Такім чынам, матэрыялу для часопіса, нават толькі гродзенскіх аўтараў, хапіла б. Трэба яшчэ ўлічыць той фактар, што адкрыццё часопіса паспрыяе аўтарскай актыўнасці.

Залішняя канцэнтрацыя выдавецкай справы ў сталіцы ў нечым усё ж шкодзіць. Няхай побач са сталічным мацнее і гэты асяродак культуры. Гэта будзе толькі на агульную карысць.

**С. АСТРАЎЦОЎ,**
**журналіст.**

г. Гродна.

●

2 ЛЮТАГА мы з жонкай вырашылі схадзіць на навукова-практычную канферэнцыю «Кастусь Каліноўскі — выдатны сын зямлі беларускай», якую ладзілі ў 121-й мінскай школе гарадскі савет Педагагічнага таварыства і гарадскі Інстытут удасканалення настаўнікаў. Школа гэтая абрана нездарма: тут шмат робяць для ўшанавання памяці вялікага паўстанца, настаўнікі роднага слова мараць пра наданне школе імя Каліноўскага. Вучні падрыхтавалі выстаўку юбілейных насценгазет, насычаную і цікавую праграму з вершаў і інсцэніровак твораў, прысвечаных Каліноўскаму. Шчырыя руплівіцы памяці пра родную гісторыю — настаўніцы А. Бурбоўская, Э. Суленка, іншыя педагогі. Але ліст мой, на жаль, пра іншае.

Пачну з таго, што ў гардэробе нас сустрэў двайны «заслон». Жанчыны рашучага выгляду запыталіся, ці маем запрашальныя білеты. Мы не мелі. Пачаўся допыт: хто, адкуль, чаго прыйшлі, хто запрашаў? Жонка мая вытлумачыла, што нядаўна кіравала практыкай універсітэцкіх студэнтаў у гэтай школе, ну а мне давялося «прыкрыцца» тым, што я — яе муж. Нам было літасціва дазволена прысутнічаць на канферэнцыі, а вось хлопец, што пасунуўся быў услед за намі, меў няшчасце прызнацца, што працуе на заводзе. Тав. Рыжкоўская, намеснік загадчыка гарана, тут жа заявіла яму: «Вы свободны. Это конференция для учителей». Хлопец спрабаваў нешта казаць пра сваю цікавасць да роднай літаратуры, гісторыі, але педагогі былі няўмольныя. Я не стрываў і сказаў, што ўпершыню бачу, як на навуковую канферэнцыю па гуманітарнай праблеме не пускаюць людзей, і наогул трэба цешыцца, што на такое мерапрыемства прыйшоў рабочы чалавек. Дама, што стварала кардон побач з тав. Рыжкоўскай, ветліва параіла мне: «Вы знаете, вам лучше не вмешиваться». Хлопец пайшоў, і ён быў далёка не адзіны, каго «завярнулі».

У школу прыйшлі дзесяткі людзей, якія хацелі паглядзець мастацкую праграму. Іх не пусцілі, хоць у зале да таго часу большая частка месцаў была свабодная.

Адкуль такі страх органаў асветы перад грамадскасцю? Відаць, прычына ў тым, што ў мастацкай праграме меліся ўзяць удзел некалькі хлопцаў з клуба... «Талака»... Пакуль яны не прызнаваліся ў тым, што з «Талакі», ніхто не меў нічога супраць іхніх слайдаў з мясцінамі, авеянымі паўстанцкай славай, супраць песень пад гітару. Напярэдадні органы асветы неяк уведалі пра гэта і — «прынялі меры». Зрабілі ўсё для таго, каб сарваць здымкі канферэнцыі і вечара Беларускім тэлебачаннем. Пакінулі ў непаразуменні школьнікаў, здзіўленых нечаканай зменай праграмы. Пераканалі ў сваёй, як бы гэта мякчэй сказаць, недальнабачнасці дзесяткі людзей, не дапушчаных у залу. Скончылася тым, што піянерважаты школы абразіў тэлежурналістку А. Чалей.

А нічога гэтага і быць не магло б, каб нашы слаўныя органы асветы зразумелі: час усялякіх страхаў і страховак незваротна мінуў! І калі прадстаўнікі нефармальных аб'яднанняў, «канспіруючыся», ідуць у школу, каб дапамагчы ёй, дык вітаць гэтыя парыванні трэба, тым больш, што некаторыя з добраахвотных памочнікаў — заўтрашнія педагогі.

**В. ВЯЧОРКА,**
**выкладчык Мінскага педінстытута імя М. Горкага.**

**АД РЭДАКЦЫІ. Як нам паведамілі ў Галоўнай рэдакцыі інфармацыі БТ, на Дзяржтэлерадыё была створана кампетэнтная камісія, якая ўважліва разгледзела ўсе абставіны «інцыдэнта» ў 121-й школе. Былі прыняты пад увагу і скаргі збоку работнікаў асветы ў адрас здымачнай групы. Было ўстаноўлена, што старшы рэдактар Галоўнай рэдакцыі інфармацыі, выконваючы рэдакцыйнае ЗАДАННЕ, у адпаведнасці з прынятай практыкай, папярэдзіла работнікаў 121-й школы аб маючых адбыцца кіназдымках за некалькі дзён і ніякіх пярэчанняў не атрымала.**

**Як пераканалася камісія, замест таго, каб аказаць дапамогу работнікам тэлебачання ў асвятленні важнай культурнай падзеі, кіраўніцтва школы, прыкрываючыся фармальнымі прычынамі, перашкодзіла здымачнай групе ў рабоце.**

**Камісія, разам з тым, выказала меркаванне, што журналіст у дадзенай сітуацыі не павінен быў уступаць у канфлікт з работнікамі асветы. Аб тым, што здарылася, ён павінен быў паведаміць кіраўніцтву тэлебачання.**

**Напэўна, гэта так. Са свайго боку рэдакцыя лічыць неабходным падкрэсліць наступнае. Непаважлівыя, непедагагічныя, скажам так, адносіны да людзей, якія пераступілі школьны парог у якасці гасцей, у якасці прадстаўнікоў грамадскасці, наўрад ці могуць мець апраўданне.**

# ДА ЎВАГІ НАШЫХ ЧЫТАЧОЎ

**У супрацоўнікаў рэдакцыі пры разглядзе пісьмаў і падрыхтоўцы іх да друку ўзнікаюць цяжкасці, якіх магло б і не быць: аўтар забыў, ці па нейкіх прычынах не ўказаў дакладна свой адрас, або не даў звестак пра сваю прафесію і пасаду, узрост (не кажучы ўжо пра тое, што рэдакцыя не-не ды і атрымлівае ананімныя пісьмы). Вось і даводзіцца пасылаць аўтару ліста спецыяльны запыт-просьбу паведаміць аб сабе неабходныя звесткі.**

**Таму да ўсіх цяперашніх і будучых аўтараў штотыднёвіка ёсць просьба: адпраўляючы ліст у рэдакцыю, не забудзьце, калі ласка, паведаміць (дарэчы, у адпаведнасці з нядаўнім Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР «Аб парадку разгляду прапаноў, заяў і скаргаў грамадзян») поўнасцю прозвішча, імя і імя па бацьку, індэкс прадпрыемства сувязі, поўны адрас, пасаду і месца работы.**

**АДДЗЕЛ ПІСЬМАЎ «ЛіМа».**

сярод удзельнікаў аўкцыёна пачалося ледзь не спаборніцтва за права набыць менавіта гэтую, а не іншую кнігу.

Час сказаць пра тое, як растуць «цэны». Калі аўкцыяніст называе нумар, прадстаўляючы кнігу, ён агаворвае кошт выдання. Той, хто жадае набыць яго, узнімае свой нумар. Аўтаматычна павышаецца і цана — на пяць, на дзесяць і больш рублёў. Вопытныя аўкцыяністы — у прыватнасці, Арсень Лабанаў, які праводзіў аўкцыёны ў Маскве, Кіеве, — мяркуюць, што лягчэй прадаць кнігу даражэй тады, калі першапачатковы кошт яе меншы. У азартную «барацьбу» ўключаецца большая колькасць прысутных. У правільнасці гэтай думкі пераканаў і мінскі аўкцыён. Скажам, «Гістарычная хрэстаматыя царкоўна-славянскай і старажытна-рускай мовы» спачатку ішла ўсяго за 35 рублёў, а была прададзена за 130!

Аўкцыён — гэта перш за ўсё гандаль, умелы, прадуманы гандаль кнігай. І, відаць, каб вядучы быў больш вопытны, асобныя выданні не былі б зняты з продажу. Для гэтага В. Маслюк павінен быў рызыкаваць, як гэта робіць той жа А. Лабанаў. Ён па сваёй ініцыятыве зніжае цану, напрыклад, са 120 рублёў да 30 і прадае кнігу... за дзвесце.




Страсці разгараюцца. Фота Ул. КРУКА.

Вопыт, канечне, з цягам часу прыйдзе. Відаць, пошукавая работа арганізатараў аўкцыёна (спадзяёмся, што справа гэтая знойдзе працяг) дасць магчымасць выстаўляць больш беларускіх кніг. Цяпер жа, на жаль, іх былі адзінкі. Акрамя зборніка — згаданага купалаўскага, кнігі Я. Купалы «Избранные стихи» («Библиотечка «Огонька», 1941), «Паўлінка» (выйшла ў Вільні ў 1927 годзе), «Дудка беларуская» М. Бурачка, выпушчаная ў Вільні ў 1921 годзе. Ды яшчэ — «Беларусы» Я. Карскага (1904). Не густа, бо ўсяго ў каталогу значылася 113 назваў.

У цэлым жа першы Мінскі гарадскі антыкварна-букіністычны аўкцыён удаўся. Такой думкі прытрымліваецца і дырэктар гарадскога букіністычнага аб'яднання Т. Ганчарык. У касу паступіла шэсць тысяч рублёў. Галоўнае ж, што рэдкія кнігі трапілі ў рукі сапраўдных кнігалюбаў!

**НАШ КАР.**

## У САЮЗЕ ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

# ТВОРЧЫМ СЕКЦЫЯМ — ТВОРЧЫ КЛОПАТ

**Літаратура і перабудова. Усё часцей гучаць гэтыя словы ў кантэксце грамадскіх змен, духоўнага абнаўлення нашага грамадства. Пад знакам перабудовы прайшло і пашыранае пасяджэнне сакратарыята праўлення СП Беларусі, прысвечанае рабоце творчых секцый. У гаворцы прынялі ўдзел запрошаныя на пасяджэнне старшыні і члены бюро секцый прозы, паэзіі, крытыкі, драматургіі, дзіцячай літаратуры, публіцыстыкі, перакладу і літаратурных узаемасувязей.**

Аўтарытэт літаратуры трымаецца галоўным чынам на творчых дасягненнях і здабытках, сказаў ва ўступным слове першы сакратар праўлення СП БССР **Н. ГІЛЕВІЧ.** Як можна паспрыяць творчаму працэсу? Ці ўсё робяць у гэтым плане нашы секцыі? Формы секцыйнай работы, як вядома, склаліся даўно, ёсць у іх дзейнасці і пэўная доля інерцыі, фармалізму. Аднак у людзей, што працуюць у літаратуры, не павінна быць абыякавасці ў такім важным пытанні. Н. Гілевіч заклікаў удзельнікаў да шчырай гаворкі, да адкрытага абмену думкамі і меркаваннямі.

Ход размовы паказаў, што ў большасці творчых секцый праблемы аднолькавыя: малая актыўнасць пісьменнікаў — прадстаўнікоў тых або іншых жанраў, неакрэсленасць правоў, адсутнасць сапраўды значных задач, якія надалі б сэнс і вагу секцыйнай рабоце. Але ёсць і цяжкасці «індывідуальныя», якія вынікаюць з жанравай спецыфікі і залежаць ад многіх фактараў як аб'ектыўнага, так і суб'ектыўнага плана.

Старшыня секцыі драматургіі **А. ПЕТРАШКЕВІЧ**, у прыватнасці, гаварыў пра тое, што тэатральны эксперымент у нашых умовах прыносіць больш шкоды, чым карысці. Перарваліся сувязі секцыі з Міністэрствам культуры, драматургі поўнасцю пастаўлены ў залежнасць ад тэатраў. Усё яшчэ вырашаюцца пытанні з пастаноўкай беларускіх п'ес у абласных тэатрах рэспублікі на мове арыгінала, з адкрыццём тэатраў у такіх вялікіх гарадах, як Пінск, Мазыр, Баранавічы. Праўда, у сваім інтэрв'ю часопісу «Политический собеседник» старшыня СТД БССР М. Яроменка заявіў, што ў бліжэйшыя гады адкрыццё новых тэатраў і не прадбачыцца з-за недахопу рэжысёрскіх кадраў.

А. Петрашкевіч згадаў пра даўнюю задуму пад эгідай Дома літаратара стварыць літаратурны тэатр. Пра неабходнасць яго гаварылі многія, хто браў слова на пасяджэнні: М. Танк, Н. Пашкевіч, В. Вольскі, П. Місько, А. Жалязоўскі.

Старшыня праўлення СП БССР **МАКСІМ ТАНК** падзяліўся ўспамінамі пра тыя часы, калі аўтарытэт секцый быў куды вышэйшым.

Секцыя крытыкі павінна трымаць пад увагай усе літаратурныя жанры, падкрэсліў старшыня бюро секцыі **Н. ПАШКЕВІЧ.** Аднак на некаторыя жанры відавочна знік чытацкі «попыт». Традыцыйна мы найбольш звязаны з секцыяй прозы, неаднойчы праводзіліся сумесныя пасяджэнні. Спецыфіка нашай работы ў тым, што фармальна мы звязаны з Інстытутам літаратуры АН БССР (нагадаю, што правільная назва секцыі — крытыкі і літаратуразнаўства). Тут існуюць пэўныя цяжкасці.

У выступленні Н. Пашкевіча прагучала крытыка ў адрас праўлення і сакратарыята СП БССР. У крытычным плане выказаліся і іншыя ўдзельнікі пасяджэння — В. Гігевіч, Э. Ялугін, П. Місько.

**А. ВОЛЬСКІ** выказаў сумненне, ці не ўстарэла сама форма секцыйнай работы. Што ж датычыцца секцыі дзіцячай літаратуры, то асноўная работа пераведзена ўбок прапаганды роднай літаратуры, роднага слова сярод юных чытачоў. Мела практычныя вынікі мінулагодняе пашыранае пасяджэнне «Роднае слова ў дзіцячым садзе».

Сакратар СП БССР **В. ЗУЕНАК** выказаў думку, што прыём у члены Саюза магла б ажыццяўляць не прыёмная камісія, а самі секцыі.

Не ўсе прысутныя пагадзіліся з гэтай думкай. Больш рэальнай і слушнай падалася прапанова **В. Рагойшы** ўвесці старшынь бюро секцый у склад прыёмнай камісіі, што дапамагло б пазбегнуць асобных памылак.

В. Зуёнак у прыклад іншым секцыям паставіў актыўнасць секцыі публіцыстыкі і асабіста В. Якавенкі, які ўзначальвае яе. Публіцысты паднімаюць значныя пытанні (у прыватнасці, экалагічныя), наладжваюць сувязь з вучонымі **АН БССР**, турбуюць кіруючыя органы ўстаноў і ведамстваў. Пра дзейнасць публіцыстаў у станоўчым плане гаварылі таксама А. Яскевіч, А. Жук, Н. Гілевіч і іншыя.

Прагучалі добрыя словы і ў адрас секцыі перакладу і літаратурных узаемасувязей. Поспехі асобных секцый сведчаць пра тое, што многае залежыць ад энтузіязму, актыўнасці саміх пісьменнікаў, што справа не столькі ў формах, колькі ў змесце работы.

Ад імя секцыі паэзіі выступала намеснік старшыні бюро **Р. БАРАВІКОВА.** Наша галоўная задача на сённяшні дзень — ісці да чытача. У кнігарні «Светач», як і ў многіх іншых, дасюль ляжаць паэтычныя кніжкі, выдадзеныя пяць і болей гадоў назад. І не сказаць, каб яны належалі слабым паэтам. Трэба часцей праводзіць чытацкія канферэнцыі, вечары на прадпрыемствах, а не замыкацца ў вузкім коле Дома літаратара. Секцыя паэзіі, бадай, часцей, чым іншыя, займаецца непатрэбнай работай — абмеркаваннем слабых у мастацкіх адносінах, а часам і графаманскіх рукапісаў. Р. Баравікова спынілася таксама на пытанні ўзаемаадносін з літаратурнай моладдзю. Яна згадала, як у пачатку 70-х гг. у Маскву на Дні беларускай літаратуры прыехалі зусім маладыя, але ўжо досыць вядомыя паэты. А зараз у маладых і невядомых ходзяць да сарака гадоў.

У секцый, можа, і няма ўлады, але затое ёсць сродкі ўплыву на літаратурны працэс, зазначыў старшыня секцыі перакладу і літаратурных узаемасувязей **В. РАГОЙША.** Назваўшы найбольш значныя мерапрыемствы, праведзеныя ў апошнія гады, ён таксама спыніўся на праблеме літаратурнай змены. Ад маладых нельга адмяжоўвацца, адмахвацца. Секцыя, прынамсі, наладзіла сувязь з клубам маладых перакладчыкаў.

На працягу многіх год ні на пісьменніцкіх сходах, ні на секцыях не ставіліся важныя пытанні, а калі і ставіліся, то не вырашаліся, гаварыў **В. ЯКАВЕНКА.** Людзі страцілі веру ў слова. Выданне кніг, вядома, справа вялікая. Але нашых кніг падчас не чытаюць тыя, ад каго шмат залежыць. Кнігі, кажучы вобразна, — дальнабойная артылерыя. Калі ж чыноўнік акапаўся побач, то і «рукапашная» часам патрэбна. У рэспубліцы нямала «гарачых кропак» — Прыпяць, Салігорск, — так што работы наперадзе шмат.

На пашыраным пасяджэнні сакратарыята вялася гаворка і аб узроўні прапаганды літаратуры (В. Коўтун, С. Яўсеева, В. Гігевіч), аб мове рэспубліканскіх друкаваных органаў (П. Місько).

Асноўнае, дзеля чаго існуюць творчыя секцыі — творчая работа, сказаў сакратар СП БССР **А. ЖУК.** Прамая наша адказнасць — за нашы творы. Нам, пісьменнікам, трэба навучыцца весці прынцыповую размову пра ўдачы і няўдачы, пра ідэйна-мастацкую якасць нашых кніг, тады ад секцыі будзе карысць. Паважаць адзін аднаго, паважаць літаратуру — у гэтым і заключаецца перабудова ў творчай сферы.

Вынікі гаворкі падсумаваў Н. Гілевіч.

**НАШ КАР.**

ПАЭЗІЯ

**Алесь КАСКО**



## Пераемнасць

У. А. КАЛЕСНІКУ.

«Нялёгка будзе маладым,
калі бывалыя салдаты
цераз мяжу апошняй даты
ў легенды сыдуць назаўжды...»

Нам кажуць так не ўпершыню,
і азіраемся ў трывозе
на ўладкаваных пры абозе,
далекавата ад агню.

Надзеі мала. Пабягуць...
Агонь — ён не для ўсіх стыхія.
І ўсё важней нам: хто, якія —
у злітным, шчыльным ланцугу?

Яшчэ ўзмужнелыя не ўсе,
не ўсе напоўнены адвагай,
затое — вераю
і прагай
служыць Радзіме і Красе.

Ёсць, дзякуй богу, і цяпер
каму павесці за сабою
і лініяй перадавою
трымаць аголены свой нерв.

Яно вядома: не ў вайну,
тут іншы фронт...
А ўсё ж ці проста
ўставаць і крочыць поўным ростам,
браць і адстойваць вышыню?

І калі цяжка — кожны раз
нам свецяць лёсы агнявыя,
каб ведалі: не бог нас крые —
салдаты прыкрываюць нас.

## Паязджанка

Яна
расказвала пра востраў Ява.
Гадоў за трыццаць...
Клава...
Педагог...
Муж — капітан.
Якраз туды ён плаваў,
але шкада — узяць яе не мог.
Што? Не. Ні слова —
на тубыльскай мове,
ды вывучыла б
меней чым за год.
Арабскую асвоіла, гатова
не сёння — заўтра
сплаваць на Усход.
Яшчэ прызналася:
хоць і няблізка —
а хоча ў Афрыцы пабыць
яна.
Дарма, што не валодае
англійскай,
ды ведае французскую.
Спаўна.
Яна
спяшалася цяпер у Гродна —
матуля там і меншая сястра.
Спытаў:
«Вы размаўляеце на ...роднай?»
Яна ўсхапілася:
«Уж мне пора!»

●

Навошта я расчульваць вас хачу?
Не да сябе — да роснае травінкі,
да гэтага вясёлага дажджу,
да песень жней з палескае глыбінкі?

Да гэтага дзіцяці, што бяжыць
з далёкіх летаў сувязным нязменным
цераз курган, дзе вой-салдат
ляжыць,
аддаўшы сны наступным
пакаленням?..

Нібы няўцям, што сёння ўсё радзей
вы схільныя расчульвацца. Вы знаўцы
ўсіх тайн прыроды, сутнасці падзей,
нат мовы незямных цывілізацый.

За вашу мудрасць дорага плачу —
няведаннем уласнага дзівацтва,
чаму, нашто любові вас вучу
без боязі адсталым называцца.

Скуль тая цяга—праз абсяг вякоў
не забываць і не цурацца звычкі
расчульваць сэрцы — быццам браць
з віроў
і саграваць астуджаныя знічкі.

## Брату

Яшчэ толькі жнівень — а ўжо халады.
Цямнее блакіт у люстэрку вады,
і з поўначы, захаду цягне цыклон.
Срабрынка-расінка астуджвае скронь.
Яна не растане, яна не ўпадзе.
Дарог усё болей. І меней надзей.
З усіх застанецца надзея адна:
жыццёвая чаша дап'ецца да дна.
Жыццёвую чашу няўтольна дап'еш,
на сынава шчасце яе разаб'еш:
няхай жа ён будзе даўжэй малады!..
Яшчэ толькі жнівень — а ўжо халады.

●

О, як жа трывала ты мукі свае
і як твае рукі цягнуліся ў неба!
Мо гэтак па кроплі сябе аддае
змялелая рэчка засушанай глебе.

Мо яблыня гэтак ламае галлё
ў апошняй надзеі — усё ж абараніць
танюсенькі парастак, і вараннё
яго недзе ў полі пустым не аброніць.

Малы камячок — ад карэнняў тваіх,
галінка зялёная — жылка на пульсе.
Маліла жывых і памерлых — усіх:
яны дапамогуць, яны не дапусцяць.

І горка памерлым было і жывым,
а ты паміж імі ў зняменні і болю
казала вачыма, кіўком галавы:
ты ведаеш выйсце, яно за табою...

І рунь па-над рэчкаю бралася ў рост,
і парастак яблынькай новай усходзіў,
і крыкам дзіця абвяшчала, што ёсць
адзіная воля ў любві і ў прыродзе!

## Фальклорны канцэрт

Не вяселле — сцэнічны абрад,
ды забылі на сцэну артысты:
сват — да слова астатняга сват,
гарманісты — і ёсць гарманісты.

Смехам — смех, гаманой — гамана,
каравай — іхні лёс на абрусе.
Ручнікі шчэ з таго палатна,
што бялілася ў росах на лузе.

Выцінае скрыпач кракавяк
на прадзедаўскай, на самаробнай.
Аж палаюць кабат, андарак,
ад прытупаў заняўшыся дробных.

Непадробная цісне сляза —
вунь старая кабета не ў ролі:
«От жа дзеўка, каза-страказа!..»
Хоць такой і сама была калісь.

Мех дарункаў на кутнім стале:
маладым сыплюць поўнаю жменяй.
Хай не сёння, на сцэне, — але
іх, дальбог жа, напраўду пажэняць.

Аддадуць ім, як скарб, у пасаг
паўзабытыя песні і словы...
І гуляе — аж пырскі ў вачах! —
рэй вясёлы, вясельны, вясковы.

## Сумленнае слова

Яно — душы першааснова:
там, у нязмернай глыбіні,
ёсць боль — боль нараджэння слова,
якога нельга запыніць.

Там слова — як жарынка праўды:
дыхне жыццё — яно ярчэй
зацепліцца... Ніякай рады —
душу нясцерпна апячэ.

Але, магчыма, і да шклянкі
пацягнешся, каб астудзіць
віном ці кропляй валяр'янкі...
Дарма: сумленню ў слове — быць!

# ШТО ПАКІНЕМ НАШЧАДКАМ

**Нядаўна ў Доме літаратара адбылося сумеснае пасяджэнне секцыі публіцыстыкі СП БССР з вучонымі-эколагамі. Тэмай пасяджэння, якое вялі віцэ-прэзідэнт Акадэміі навук акадэмік АН БССР І. Ліштван і старшыня секцыі публіцыстыкі пісьменнік В. Якавенка, былі актуальныя праблемы аховы прыроды ў рэспубліцы і экалагічнага выхавання.**

— ПРАБЛЕМА захавання прыроднага асяроддзя прызнаецца сёння другой па значэнні пасля праблемы захавання міру на Зямлі, — сказаў на пачатку пасяджэння акадэмік **І. Ліштван**.— Экалагічныя даследаванні з'яўляюцца важнейшымі ў акадэмічнай навуцы. Як вядома, нядаўна прыняты ўрадавыя дакументы, накіраваныя на развіццё аховы прыроды і рацыянальнае выкарыстанне прыродных рэсурсаў. У Акадэміі навук СССР падрыхтавана праграма біясферных і экалагічных даследаванняў як часта дзяржаўнай праграмы аховы прыроды. Свой уклад у вырашэнне гэтых праблем імкнуцца ўнесці і вучоныя беларускай акадэміі.

Старшыня навуковага савета па праблемах біясферы АН БССР акадэмік **В. Парфёнаў** акрэсліў экалагічную сітуацыю, якая склалася, на погляд вучоных, у нашай рэспубліцы.

Нягледзячы на тое, што сітуацыя ў цэлым застаецца пакуль што спрыяльнай, не можа не выклікаць трывогу становішча ў некаторых рэгіёнах — на Палессі, у раёне Салігорска, а таксама ў цэнтрах хімічнай прамысловасці — Гродне, Магілёве, Мазыры, Наваполацку.

За апошні час на ўзроўні Савета Міністраў СССР былі адхілены экалагічна і эканамічна слаба абгрунтаваныя праекты будаўніцтва Даўгаўпілскай ГЭС, атамнай ЦЭЦ пад Мінскам (згодна з новым праектам ЦЭЦ будзе скарыстоўваць арганічнае паліва). Разам з тым застаецца нявырашаным пытанне аб рацыянальным размяшчэнні на тэрыторыі рэспублікі так званай Беларускай АЭС.

Адной з важнейшых праблем на сённяшні дзень застаецца паўсюднае ўкараненне безадыходных тэхналогій у вытворчасці.

Вострай застаецца праблема ашчаднага выкарыстання тарфянікаў, асушэння балот і меліярацыі ў цэлым.

Прадаўжаецца — часам варварскае — злоўжыванне пестыцыдамі ў сістэме Дзяржаграпрома.

*У полі зроку* вучоных акадэміі застаецца праблема радыёактыўнага забруджвання ў паўднёвых і ўсходніх раёнах Беларусі.

Вучоныя АН БССР склалі комплексны прагноз экалагічных змен на тэрыторыі рэспублікі да 2000 г. Роля навукі, аднак, безумоўна не зводзіцца толькі да назіранняў і канстатацыі фактаў. Усе названыя пытанні вось ужо дзесяцігоддзямі ўзнімаюцца вучонымі перад кіраўніцтвам міністэрстваў і ведамстваў. На вялікі жаль, навуковыя рэкамендацыі часцей за ўсё так і застаюцца рэкамендацыямі.

Варта ўсё ж адзначыць такі важны крок для аховы прыроды Беларусі, як стварэнне унікальнай сістэмы ахоўных тэрыторый у рэспубліцы — дзяржаўных заказнікаў і запаведнікаў, многія з якіх з'яўляюцца біясфернымі.

Пераходзячы да пытання аб экалагічным выхаванні, В. Парфёнаў падкрэсліў, што выхаванне гэтае нельга адрываць ад патрыятычнага выхавання, пытанняў духоўнай культуры ў цэлым. Магутным падмуркам тут павінна быць любоў да роднай зямлі, да Радзімы, маральная адказнасць перад мінулымі і наступнымі пакаленнямі.

Прафесар Мінскага педагагічнага інстытута імя А. М. Горкага **Я. Яновіч** дапоўніў карціну, намаляваную В. Парфёнавым, некаторымі канкрэтнымі фактамі. Вельмі сур'ёзнай праблемай з'яўляецца правільнае захоўванне мінеральных угнаенняў і ядахімікатаў. Так, напрыклад, у Крупскім раёне сертыфікаты на атрыманне ядахімікатаў ёсць толькі ў лічаных гаспадарках. Ва ўсіх астатніх яны захоўваюцца без усялякай сістэмы, неахайна, у непрыстасаваных памяшканнях, часам проста пад адкрытым небам. Ці варта здзіўляцца пры такіх адносінах да небяспечных для здароўя людзей прэпаратаў, што ўтрыманне шкодных рэчываў у гародніне перавышае нормы ў многа разоў? Пра гэта не раз пісала апошнім часам рэспубліканская прэса.

— Узнімаць пытанні аховы прыроды ў друку трэба, — сказаў дырэктар Інстытута фізіка-арганічнай хіміі АН БССР **У. Салдатаў**.—Але нельга ставіць пытанне так, быццам ва ўсіх бедах вінаватая хімія як навука ці галіна вытворчасці. Без хімічных угнаенняў сёння не абысціся. Ад іх залежыць ураджайнасць, а значыць — і забеспячэнне людзей прадуктамі харчавання. Сказанае зусім не азначае, што хімізацыя сельскай гаспадаркі не стварае прыродаахоўных праблем. Пра іх трэба пісаць. Але пісаць кампетэнтна, з веданнем справы. На вялікі жаль, многія журналісты і пісьменнікі нават не ведаюць, што такое нітраты, пра якія так многа зараз пішуць у газетах.

*Публікацый, лекцый па ахове прыроды* апошнім часам сапраўды многа. Але на такіх лекцыях, на жаль, часцей можна пачуць аб тым, што робіцца ў Англіі або Аўстраліі. Куды радзей можна даведацца, скажам, пра экалагічную сітуацыю вакол возера Нарач, ці ў Наваполацку, — аб гэтым гаварыў намеснік старшыні Дзяржкамітэта рэспублікі па ахове прыроды **В. Алешка**.

Парадокс, але людзі, якія павінны з'яўляцца і па статусе з'яўляюцца гаспадарамі на зямлі, вельмі рэдка ўстаюць на яе абарону, не супраціўляюцца навязаным зверху праектам меліярацыі на землях гаспадарак ці якім-небудзь іншым праектам. Тут праблема праблем — падрыхтоўка экалагічна адукаваных кадраў, працягваў В. Алешка. Адзін толькі Беларускі тэхналагічны інстытут рыхтуе на сённяшні дзень спецыялістаў з такой фармуліроўкай у дыпломе: інжынер-хімік-тэхнолаг-эколаг. Па звестках Дзяржкампрыроды, каля сямідзесяці працэнтаў міністэрстваў і ведамстваў рэспублікі лічаць, што спецыялісты-эколагі ім не патрэбны. Відаць, да многіх кіраўнікоў проста яшчэ не дайшло, што ва ўмовах сапраўднага гаспадарчага разліку і новага прыродаахоўнага заканадаўства гэта абернецца вялікімі стратамі для многіх прадпрыемстваў. І адаб'юцца гэтыя страты, на жаль, не на зарплаце кіраўнікоў, а на зарплаце працоўных калектываў.

Вось ужо многа гадоў існуе ў нашай рэспубліцы грамадскі факультэт экалогіі, створаны пры Белдзяржуніверсітэце на базе біяфака. І вось ужо многа гадоў ён не дабірае навучэнцаў, *бо большасць* арганізацый не жадаюць пасылаць сваіх спецыялістаў вучыцца экалогіі. Аб гэтым расказаў начальнік Упраўлення вышэйшых навучальных устаноў Мінвуза БССР **У. Воднеў**. Што ж датычыць выхавання маладога пакалення, дык у міністэрстве распрацаваны метадычны план бесперапыннага экалагічнага навучання студэнтаў усіх ВНУ. У. Воднеў паведаміў прысутным аб маючай адбыцца сёлетняй вясной рэспубліканскай навуковай канферэнцыі па адлюстраванні праблем экалогіі ў рабоце выкладчыкаў інстытутаў.

Прафесар Беларускага тэхналагічнага інстытута **У. Раманаў** гаварыў аб неабходнасці стварэння прадуманай сістэмы інфармацыі па праблемах экалогіі для ўсяго насельніцтва — ад дзяцей да дарослых. Важна зразумець, што спецыяліста па ахове прыроды, так сказаць, у чыстым выглядзе няма і не можа быць. Трэба, аднак, дамагацца, каб кожны спецыяліст народнай гаспадаркі быў адначасова і спецыялістам па экалогіі.

**А. Петрашкевіч,** спаслаўшыся на свой шматгадовы пісьменніцкі вопыт работы над праблемамі Салігорска, выказаў упэўненасць, што першапрычына гэтых і многіх іншых праблем — у чыноўніцка-ведамаснай абмежаванасці і перастрахоўцы, валюнтарызме. Для таго, каб перамагчы бюракрата, трэба пакуль не позна, аб'яднаць намаганні пісьменнікаў, вучоных, усёй інтэлігенцыі і выступіць у абарону прыроды адзіным фронтам.

Намеснік дырэктара Інстытута агульнай і неарганічнай хіміі АН БССР **Ф. Мажэйка,** падзяліўшы ў цэлым пазіцыю пісьменніка, выказаў разам з тым свой пункт гледжання на салігорскую праблему. Бяда не ў тым, што саляныя радовішчы распрацоўваюцца (калійныя солі — незаменная і каштоўнейшая сыравіна), а ў тым, што яны дрэнна, неэканамічна, нерацыянальна распрацоўваюцца. Адсюль — прасадка глебы, пагроза абвалаў і г. д., аб чым справядліва з трывогай пішуць пісьменнікі.

**І. Новікаў** вярнуўся да выказанай прафесарам У. Раманавым думкі аб стварэнні сістэмы экалагічнага «ўсенавуча» насельніцтва і горача падтрымаў яе.

Нельга нам дзяліць «сферы ўплыву»: адны адказваюць за духоўнае, другія — за экалагічнае выхаванне, — такое меркаванне выказала кандыдат філалагічных навук крытык **Т. Чабан.**

Намеснік старшыні рэспубліканскага савета Таварыства аховы прыроды БССР **С. Канстанціновіч** расказаў аб дзейнасці таварыства і планах яго работы.

**НАШ КАР.**

## КРЫТЫКА, БІБЛІЯГРАФІЯ

Уладзімір КОНАН

# Запрашэнне да РОЗДУМУ

### Чытаючы кнігу У. Калесніка «ТВАРЭННЕ ЛЕГЕНДЫ»

КОЖНАЯ развітая літаратура мае сваю класіку. Для рускіх, палякаў, украінцаў яна стваралася ў XIX стагоддзі — зразумела, з улікам адноснага значэння хinduced храналагічнай лакалізацыі ўсякай падзеі ў духоўным жыцці народа. Літаратурная класіка сведчыць пра наступленне фазы росквіту і парадаксальнай «складанай прастаты» ў развіцці нацыянальнай культуры. Яе істотныя прыкметы — арыгінальнасць нацыянальна спецыфічных тэм, праблем, вобразаў і сімвалаў, паўната моўных рэсурсаў, арганічнае спалучэнне народнага з агульначалавечным, урэшце, тое, што Уладзімір Калеснік называе «тварэннем легенды», ці вобразна-мастацкай канцэпцыі айчыннай гісторыі.

Паміж народам, нацыяй і яе найвышэйшым духоўным выяўленнем — класічнай літаратурай, іншымі відамі мастацтва, навукай і філасофіяй ёсць складаная дыялектычная ўзаемасувязь. Бо, з аднаго боку, мастацкая класіка—параджэнне народнага духу, але ж, з другога боку, яна сама фарміруе народ у нацыю, выступае гарантам яе несмяротнасці. Працэсы стварэння класічнай нацыянальнай культуры і яе ўсведамлення грамадствам на рэгіянальным і сусветным узроўнях найчасцей не сінхронныя — не супадаюць у часе. Творчасць А. Пушкіна. Ф. Дастаеўскага, Л. Талстога, Т. Шаўчэнкі, А. Міцкевіча ўжо іх сучаснікамі ўсведамлялася як не радавая, а выключная з'ява ў развіцці рускай, украінскай і польскай літаратур; аднак толькі ў XX стагоддзі яна стала класікай — той крыніцай, якая жывіць культуру, а пасля перыяду нацыянальнага заняпаду садзейнічае адраджэнню народа.

Створаная ў пэўным рэгіёне і ў канкрэтную гістарычную эпоху, класічная спадчына ўзнімаецца над часам і прасторай, становячыся фактам нацыянальнага і сусветнага духоўнага жыцця. Яе актуалізацыя адбываецца праз пераклады на іншыя мовы, увядзенне ў літаратурны ўжытак новых ці забытых твораў, урэшце — праз навуковае даследаванне і літаратурна-крытычную інтэрпрэтацыю — для кожнай эпохі спецыфічную, нярэдка нават часам супрацьлеглую.

Уладзімір Калеснік, аўтар кнігі «Тварэнне легенды» («Мастацкая літаратура», 1987). даследаваў менш багатую ў колькасных адносінах, аднак жа яшчэ больш трагічную і супярэчлівую гісторыю станаўлення беларускай літаратурна-мастацкай класікі. На яе пачатку — рэнесансавая постаць беларускага асветніка і заснавальніка ўсходнеславянскага кнігадрукавання Францішка Скарыны і «другая іпастась» першага этапу беларускай культуры — паэт Мікола Гусоўскі. Іх літаратурная спадчына — першая беларуская друкаваная Біблія з каментарыямі, іншыя кнігі Скарыны, навалацінская паэма Гусоўскага «Песня пра зубра» — ужо адлюстравала духоўнае аблічча беларускага народа, які ў пачатку XVI ст. набыў істотныя прыкметы народнасці, аднак яшчэ не ўступіў у завяршальную стадыю этнагенезу — станаўлення нацыянальнасці. Паміж Скарынай і Гусоўскім, з аднаго боку, заснавальнікам нацыянальнай класічнай паэзіі Янкам Купалам, з другога боку,— амаль чатыры стагоддзі. У прамежку гэтых «сіметрычных» эпох — далучэннем народа да еўрапейскай рэнесанснай культуры ў пачатку XVI ст. і яго ўкладам у агульначалавечую культуру праз стварэнне высокай нацыянальнай літаратуры ў пачатку XX ст. — былі вякі трагічных выпрабаванняў, моўнага і літаратурнага заняпаду; аднак жа толькі адноснага, бо якраз тады народ стварыў класічны фальклор, які ўжо ў першай палове XIX ст. паслужыў вытокам для станаўлення беларускай нацыянальнай літаратуры.

Даследчык энцыклапедычнага складу, У. Калеснік у сваіх ранейшых працах (манаграфія «Зорны спеў», цыкл артыкулаў у выданнях Беларускай Савецкай Энцыклапедыі і інш.) ужо далучыў чытача да тэматыкі новай кнігі (творчыя і чалавечыя постаці Ф. Скарыны, М. Гусоўскага, Янкі Купалы, праблема рамантызму ў беларускай літаратуры). Аднак жа там былі, як кажуць, глыбінныя пробы матэрыялу, здагадкі і гіпотэзы, якія грунтоўна пахіснулі апрыёрныя канцэпцыі і дагматычныя звычкі ў літаратуразнаўстве. Новая кніга вызначаецца канцэптуальнай завершанасцю, удалым спалучэннем гісторыка-літаратурнага даследавання і жанру папулярнага крытыка-публіцыстычнага нарыса.У ёй аўтар больш смела, чым у папярэдніх кнігах, выходзіць за рамкі літаратуразнаўства ў сферы філасофіі культуры, эстэтыкі і фалькларыстыкі. Найбольш характэрны тут новы для яго даследчыцкага «рэпертуару» нарыс пра народнага казачніка Рэдкага.

Кніга пачынаецца манаграфічным нарысам «Постаць Скарыны». Пра беларускага асветніка і першадрукара створана колькасна багатая літаратура, нават раманы і драмы сучасных аўтараў. Аднак у айчыннай Скарыніяне ёсць слабыя бакі, і не толькі тыя, што абумоўлены аб'ектыўнымі прычынамі, напрыклад, застоем у справе яе фактычна-дакументальнага папаўнення. На жаль, наглядаецца тэндэнцыя аддзяліць Ф. Скарыну ад справы яго жыцця — друкаванай беларускай Біблії, нават «пасварыць» яго з хрысціянствам. І ў такім выпадку, каб пазбегнуць збяднення вобраза асветніка, сёй-той з даследчыкаў-гісторыкаў, філосафаў, літаратуразнаўцаў спакусіўся на яго мадэрнізацыю, нацягваючы на хрысціянскага асветніка чужы для яго халат сучаснага атэістычнага «веравызнання». І тады, як дасціпна зазначае У. Калеснік, «вялікі дзеяч становіцца вобразам з лубка—«І швец, і жнец, і ў дуду ігрэц».

Даследчыцкі талент У. Калесніка ўдала спалучае гістарызм з жывым пачуццём рэальнасці сучаснага быцця, і гэта дапамагло яму пазбавіцца ад сарамлівага адхрышчвання «звышатэістычнай» навукі перад тварам Біблії і рэлігійнай тэматыкі наогул. Не без горкага пачуцця мне асабіста давялося пераканацца, працуючы над артыкуламі для энцыклапедычнага даведніка пра Ф. Скарыну, што гэты інфантыльны страх нашай «адукаванай» інтэлігенцыі перад духоўна-этычнымі, філасофскімі, эстэтычнымі праблемамі Біблії, Хрыста, Новага запавету непазбежна цягне за сабой правінцыйную абмежаванасць у даследаваннях з'яў агульнаеўрапейскага значэння ў гісторыі айчыннай культуры.

У. Калеснік даследуе творчасць, светапогляд і чалавечую постаць Ф. Скарыны не выбарачна, а цэласна, з улікам тэм, ідэй і вобразаў пераведзеных і вытлумачаных ім старазапаветных і новазапаветных кніг Біблії. Для радавых чытачоў і некаторых даследчыкаў гэта, па сутнасці, першае дасціпнае, часам іранічнае «прачытанне» Скарынавых кніг Біблії ў інтэрпрэтацыі дасведчанага літаратуразнаўцы, схільнага да чыста свецкага, гуманістычнага тлумачэння быцця і культуры. У сваёй кнізе аўтар выкарыстоўвае паняцці «міф» і «легенда» ў іх пазітыўным значэнні— як вобразнай канцэпцыі айчыннай гісторыі, дзе быццё і мастацкі вымысел, ідэал і рэальнасць спалучаны ў нейкую адзіную духоўную мадэль. Часам яна абазначаецца, як на мой погляд, больш адэкватным паняццем нацыянальна-патрыятычнага сімвалу.

Нарыс пра Скарыну пачынаецца з аналізу парадокса пачынальнікаў і класікаў нашай літаратуры, «стваральнікаў нацыянальна-вызваленчай легенды беларусаў», якія, за выключэннем аўтара верша «Безнадзейнасць» М. Багдановіча, абміналі ў сваіх дарэвалюцыйных творах імя Скарыны, хоць абгрунтоўвалі гістарычны аптымізм спасылкамі на слаўную мінуўшчыну народа. Сучаснікам Купалы і Коласа «дзейнасць Скарыны патрэбна было вылушчваць з лушпін хрысціянскай дагматыкі, канфесіянальнай абрадавасці і багаслоўскай тэрміналогіі, аддзяліць жа агульначалавечае ад рэлігійнага не проста, справіцца з гэтым маглі толькі спецыялісты-філолагі, а яны асвойвалі праблему пакуль што на акадэмічным узроўні». Вось чаму франтальнае асваенне Скарынавай спадчыны на Беларусі пачалося толькі ў пасляваенны час, калі навука і мастацтва, ачышчаючыся ад сацыялагізатарскага спрашчэнства, узяліся наталяць духоўную смагу народа слаўным мінулым.

Даследчыку ўдалося раскрыць галоўную прычыну позняга прызнання заслуг Ф. Скарыны перад беларускай і ўсходнеславянскай культурамі. Аднак жа, думаецца, што былі тут не толькі агульнагістарычныя, сацыяльныя, але і спецыфічныя прычыны, у прыватнасці мадэрнізацыя дарэвалюцыйнай «акадэмічнай» навукай і афіцыйнай публіцыстыкай Скарынавага паняцця «рускі» (ад слова Русь), інтэрпрэтацыя яго ў сучасным значэнні. Але ж беларускі дарэвалюцыйны друк шмат зрабіў для вяртання на бацькаўшчыну ўкрадзенай гісторыі і культуры. Пра творчасць Ф. Скарыны як рэнесансную з'яву беларускай літаратуры пісалі Сяргей Палуян, іншыя супрацоўнікі «Нашай Нівы», а В. Ластоўскі, адзін з кіраўнікоў газеты, апублікаваў на яе старонках, а ў 1911 годзе асобным выданнем «Кароткую гісторыю Беларусі», дзе бадай ці не ўпершыню абгрунтоўваецца ідэальна-мастацкая легенда пра «залаты век» у гісторыі беларусаў, і галоўнай дзейнай асобай яго названы Ф. Скарына. Ды і першая «Гісторыя беларускай літаратуры» Максіма Гарэцкага, хоць і была надрукавана ў 1920 г., аднак жа склалася да Кастрычніцкай рэвалюцыі, падагульняючы засваенне «нашаніўцамі» Скарынавай спадчыны.

У. Калеснік грунтоўна даследуе эпоху Ф. Скарыны, яе сацыяльна-эканамічныя заканамернасці, ідэалагічныя зрухі ў кантэксце агульнаеўрапейскай гісторыі, фарміраванне беларускай народнасці, старабеларускай мовы і культуры як пэўнай цэласнасці. Пры гэтым ён у меру і з добрым густам карыстаецца вобразна-выяўленчымі магчымасцямі мовы, малюе рэнесансную эпоху і яе дзейных герояў не толькі доказна, але і займальна, узнаўляе характэрныя прыкметы і нават асобныя дэталі побыту. На падставе абагульнення дасягненняў айчыннай і замежнай Скарыніяны далікатна, не назойліва ўзнаўляе грамадска-палітычныя, філасофскія, этычныя і эстэтычныя погляды асветніка. Аўтар кнігі «Тварэнне легенды» істотна пашырае крыніцы свайго даследавання, на першы погляд, зусім простым, аднак радыкальным «ходам»— уключэннем у актыў Скарыны-пісьменніка не толькі яго прадмоў і пасляслоўяў, але і выдадзеных ім кніг, бо яны ж пэўным чынам выявілі яго светапогляд і жыццёвыя каштоўнасці. Гэта дазволіла бадай ці не ўпершыню ў беларускім літаратуразнаўстве даць агульны крытычны аналіз і эстэтычную ацэнку тэм, ідэй, вобразаў і канфліктаў кніг Іова, Прытчаў, Эклезіяста, Прамудрасцей Ісуса Сірахава, Песні Песняў, Псалтыра і інш.

Якраз тут аўтара падсцерагала небяспека, бо адсутнасць у нашым літаратуразнаўстве распрацаваных метадаў ідэйна-эстэтычнага аналізу неадназначных па зместу і складаных па форме кніг Біблії часам штурхае даследчыка на вонкавую ацэнку іх тэм і вобразаў без заглыблення ў іншасказавую, сімвалічную глыбіню. Рэлігіязнаўства мае сваю шматвяковую традыцыю, аднак жа ў большасці нашых савецкіх вучоных або яшчэ, як кажуць, «не дайшлі рукі» да традыцыйнай біблеістыкі, або найчасцей яны занадта саманадзейна адкідаюць яе як «тэалагічны зман».

Да гонару аўтара кнігі «Тварэнне легенды» трэба прызнаць, што ў большасці выпадкаў ён пазбег тыповых спрашчэнняў атэістычнага «папулярызатарства». Аднак жа тыповы для сучаснага асветніцтва пастулат, быццам бы старазапаветныя і новазапаветныя кнігі — тэалагічна апрацаваная міфалогія, якая, мабыць, і захавала эстэтычную каштоўнасць, але толькі і ўсяго, не лічыцца з тым відавочным фактам, што створаная за тысячагоддзе Біблія адлюстравала драматычны шлях станаўлення чалавечай, гэта значыць, зусім рэальнай, а не фантастычнай духоўнасці. Адсюль недакладнасці і паспешлівыя ацэнкі, быццам бы хрысціянская сімволіка наскрозь «прасякнутая містыкай, пакорай і пакутніцтвам», дагматыка — «лушпінне», што быццам бы паводле хрысціянскай сацыяльнай дактрыны мужыкі — «нашчадкі біблейскага Хама». Адсюль таксама занадта літаральнае разуменне сімвалічнай па сваёй сутнасці кнігі Быцця, а тым больш евангельскіх вобразаў і сюжэтаў. Евангельская антрапалагічная канцэпцыя «роўнасці ўсіх людзей перад богам» гэта зусім не «дагмат» хрысціянства. Паміж філасофскімі жанрамі фальклору і біблейскімі прытчамі ёсць падабенства, аднак жа гэта не дае падставы бачыць у кнізе Прытчаў «зборнік народных прыказак». Да таго ж аўтар перабольшвае «язычніцкі» змест гэтай і некаторых іншых біблейскіх кніг. Нашыя даследчыкі, нават самыя дасведчаныя, усё яшчэ не пазбавіліся ад звычкі скарачаць фармуліроўку вядомага маральнага імператыву хрысціянства пра «непраціўленне злу **насіллем»**. Адкідаючы падкрэсленае намі апошняе слова, трактуючы хрысціянскі ідэал як «непраціўленне злу», атрымоўваем нешта прынцыпова супрацьлеглае, свайго роду «антыхрысціянства», бо сутнасць хрысціянства якраз у «праціўленні злу» сродкамі любові, а не гвалту. У свой час «непраціўленне злу» прыпісвалі Л. Талстому, наіўна забываючы, што сэнс усяго жыцця гэтага пісьменніка — у непрыняцці зла. Томас Мор і Тамаза Кампанела «заплацілі жыццём» не за тое, што «ўсумніліся ў догмах царквы»: першага пакаралі смерцю па хлуслівама абвінавачванню ў дзяржаўнай здрадзе, а другі правёў 27 гадоў у астрогах за ўдзел у змове супраць іспанскага панавання над Неапалітанскім каралеўствам. У кантэксце сучаснай тэхналогіі колішняя алхімія — ужо не толькі «шарлатанства», бо сёння штучныя «дарагія каменні» і нават «штучны чалавек», або гамункул у форме робата—не пустая фантазія, а рэальнасць. Ф. Скарына — аўтар акафістаў, а не канонаў. Гераіня кнігі Руф хутчэй па-свойму ўзнёслая, чым увасабленне «сляпой прывязанасці да роду мужа», бо гэты вобраз сімвалізаваў духоўнае збліжэнне раней непрымірымых народаў і разам з тым пэўны сацыяльны прагрэс — маральны прыярытэт сям'і над родам.

Нарыс «Постаць Скарыны» выклікае на зацікаўленую спрэчку, бо ў ім аўтар выходзіць за рамкі традыцыйнай для беларускага літаратуразнаўства тэматыкі на агульначалавечыя праблемы, якія ў нас доўгі час ігнараваліся або проста заблытваліся павярхоўнай атэістычнай публіцыстыкай. Тым больш, важна, што У. Калеснік сваёй кнігай запрашае філолагаў, гісторыкаў, філосафаў, мастацтвазнаўцаў і проста чытачоў на гаворку ці роздум пра вечнае, агульначалавечае.

Нарыс «Алегорыя зубра Мікалая Гусоўскага»— адно з лепшых навукова-папулярных даследаванняў пра новалацінскага паэта, які здолеў па-мастацку глыбока раскрыць для еўрапейскага чытача эпохі Рэнесанса красу роднага краю, яго духоўныя каштоўнасці, але разам з тым і трагічныя супярэчнасці, праблемы. Зацікаўленага чытача парадуе ўдача аўтара, які падышоў да сваёй задачы комплексна, свой вопыт прачытання паэмы «Песня пра зубра» паглыбіў даследаваннем айчыннай і зарубежнай літаратуры пра Гусоўскага, а літаратурна-крытычны аналіз — філасофска-эстэтычным сінтэзам паняццяў і катэгорый, якія наяўна ці ў прыхаванай, сімвалічнай форме «прысутнічаюць» у творы, надаючы яму цэласнасць і канцэптуальнасць. Руплівы аналіз мастацкіх і гістарычных рэалій твора дапаўняецца свайго роду эзагетыкай — тлумачэннем асноўных кампанентаў яго зместу і формы.

Літаратурны партрэт беларускага казачніка Рэдкага (ад яго А. Сержпутоўскі запісаў выдатныя «казкі і апавяданні беларусаў-палешукоў»), не страціўшы дасціпнасці і займальнасці, выйшаў за рамкі

(Заканчэнне на стар. 6).

# ЗАПРАШЭННЕ ДА РОЗДУМУ

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 5).

жанру, бо гэта адначасова — праблемны артыкул аб ролі аўтэнтычнай народнай творчасці ў станаўленні нацыянальнай літаратуры, пра яе месца ў сучаснай мастацкай культуры. У літаратуразнаўстве і эстэтыцы яшчэ не спыніліся спрэчкі на гэтую тэму. Большасць даследчыкаў згодны, што фальклор — крыніца, з якой шмат чэрпала і сёння працягвае наталяць смагу прафесійнае мастацтва, асабліва паэзія, музыка, іншыя віды і роды мастацтва. Аднак жа для некаторых аматараў і прафесійных даследчыкаў сацыяльная і эстэтычная каштоўнасць аўтэнтычнага фальклору бачыцца амаль выключна ў рэтраспектыўным плане: фальклор стварaўся ці не ў першабытным або ў сярэдневяковым грамадстве, цяпер жа ён адквітнеў, не мае будучыні, хоць плён яго пэўным чынам увайшоў у здабыткі прафесійнага мастацтва.

Паасобныя філосафы-эстэтыкі (М. Коган), а пад іх уплывам і некаторыя фалькларысты спакусіліся спрошчанай тэарэтычнай схемай, паводле якой аўтэнтычны фальклор — аджыўшая форма мастацтва, яна сёння замяняецца арганізаванай самадзейнасцю. Пры гэтым з поля зроку выпадае бясспрэчная ісціна, што мастацкае аматарства без фальклорных крыніц выраджаецца ў павярхоўнае наследаванне не лепшым «узорам» прафесійнага мастацтва. Апошняе ў сваю чаргу без сваёй натуральнай «глебы» — фальклорных вытокаў — паступова губляе прыкметы народнасці і нацыянальнай спецыфікі, перараджаецца ў павярхоўную «масавую культуру» і паўтарае бясконцыя варыяцыі мадэрнісцкай фарматворчасці, або трапляе ў палон эпігонства.

У літаратурна-мастацкай думцы 60—70-х гадоў узнікла канцэпцыя, паводле якой фальклор папярэднічаў пісьмовай літаратуры, і па меры таго, як апошняя станавілася агульнадаступнай, знікаў, а калі і захаваўся, то хіба што ў форме рудыментаў, якія прыўносяць анахранічныя тэндэнцыі ў сучаснае мастацтва. Памылка аўтараў гэтай канцэпцыі ў тым, што яны, справядліва акцэнтуючы ўвагу на своеасаблівасці зместу і структуры фальклору і літаратуры, забываюць пра глабальнае адзінства духоўнай культуры. Пры ўсёй сваёй спецыфіцы фальклор не ёсць абсалютна «замкнёная» мастацкая сістэма, паміж ім і прафесійным мастацтвам адбываецца ўзаемадзеянне, ці, як кажуць філосафы, «філіяцыя» ідэй, матываў і вобразаў.

Гэтыя тэарэтычныя абстракцыі паўплывалі на літаратуразнаўства: бытаваўшая раней аднабокая тэорыя фальклорнага паходжання новай беларускай літаратуры замянялася супрацьлеглай, аднак не менш аднабокай гіпотэзай, з якой «фальклорнае звяно» наогул выпадала. У. Калеснік у сваім даследаванні пра беларускага казачніка Рэдкага пераканаўча даказаў, што творчасць гэтага самародка знаходзіцца на мяжы фальклору і развітай сучаснай літаратуры, а гэта азначае, што не толькі творы прафесійнай літаратуры могуць фальклaрызавацца, але і высокі мастацкі ўзровень аўтэнтычнага фальклору гарантуе ў прынцыпе магчымасць «перарастання» вуснай народнай творчасці ў прафесійную літаратуру. Шматлікія факты гэтага працэсу агульнавядомы, хоць яны яшчэ не асэнсаваны на тэарэтычным узроўні. Пытанне ў іншым: ці гэта перад намі унікальныя з'явы, феномены, ці тут ёсць пэўная заканамернасць? У. Калеснік у сваім тэарэтыка-публіцыстычным нарысе не ставіў задачу даць канчатковы адказ на пастаўленае пытанне, бо каб зрабіць гэта, патрэбна сістэматычнае даследаванне шматлікага фактычнага матэрыялу, які прама ці ўскосна датычыцца ўсёй праблемы ў цэлым.

Сёння важна, аднак, што аўтар глыбока ставіць праблему каштоўнасці фальклору для сацыялістычнага грамадства. Бо апошнім часам зноў (цяпер ужо з боку філосафаў) назіраецца тэндэнцыя адсунуць фальклор (а заадно і родную мову) на перыферыю навуковых і літаратурна-мастацкіх інтарэсаў. Паказальны ў гэтых адносінах артыкул члена-карэспандэнта АН БССР Я. М. Бабосава «Рэвалюцыі духоўныя здабыткі» («Мастацтва Беларусі», 1987, № 11). Адзін з вядучых філосафаў рэспублікі дакарае аўтараў вядомай лімаўскай дыскусіі пра крызісную сітуацыю бытавання роднай мовы ў рэспубліцы і ў прыватнасці аўтара гэтага артыкула ў тым, быццам яны падчас не ўлічваюць «шматграннасць нацыянальнай культуры», своеасаблівасць якой «зводзіцца пераважна да моўных і фальклорных форм».

Што можна сказаць на такога роду закіды? Па-першае, *ні я, ні мае калегі па дыскусіі* ў газеце «Літаратура і мастацтва» не разглядалі мову і фальклор толькі як «формы», таму што яны бачацца нам змястоўна — ў якасці фундаментальных духоўных каштоўнасцей народа. Па-другое, і ў змястоўным *плане мы не* абмяжоўвалі своеасаблівасць нацыянальнай культуры толькі мовай і фальклорам, а толькі акцэнтавалі ўвагу на яе крызісных з'явах, што, як на маю думку, і трэба рабіць ва ўмовах перабудовы і сучаснага абнаўлення навукі.

Небяспека знікнення фальклору — агульначалавечая праблема, яна датычыцца не толькі беларускай, але і, скажам, рускай культуры. Фальклор да таго ж — унікальны фонд жывой роднай мовы, гарант яе развіцця ў будучыні. Для беларускага рэгіёна, дзе пакуль што не спынена дэструктыўная тэндэнцыя знікнення роднай мовы з разнастайных сфер грамадскага і дзяржаўнага быцця, значэнне фальклору нельга пераацаніць. Аднак жа і ў дачыненні да ўсёй краіны варта помніць: калі знікаюць крыніцы, мяльчэюць або зусім высыхаюць рэкі, у дадзеным выпадку прафесійнае мастацтва, нацыянальная культура ў цэлым.

Я. М. Бабосаў вядзе сваю дыскусію карэктна, нават дыпламатычна. Аднак жа ў адным месцы шчыра прызнаўся, што «нацыянальная адметнасць» культуры яму бачыцца ў «каларыце роднай мовы» (па аналогіі, трэба думаць, і ў «фальклорным» каларыце). Тут сапраўды нацыянальнае «зводзіцца» да фармальнага. На жаль, у нас шмат якія навуковыя і навучальныя ўстановы (ды хіба толькі яны!) даўно пазбавіліся нават гэтага «каларыту». Напрыклад, Інстытут філасофіі і права АН БССР сёлета мог бы адзначыць своеасаблівы «юбілей»: дваццаць гадоў таму назад пад яго грыфам выйшла апошняя планавая кніжка на беларускай мове аб'ёмам у сем выдавецкіх аркушаў.

Заключны раздзел сваёй кніжкі «Купалы сны невядомыя» У. Калеснік назваў «купалазнаўчымі эцюдамі» без акадэмічнай сістэматызацыі. «Мне хацелася б,— піша даследчык,— прапанаваць чытачам свой спосаб сістэмна-канцэптуальнага прачытання Купалавай паэзіі і *выкласці справу так папулярна,* каб і воку, не ўзброенаму вучонаю лупай, адкрылася Купалава вострадыялектычнае бачанне свету, дзівосная духоўнасць яго паэзіі, яе еўрапейскі кантэкст і арганічная беларускасць...». І гэта, адзначым, яму ў цэлым удалося. *Хіба што,* як на маю думку, адчуваецца яшчэ пэўная недаацэнка раней «забытых» твораў, напрыклад, паэмы «На куццю» і камеды «Тутэйшыя». Апрача таго, прапанаваная форма выкладання матэрыялу, зусім арганічная ў Купалавым энцыклапедычным даведніку, дзе ён ужо друкаваўся ў скарочаным варыянце, некалькі парушае агульны стыль і кампазіцыю кнігі. Маецца на ўвазе, што месцамі тэкст перанасычаны канкрэтнымі рэаліямі твораў.

Кніжка літаратурных партрэтаў і нарысаў У. Калесніка — не радавая з'ява ў айчынным літаратуразнаўстве. Літаратурнае майстэрства крытыка спалучана з глыбінёй і арыгінальнасцю тэарэтычных абагульненняў. Перакананы, што яна ў добрым сэнсе паўплывае на сучасную літаратурна-эстэтычную думку.

## АД КАМІСІІ ПА ПРЭМІЯХ ЛЕНІНСКАГА КАМСАМОЛА БЕЛАРУСІ

**Камісія па прэміях Ленінскага камсамола Беларусі паведамляе, што вылучэнне кандыдатур на прысуджэнне прэмій Ленінскага камсамола Беларусі 1988 года ў галіне літаратуры, мастацтва, журналістыкі і архітэктуры будзе праходзіць да 1 мая.**

**З сёлетняга года бюро ЦК ЛКСМБ праводзіць конкурс на атрыманне прэмій Ленінскага камсамола Беларусі за важкія дасягненні ў педагагічнай дзейнасці.**

**Дакументы неабходна накіроўваць па адрасу: 220030, Мінск, вуліца Карла Маркса, 40. Камісія па прэміях ЛКСМ Беларусі. Даведкі па тэлефоне: 29-38-93.**

## АКЦЁРЫ КІНО— ВОІНАМ

**Апладысментамі віталі воіны Мінскага гарнізона артыстаў Тэатра-студыі кінаакцёра ў мінскім Доме афіцэраў. Дзве гадзіны працягвалася творчая сустрэча, прысвечаная 70-годдзю Узброеных Сіл СССР. Заслужаная артыстка рэспублікі Л. Румянцава, а таксама С. Сухавей, Н. Жукоўская, Р. Шмыроў, А. Аржылоўскі, А. Кацянёў, А. Мірошнікаў і І. Сцяпанаў расказалі аб сваёй рабоце ў кіно, паказалі канцэртныя нумары.**

**Адбыўся прагляд фрагментаў з фільмаў «Альпійская балада», «Дзяржаўная граніца», «Матрос Жалязняк» і іншых з удзелам гэтых акцёраў.**

**П. ГАРДЗІЕНКА.**

## СТАРОНКІ СПАДЧЫНЫ: НОВАЕ ПРАЧЫТАННЕ

## СВЯТА ВЯРТАННЯ ПАЭТА

**(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1).**

**фальклорныя калектывы з вёсак Турэйск і Савічы Шчучынскага раёна (асаблівы поспех выпаў на долю скрыпача-віртуоза Станіслава Вікенцьевіча Маленчыка), заслужаная артыстка рэспублікі В. Пархоменка і артыст Белдзяржтэлерадыё А. Казак, артысты-купалаўцы Т. Нікалаева, М. Громава, В. Белахвосцік, А. Падабед, У. Кін-Камінскі, Г. Маляўскі.**

**На вечары прысутнічаў сакратар ЦК КПБ В. А. Пячэннікаў.**

● **Юбілейны вечар А. Гаруна адбыўся сапраўды са спазненнем. Сто гадоў паэту споўнілася б яшчэ летась. Аднак гэты час не прайшоў марна. У рэспубліканскім друку (найперш у нашым штотыднёвіку) былі змешчаны вершы А. Гаруна і артыкулы аб яго творчасці. З'явіліся матэрыялы аб ім і ў саюзным друку, пераклады яго вершаў на рускую мову («Литературная газета», «Нёман»). А зараз вось — і кніга. У выдавецтве «Мастацкая літаратура» рыхтуецца да друку збор твораў паэта. А. Гарун вярнуўся да нас. Праз гады небыцця паэт зноў у страі.**

**Сёння штотыднёвік друкуе слова В. Быкава да чытачоў кнігі «Матчын дар», артыкул Б. Сачанкі пра невядомыя старонкі біяграфіі А. Гаруна, а таксама вершы паэта з прадмовай У. Казберука.**

## САРДЭЧНА І САМАЗАБЫЎНА

Дарагі чытач, перад табой кніжка паэзіі аўтара надзвычай трагічнага лёсу, песняра роднага краю, яго «жуды і нуды», напісаная ў далёкія гады на пачатку стагоддзя.

Жыццёвы лёс Алеся Гаруна на доўгі час пазбавіў яго свабоды, асудзіў на выгнанне і бясконцы шэраг фізічных і душэўных пакут, у якіх, аднак, кавалася чыстае золата паэзіі і высакароднага пачуцця любові да роднага краю. Так любіць і так апяваць радзіму, як гэта рабіў Гарун, магчыма, бадай, толькі ў безнадзейнай ростані з ёй. Усе Гаруновы памкненні, усе думкі і мроі належалі тады Беларусі, яе драматычнай гісторыі і бязрадаснай сучаснасці, поўніліся вобразамі роднай прыроды, мілымі драбніцамі побыту, якіх на катаржнай чужыне быў пазбаўлены аўтар. Так ужо склалася ў *нашай гісторыі, што жыццё* рэдка песціла капрызлівым шчасцем сваіх песняроў, аднак лёс гэтага паэта быў асабліва сляпы і жорсткі. Несправядліва паставіўся ён да аўтара, неміласэрна аднёсся да яго нягучнай, надзвычай душэўнай, поўнай нутраной сілы паэзіі. Мабыць, не шмат трэба паэту для шчасця, але яму заўжды неабходна быць пачутым сваім народам. І, мусіць, найбольшаю карай для яго з'яўляецца немата, на якую ён быў несправядліва асуджаны. Алесь Гарун прабыў у немаце ўдвая болей, чым ён пражыў на свеце.

Творца шмат чым абавязаны свайму народу, ён вечны ягоны служка і працаўнік. Але цывілізаванае грамадства таксама мае свае абавязкі перад мастаком, якімі яно не павінна грэбаваць. Можна толькі радавацца, што ў дадзеным выпадку справядлівасць святкуе перамогу: Беларусь з удзячнасцю ўзнаўляе ў сваім культурным ужытку трапяткое слова аднаго з самых пакутных яе песняроў. Дык удумайся ж, чытач, у гэтыя даўнія радкі, народжаныя самотай і горам,— у іх нямала адзнак высокай людскасці і прагнай надзеі.

Надзеі на нас, тых, каму наканавана часам жывіць лёс роднага краю, якому на сібірскай катарзе гэтак сардэчна і самазабыўна спяваў Алесь Гарун.

**Васіль БЫКАЎ.**

## «НАЗАВЁМ ПЕРШ ЗА ЎСЁ А. ГАРУНА...»

Беларускі нацыянальна-вызваленчы рух — адна з найскладанейшых старонак нашай гісторыі. Але, замест таго, каб па-належнаму вывучыць, разабрацца ў тым, што было, яго па розных прычынах на працягу доўгіх гадоў проста абыходзілі маўчаннем, наклаўшы табу на многія факты і імёны, забараніўшы іх нават упамінаць. У ліку такіх імён было і імя слаўнага сына беларускага народа Алеся Гаруна.

Сёння дзякуючы тым жыватворным працэсам, што адбываюцца ў краіне пасля XXVII з'езда партыі, гэтаму імю, як і многім-многім іншым, вернута грамадзянскасць, і яно займае сваё пачэснае месца, ставіцца ў адзін шэраг з такімі дарагімі і вядомымі імёнамі, як Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч. Прыйдзе час — і пра Алеся Гаруна будуць напісаны і выдадзены кнігі, яго жыццё і творчасць будуць даследаваны гэтак жа ўважліва і грунтоўна, як жыццё і творчасць усіх песняроў беларускага народа. Таго, хто будзе гэтым займацца, чакаюць цікавыя адкрыцці. Бо і Алесем Гаруном ён, мінскі рабочы-сталяр, стаў не адразу, а толькі пасля таго, як арыштавала яго паліцыя і за антыўрадавую дзейнасць царскія ўлады выслалі на катаргу аж у Іркуцкую губерню, дзе ён і гараваў аж сем гадоў. Там, на катарзе, ён і ўспомніў сваю родную мову, пачаў пісаць на ёй вершы, якія друкаваліся ў многіх беларускіх выданнях; там, на катарзе, і нарадзіўся з былога сталяра Аляксандра Прушынскага паэт Алесь Гарун. У родны Мінск ён вярнуўся толькі ў верасні 1917 года, адбыўшы катаргу, уволю наплаваўшыся на баржы па магутнай сібірскай рацэ Лене, папрацаваўшы на залатых капальнях Бадайбо і ўшчэнт падарваўшы здароўе. Тыя, хто яго ў гэты час бачылі, адзначаюць, што ў яго было «бледнае аблічча, цёмныя засмучоныя вочы, згорбленая пастава». Да таго ж, у свае трыццаць гадоў ён хварэў на невылечную тады хваробу — сухоты... Але, засумаваўшы па працы дзеля любімага краю і народа, ён адразу ж, што называецца, з галавою акунаецца ў грамадскую і палітычную дзейнасць. Улады ў тыя гады ў

# «А МЕЧ БУДЗЕ СЯРПОМ...»

**Яна не надта багатая колькасна, спадчына Алеся Гаруна: зборнік «Матчын дар», падрыхтаваны ў 1914 і апублікаваны ў 1918 годзе, ды некалькі дзесяткаў вершаў, раскіданых у розных перыядычных выданнях. А яшчэ паэтычная казка «Хлопчык у лесе» (астатнія тры дзіцячыя казкі напісаны прозай). І калі сам зборнік сёння вядомы, праўда, пакуль што вельмі абмежаванай колькасці чытачоў, то астатнія творы выпалі зусім з нашага літаратурнага працэсу. Выпала якраз тое звяно, якога ніхто нічым замяніць не мог. Алесь Гарун, як мала хто з сучаснікаў, паказаў злачынны, бесчалавечны, антыгуманны характар сусветнай вайны адразу ж, калі толькі яна пачалася, пакуль яна яшчэ не паспела спустошыць беларускую зямлю агнём і мячом, заліць яе крывёю:**

Сорам і ганьба для свету вайна,
Як ні мяркуй, ні круці.
З боскіх законаў смяецца яна...
(«Праводзіны»)

**Так было сказана ў жніўні 1914 года. Сёння, праз столькі гадоў, нас не можа не здзіўляць такі ўсебаковы, заснаваны на шматвяковым народным гуманістычным вопыце маральны кодэкс паводзін чалавека на вайне. Як быццам прадугадваючы магчымасць братання салдат варожых армій, Алесь Гарун сцвярджае агульнасць іх чалавечага і салдацкага лёсу, вымушаны ўдзел у такой ганебнай справе, як вайна. У наказе навабранцу берагчы сумленне ў любых умовах, бачыць у асобе варожага салдата перш за ўсё чалавека, які таксама ідзе ваяваць не па сваёй волі,—увасабляецца гуманістычнае светабачанне аўтара, яго непаўторная здольнасць увасобіць у мастацкім слове найбольш каштоўныя прынцыпы народнай маралі, тыя прынцыпы, якія аказваюцца непадуладнымі ні афіцыйнай дзяржаўнай шавіністычнай ідэалогіі, ні той двурушніцкай рэлігійнай маралі, што, з аднаго боку, прапаведуе ў якасці адной з асноўных свяшчэнную запаведзь «Не забі!», а з другога—блаславўляе такую найбольш масавую форму забойства, як вайна. Разам з тым няма ў паэта апраўдання для баязлівасці: «Смелага сэрца не колюць штыкі, кулі яго не праб'юць».**

**Побач з гэтым творам можна паставіць верш «Ой, божанька», апублікаваны ў верасні 1914 г. у газеце «Беларус» пад псеўданімам «Іскра» (лічаць, што гэта быў адзін з псеўданімаў Змітрака Бядулі):**

Ой, божанька, дакуль так сэрца
будзе дзіка?
Агонь, і кроў, і слёзы хваляю
вялікай
Зямлю ўсю залілі... І ўсё
кіпіць... шуміць...
Ой, так не можна жыць!..

**Аўтары гэтых вершаў значна апярэджвалі асэнсаванне тэмы вайны іншымі пісьменнікамі таго часу.**

**Не менш уражвае верш Алеся Гаруна «Чалавечая кроў». У кожным радку яго адчуваецца ўсё той жа матыў выкрыцця і асуджэння ганебнай сутнасці бясконцых войн, без якіх мы ніяк не маглі б уявіць сабе гісторыю чалавецтва:**

Гэй ты, людская кроў,
чалавечая кроў,
Разліваешся ты па зямліцы
Ад пачатку людзей, ад пачатку
вякоў
Ад граніцы яе да граніцы.

**Пісалася ўсё гэта ў той час, калі нават некаторыя вельмі славутыя паэты (В. Брусаў, верш «Старый вопрос») дэклямавалі—прытым зусім шчыра—ўзвышаныя патрыятычныя пачуцці, пелі дыфірамбы воінам, на долю якіх быццам выпала свяшчэнная місія караць заклятых ворагаў і гэтым самым вяршыць суд гісторыі.**

**У час найцяжэйшых ваенных выпрабаванняў у Алеся Гаруна, хоць ён знаходзіўся так далёка ад роднай зямлі, небывала абвастрылася пачуццё трывогі за лёс шматпакутнай Беларусі, за лёс свайго народа. Але ніколі яго не пакідала вера ў тое, што ў пакутах і муках непазбежна народзіцца новая будучыня.**

**Алесь Гарун, як і Якуб Колас, у розных творах і ў розныя перыяды, прытым кожны раз самабытна і непаўторна, звяртаецца да вобраза жывой вады, якую ніхто і нішто не можа ні закаваць, ні спыніць у яе нястрымным руху наперад. Такім патокам, што па законах жыцця разліваецца ўсё шырэй і і глыбей, змываючы ўсе перашкоды, паўстае ў творчым уяўленні паэта і народ...**

**Увазе чытача прапануецца падборка вершаў, напісаных і ў Сібіры на пасяленні, і пасля вяртання ў Мінск—у складаны і трывожны перыяд ваеннага ліхалецця.**

**Уладзімір КАЗБЯРУК.**

**Алесь ГАРУН**

## *Праводзіны*

Браце мой любы!.. Ідзеш на вайну...
— Кліча агульны прыказ...
Кінеш радзімую ты старану,
Кінеш сямейку і нас!

Можа не ўбачымся болей з табой —
Бог яго ведае, брат!
Як праканаціся ў долі сляпой:
Пусце? — не пусце назад?

Сорам і ганьба для свету вайна,
Як ні мяркуй, ні судзі;
З боскіх законаў смяецца яна...
Мусіш аднак жа... Ідзі!

Йдзі, не трывожся: маленькіх тваіх
Будзем карміць, даглядаць,
У разе ж... Дай бог, каб вярнуўся да іх!..
Будзем, як ты гадаець.

Гэтак... І ўсё, што хацеў я сказаць?
Пэўне усё... Пачакай!
Нам пастарайся адтуль напісаць,
З думкі с в а і х не спускай.

Потым... Пасунуцца ў бітву палкі —
Ты баязлівым не будзь:
Смелага сэрца не раніць штыкі,
Кулі яго не праб'юць.

Будзе праціўнік пабіты ляжаць,—
Ты пашкадуй яго, брат!
Раны завяжаш, паможаш устаць,
— Й ён чалавек і салдат.

Брат, у далёкай сваёй старане
Мае ён дзетак, сям'ю...
Помста ці хцівасць цябе як штурхне,
Успомні сямейку сваю.

Старасці, цноце не помні ураз,
Гэтым сумлення не плям.
Быў чалавекам ты, браце, у нас,
Будзь чалавекам і там.

Мы у вялікага будзем прасіць,
Ты каб вярнуўся здароў...
Н-ну! — развітаемся... Сэрца баліць...
Дай жа абнімемся зноў!

## *Трэны*

### (З ГАДОЎ НЯВОЛІ)

Беларускі мой радзімы краю,
Чым ты стаўся горшым перад светам —
Строгім гэтым...
Цяжкім лёсам ён за што цябе карае —
Забівае?
Скрозь пажэжа, пусткі і руіны,
Скрозь нядоля, голад і галота,
Скрозь стагнота.
Тут — што людзі! — ў полі кожная
быліна —
Сіраціна.
Падрабнеўся твой народ на часці,
Зносіць ён благое ліхалецце
Па ўсім свеце,
Апынуўся дзе раскіданы няшчасцем,
Злой напасцяй.
Перад гэтым быў ты, край, багаты,
Меў лясы, бязмежныя, як мора,—
Гора, гора!..
Павыгублена ўсё. Дзе людзі, дзе
гарматы
Спраўцы страты.
Дык прызнайся ж мне, радзімы краю!
Завініўся чым ты перад светам:
Гневам гэтым
На цябе нялюдскім ён за што палае,
Так карае?

Зіма 1916 г.

## *Ён не згіне...*

### (НАСТРОІ)

Ці дзялю я свой сум з цішынёю,
Ці жартую з сябрамі над чарай,
Перад мыслю таемна маёю
Неадступнай, назойлівай марай,
Як жывы, як бы ўзяты з натуры,
Усё малюецца вобраз пануры:

Як калоссі ў жытнім полі,
стаяць людзі на раўніне;
Быццам вецер каласочкі,—
гэтак сум іх прыхіляе.
Ані шэпту! Часам толькі
маць-зямліца уздыхае:
«Ой, пагіне... Усё пагіне!»

Захаваўшы слонца, ўкрылі
неба імглішчы і туманы;
Непагодай край, здаецца,
ад прадвеку той забраны;
І не кліч яму ты долі:
гіне зык тут незваротна;
Замірае слова нават...
Ах, маркотна!

Усё мне цяжкі вобраз той здаецца,
Ці адзін, ці хаджу між людзей я...
Толькі ж... раптам, часамі прарвецца,
Бы шаленства якое, надзея:
З-пад святых нябес блакіту
Прамяніста сонца ззяе
І дзяцей зямлі з нябыту
І з заніку паднімае.
І буяе духам вольным
Той народ, што на раўніне,
І жывець жыццём давольным.
«Ён не згіне! Ён не згіне!»

4.III.1918 г.

## *Дакоры*

Ты не прыйшла, як быў я хворы,
І смерць парог мой сцерагла,
І мне канец здаваўся скоры,—
Ты не прыйшла, ты не прыйшла!..

Ты не прыйшла, калі мне снілась,
Што ты сястрой пры мне была
І як дзіцём, са мной вадзілась,
Ты не прыйшла, ты не прыйшла!

Ты не прыйшла, калі рукі я
Не мог паднесці да чала.
Былі усе... Былі чужыя.
А ты адна,— ты не прыйшла!..

Ты боль уцішыць мой каханнем
Патрэбы ў сэрцы не знайшла,
І, як другія, з прывітаннем
Ты не зайшла, ты не зайшла!

## *Хвейнаму другу*

Але, ну так, але, але,—
Мы ўсё яшчэ ў няяснай імгле,
Наперад глянуць,— далі там
Няма, здаецца, жаднай нам;

Па тэй дарозе, што ідзём,
Калоды, пні, завалы, лом,
І страх, і жах глядзяць зусюль,
Няма палёгкі ніадкуль.

І сілаў нам здаецца брак...
Усё так, усё так! — Але ж, аднак,
Пазбудзь трывог душы сваёй,
Няхай пануе вера ў ёй,—

Глядзі: ідзём мы не адны
Шукаць дабра для стараны,—
За намі рушылі яны —
Зямлі радзімае сыны!

●

Яшчэ не спаў з іх даўні сон,
Не прэціць ім кайданаў звон,
Не вытхнуў з іх ганебны дух
Рабоў адданых, верных слуг.

І можа быць, што раз, ізноў,
На даўніх трапіўшы паноў,
Ім паднясуць свае дары,—
Нічога, гэта да пары!

●

Нясмелы крок іх і цяжкі,
Дык ён і мусіць быць такі,
Бо гэта толькі першы крок...
Прыпомні, як вясной паток

Здаецца слаб, здаецца хіл,
Здаецца, ён не мае сіл,
І часта як тамуе бег
Яго вясняны рыхлы снег.

Аднак, што далей, то смялей
Бяжыць паток шырэй, глыбей
І хлусіць з розных перашкод
Ён сілай вод... Як ён — народ!

Беларусі мяняліся часта, было шмат самых розных партый. Сёй-той даволі ўмела іграў на нацыянальных пачуццях, на спрадвечнай мары беларускага народа мець аўтаномію, сваю дзяржаву. І разабрацца, дзе праўда, а дзе мана, было нялёгка, асабліва нядаўняму катаржніку, чалавеку, які каля дзесяці гадоў быў адарваны ад радзімы. А менавіта такі і быў Аляксандр Прушынскі — Алесь Гарун. І калі ў сакавіку 1918 года ўзнікла быццам свая дзяржава — Беларуская Народная Рэспубліка,— ён з чыстай і шчырай душой пайшоў ёй служыць. Праўда, вельмі хутка ён расчараваўся, убачыў, што БНР — гэта не тое, пра што ён, ды і яго народ, марыў. Вось, напрыклад, што ён гаварыў, выступаючы на адным з пасяджэнняў:

«Паны радныя, я чуў тутака гарачыя і прыгожыя прамовы. Шмат гаварылася тутака аб рэвалюцыі, аб заслугах блізкага нам расійскага пралетарыяту, аб патрэбе паглыбляць рэвалюцыю. Я шаную рэвалюцыю, я аддаю ёй сваю пахвалу. Я сам рэвалюцыянер [...] Вы гаворыце аб паглыбленні рэвалюцыі ў той час, калі нямецкі шуцман можа прыйсці сюды і разагнаць гэты высокі сход. Іншыя з Вас раюць нават змагацца з нямецкімі акупантамі аружнай сілай, вясці наш народ на барацьбу з узброенымі кулямётамі і гарматамі немцамі. А ці падумалі тыя, якія раюць гэта рабіць, і сваімі харошымі прамовамі і другіх да гэтага шалёнага ўчынку падбухторуюць, што магло б стацца, каб сапраўды наш селянін з голымі рукамі пайшоў біцца з немцамі? Ці падумалі аб тым, што мітынговыя прамовы пара скончыць, што трэба цяпераку займацца не прамовамі, а трэба [...] падумаць аб тым, як уцекачоў нашых пераправіць на Бацькаўшчыну, чым накарміць іх — як школы адкрыць, як абараніць нашага селяніна ад рэквізітараў, як завесці суды і шмат, шмат яшчэ чаго.

Паны радныя, памятайце, што мы — прадстаўнікі народа, яго голас. Прыпомніце, што народ нас выбраў для працы і і працы цяжкой, а не для гульняў і прыемных гутарак і супярэчак. Наш селянін мала гавора, а шмат робіць. Вас — прадстаўнікоў народнае волі — я заклікаю да працы.»

Погляды ў Аляксандра Прушынскага — Алеся Гаруна мяняліся, ён пакінуў партыю эсэраў, членам якой быў з семнаццаці гадоў, уліўся ў «Беларускую сацыял-дэмакратычную партыю», напісаў яе праграму, якая ў некаторых момантах мала чым адрознівалася ад праграмы партыі Леніна — партыі бальшавікоў. Таму не дзіўна, што калі ў 1919 годзе немцы адступілі з Мінска, Прушынскі не ўцёк у іх абозе разам з іншымі, а астаўся дома. «Нікуды не паеду,— казаў ён.— На Бацькаўшчыне шмат працы». І працаваў — у дзіцячых прытулках, памагаў бежанцам, цесна супрацоўнічаў з Савецкай уладай.

8 жніўня 1919 года ў Мінск уступілі палякі. Кіраўнік новай Польшчы Юзаф Пілсудскі аб'явіў свой вядомы Маніфест, які пачынаўся так: «Як роўны з роўным, як вольны з вольным... Ідзем вызваляць вас з-пад чужацкага ярма, каб вы самі пастанавілі аб сваёй дзяржаўнай уладзе...»

Каго маглі не падкупіць гэтыя словы? Шмат хто паверыў ім, паверыў і Аляксандр Прушынскі. Больш таго — калі ў верасні таго ж года ў Мінск прыбыў Юзаф Пілсудскі, Аляксандр Прушынскі, будучы старшынёй Беларускага нацыянальнага камітэта, вітаў кіраўніка новай Польшчы. Юзаф Пілсудскі зноў жа даволі ўмела сыграў на нацыянальных пачуццях — на прывітанне Аляксандра Прушынскага адказаў па-беларуску, паабяцаўшы беларускаму народу шырокія свабоды для развіцця культуры, гаварыў пра аўтаномію, падкрэсліваў, што ён сам з'яўляецца сынам гэтай зямлі і таму, можа, лепей, як хто іншы, разумее і адчувае ўсе яе беды і няшчасці. «Край гэты сам вырашыць, як яму жыць далей...»

Мінула вельмі мала часу, і Аляксандр Прушынскі пераканаўся, што словы Пілсудскага — гэта ўсяго толькі прыгожыя словы, і не больш, што няма ніякай магчымасці пад акупацыяй палякаў зрабіць хоць што-небудзь карыснае, патрэбнае народу, Радзіме. Сваіх поглядаў рэвалюцыянер па духу і складу характару Аляксандр Прушынскі не хаваў, таму не дзіўна, што польская контрразведка завяла справу не так званую Вайсковую камісію, дзе ён працаваў намеснікам, як на бальшавіцкае гняздо, якое зрывае арганізацыю беларускага войска, што, на думку акупантаў, павінна было быць кінута на барацьбу з бальшавікамі. Дарэчы, ёсць звесткі, што Аляксандр Прушынскі трапіў у гэтую Вайсковую камісію, насуперак яго волі — сяму-таму патрэбен быў аўтарытэт гэтага чалавека, што працуючы там, шукаў сувязі з тымі, хто ўзначальваў урад Савецкай Беларусі...

Хвароба тым часам рабіла сваю справу—Аляксандр Прушынскі чах, проста на вачах слабеў. 20 ліпеня 1920 года яго не стала. Ранняя — у 33 гады — смерць абарвала жыццё і творчасць Аляксандра Прушынскага — Алеся Гаруна, не дала яму заняць сваё месца сярод будаўнікоў новай Беларусі. І тое, што пахаваны ён не дома, а ў Кракаве, бо адступіў туды разам з палякамі — зноў жа, не яго віна, а бяда: ён быў амаль непрытомны, не мог стаяць на нагах, калі яго прывезлі на падводзе да цягніка і ўкінулі ледзь жывога ў санітарны вагон...

Аляксандра Прушынскага няма. Воля вольная кожнаму выказваць свае адносіны да яго жыцця і палітычнай дзейнасці — асуджаць або апраўдваць. І так, мабыць, і было б, калі б Аляксандр Прушынскі астаўся толькі Аляксандрам Прушынскім. Але, на шчасце, апрача яго, ёсць яшчэ і пісьменнік Алесь Гарун, яго творы — багатая і таленавітая літаратурная спадчына: вершы, апавяданні, п'есы, артыкулы... У іх — яго думкі, погляды, мары, надзеі, такая чыстая і светлая паэтычная душа. Дарэчы, гэтыя творы першы высока ацаніў Максім Багдановіч. Вось што ён пісаў у сваім артыкуле «За тры гады», змешчаным у «Каляднай пісанцы» (1913 г.): «З паэтаў «Нашай Нівы» назавём перш за ўсё А. Гаруна, ад каторага наша пісьменнасць можа шмат чаго спадзявацца. Лёгкасць і мілазычнасць верша, рупная шліфоўка яго, новае і вельмі пекнае счэпліванне рыфм,— усё гэта дужа аздабляе яго паэзію. У дзе-якіх творах спатыкаецца сіла і сціснутасць мовы. Галоўнае ж тое, што пры ўсім гэтым А. Гарун ні да каго іншага непадобны, што ён не зрабіўся нічыім «падгалоскам». Гэта зарука, што нашы надзеі на яго талент не пойдуць намарна.»

Літаратурная спадчына А. Гаруна нарэшце вернута народу. І, як некалі, гучаць яго словы, яго запавет:

**Ты, мой брат, каго зваць
беларусам,
Роднай мовы свае не цурайся;
Як не зронся яе пад прымусам,
Так і вольны цяпер не
зракайся.**

**. . . . . . . . . . . . . . .**

**Дык шануй, беларус, сваю
мову—
Гэта скарб нам на вечныя
годы;
За пашану радзімаму слову
Ушануюць нас брацця-народы!**

**Барыс САЧАНКА.**

 

# ПРЫНАЛЕЖНАСЦЬ

## СУСТРЭЧА З ГАЎРЫЛАМ ВАШЧАНКАМ

НЕКАЛЬКІ хвілін мяне штосьці ў майстэрні - турбавала, непакоіла. Спачатку не магла зразумець, чаму раптам адчуваю сябе тут няўтульна, хоць раней такое пачуццё ніколі не ўзнікала. Майстэрня нібы пабольшала, пасвятлела. Мусіла спытаць пра гэта ў Гаўрылы Харытонавіча.

**— Што змянілася? — перапытаў мастак. І растлумачыў:— Дык няма ж маіх твораў, амаль усё перавёз у музей. Рыхтуюся да персанальнай выстаўкі...**

Так, няма палотнаў, няма «гаспадароў», што насялялі майстэрню, напаўнялі яе іскаркамі жыцця, незвычайным святлом і цеплынёй. Не глядзіць табе ў вочы паляшук дзядзька Алесь, які займаўся адзінай справай на гэтай зямлі — араў яе і сеяў на ёй збожжа... Не гукае, не кліча палюбавацца хвалямі Дняпра і Прыпяці, блакітам азёраў, густымі кронамі лясоў горды бусел, які выпраставў крылы для палёту. Ён, гэты бусел, нібы адвечны вартаўнік гэтага краю — чысты, імкліва-неспакойны... Перасяліліся з цішыні майстэрні ў музейны зацішак пчаляр і пастух, палеская мадонна і дзеці з вялікай радаводнай бацькоў і дзядоў, адкуль бяруць пачатак карані Гаўрылы Вашчанкі.

— Ваша Брагіншчына, родная вёска Чыкалавічы... — памкнулася я задаць пытанне.

Жывапісец ціха перапыніў мяне:

**— Гэта — мой боль. Цяпер там — «мёртвая зона». Напісаў адно з сваіх палотнаў на гэтую тэму. «Радыяцыя» — гэтай карцінай распачаў цыкл. Не, я не канкрэтызаваў месца падзей, бо такое няшчасце можа здарыцца заўтра ў любой іншай кропцы зямнога шара. На палатне — неба быццам распаласавана: кавалак чыстага, блакітнага, і забруджанае, што пагражае сполахамі стронцыя. І коні, якія з трывожным іржаннем, падаючы, вырываюцца з гэтага пекла, з гэтай цемры апраметнай... А попел сыплецца на іх спіны... Усё жывое імкнецца да святла, усё жывое павінна жыць! Нам, людзям, за той блакіт неба трэба штодзённа змагацца. Так, перш за ўсё — за жыццё! Мірнае і стваральнае. Толькі тады ў ім будзе заўтра, толькі тады мы зможам захаваць памяць пра наша, дваццатае стагоддзе, і як гавораць, чыстымі рукамі перадаць яе нашчадкам. Разам са спадчынай мінулых стагоддзяў...**

Ведаю, праблема захавання культурнай спадчыны народа — адна з тых, што трывала ўвайшла ў свядомасць Вашчанкі-мастака, Вашчанкі-грамадзяніна. Нездарма яго выступленні на апошнім з'ездзе мастакоў рэспублікі, на ўстаноўчай канферэнцыі Беларускага фонду культуры адбіліся ў памяці. Заўсёды стрыманы ў эмоцыях, у пачуццях, ён гаварыў публіцыстычна-завострана, лакагічна, ярка. Падумалася: наша сённяшняя сустрэча ў майстэрні штосьці страціць, калі абміне тэму гістарычнай памяці, прыналежнасці чалавека, мастака да сваёй зямлі, народа.

**— Не разумею, чаму мы самі ж збядняем сваю культуру? — падтрымлівае маю думку-пытанне Гаўрыла Харытонавіч.— Чаму, напрыклад, не ўзнавіць гістарычную справядлівасць, скажам, у дачыненні да нашага першадрукара Францішка Скарыны? Сорамна, што ў Мінску дагэтуль няма яму помніка. А вуліца, што названа ў яго гонар? Ці ж гэтак трэба ўшаноўваць сваіх лепшых сыноў? На мой погляд, трэба зрабіць так: тую вуліцу, якая дзесяцігоддзямі называлася Друкарскай, перайменаваць у вуліцу Скарыны — бацькі кнігадрукавання, а перад Акадэміяй навук БССР паставіць яму помнік. Тое ж — і з помнікам Кастусю Каліноўскаму, якога дасюль у сталіцы няма. Дарэчы, вы ведаеце, што ініцыятарамі правядзення пленэра ў гонар Каліноўскага ў Гродне выступілі палякі?.. Каліноўскі — асоба выдатная! Мы ж чамусьці нібы ставім пад сумненне ягоную рэвалюцыйна-дэмакратычную дзейнасць... Яшчэ адно, што прымушае балець сэрца. Нядаўна вярнуўся з Масквы, з Усесаюзнага з'езда мастакоў. У час перапынку ў кніжным кіёску ўбачыў раскошны фаліянт — «Слуцкія паясы», выдадзены ў Польшчы. Адразу ўспомніў выдатную калекцыю слуцкіх паясоў у каралеўскай рэзідэнцыі ў Варшаве. А нам быццам няма справы да сваёй унікальнай спадчыны.**

Гутарылі мы з Гаўрылам Харытонавічам у той дзень пра многае: пра сядзібу Ваньковіча ў Сляпянцы, дзе, на думку мастака, трэба было б размясціць музей прыкладнога мастацтва Беларусі; пра тое, што прыбудова да Дзяржаўнага мастацкага музея, праект якой ужо распрацаваны, не выратуе становішча з запаснікамі, не разгрузіць іх: месца для экспазіцыі твораў нацыянальнага мастацтва ў той прыбудове ўсё роўна не хопіць. Відаць, разумней за ўсё было б падзяліць фонды на тры часткі — беларускага, рускага і заходнееўрапейскага мастацтва і зрабіць музейнае «кальцо». Напрыклад, гаворыць Г. Вашчанка, выдатную калекцыю рускага мастацтва размясціць у былым Доме палітасветы.

— Апошняе, пра што хацелася б даведацца, Гаўрыла Харытонавіч, дык гэта пра вашу працу мастака-манументаліста.

Гаспадар майстэрні прынёс чатыры акантаваныя ў рамы эскізы. Расставіў іх каля сцяны і пачаў каменціраваць:

**— «Над Нёманам», «Раўбічы», «Навагрудчына», «Сынкавічы»... Цыкл пра Бацькаўшчыну. Арыгіналы пакуль будуць экспанавацца на персанальнай выстаўцы, а потым іх размесцяць у зале для замежных пасажыраў аэрапорта**

ПРОЗА

# ДВА АПАВЯДАННІ

## Алесь Жук



## Вецер

Захаладала за ноч. Раніцаю вуліца пакрылася шэранькаю ледзяною скарынкай. Халодны і шчыльны, як вада, вецер збіваў з ног. Ён быццам рачная плынь, пёр па вуліцы ў берагах устылых сцен.

Чалавек спыніў мяне і запытаўся, як прайсці да гастранома, таго, што ля трамвайнага прыпынку «Вуліца Берсана». Спачатку мне здалося, што ён п'янаваты: неяк шырока расставіў ногі, абапёрся на старэнькую чорную крывульку з гумавым наканечнікам, купленую ў аптэцы. У левай руцэ матлялася на ветры карычневая сумка, старая, але акуратная. І адзенне на ім было старое і старамоднае. Мне здалося, што ён пачне прасіць капеек: тады і да Мінска дайшла мода ў алкаголікаў збіраць капейкі ў незнаёмых людзей на вуліцах.

— Я з Бараўлян, са шпіталя. Да сястры зайсці хачу. Мішку цукерак купіць трэба.

Мужчына нечакана ўсміхнуўся, пацяплеў ад усмешкі яго бледны, густа, навек ссечаны сінімі крапінкамі твар.

Я сказаў яму, што лепш перайсці на другі бок вуліцы і ісці да гастранома, дзе раней, пакуль хадзіў трамвай, і сапраўды быў прыпынак «Вуліца Берсана».

— Даўно не быў у Мінску,— вінавата прызнаўся мужчына.

Вецер трапаў полы расшпіленага пінжачка, пад якім была толькі шэранькая картовая рубашка. Відаць, калі ад'язджаў чалавек на лячэнне, не падумаў пра раннія асеннія халады. Матлялася на ветры сумка, і самога мужчыну хістаў вецер.

Нейкі час я стаяў, глядзеў, як чалавек асцярожна перайшоў цераз вуліцу. На адкрытым месцы яго неспадзявана маханула парывам ветру — упала на тратуар сумка, высока ўскінулася ўгору палка. Здалося, што чалавек упадзе, але ён астояўся.

Апранутая ў чырвоную куртку з белай аблямовачкай на капюшоне, у джынсавых штанах жанчына абышла чалавека, скоса і падазрона зірнула на сумку на тратуары, і болей не азіралася.

Мужчына паволі сагнуўся, падняў сумку і асцярожна і нязграбна пайшоў далей па вуліцы.

Ужо ў аўтобусе я не мог у думках адкаснуцца ад яго. Успаміналіся закасцянелыя, нейкія нязвыклыя наскі яго чаравікаў, і толькі тады я здагадаўся, што быў ён на пратэзах і ісці яму было цяжка нават тую невялікую дарогу, якую я паказаў.

Ад тае сустрэчы, мабыць, запала ў душу незразумелая макавінка нейкай маёй вінаватасці за той вецер і холад на вуліцы, за маладую, як напаказ, прыгожую жанчыну, якая абмінула інваліда, бо ўсё гэта, здавалася, забытае, паўстала ў памяці праз многа год зусім нечакана.

Дзень раскашаваў пяшчотны, цёплы. Гэтакімі днямі прырода нібы хоча сагрэць і суцешыць усё жывое перад доўгімі халоднымі дажджамі, сіберным ветрам і, здаецца, такімі далёкімі і жаданымі маразамі, чыстым снегам. Ля ўваходу ў магазін прадавалі ігрушы і вінаград. У самім жа магазіне «Дары прыроды» — мне здаецца што назву гэту прыдумаў нейкі цынічны жартаўнік — прадавалі развясны прывазны мёд і па яго стаяла чарга на ўвесь магазін.

— Мёду больш няма, толькі што асталося ў бітоне, — не першы раз папярэджвала прадаўшчыца.

У гэтай цеснаце паўз чаргу праціснулася да прылаўка высокая дзяўчына з сумачкай на плячы і густымі, нечакана залацістымі валасамі, якія ляжыліся на плечы. З-за іх усе, мабыць, і звярнулі на яе ўвагу.

— Ты куды без чаргі? Я маю права і то!.. Назад!

Мужчына ў шэрым касцюме, дасюль нічым не адметны ў чарзе, ціхі пенсіянер хапіў жанчыну за руку вышэй локця. І гэтае нечаканае «назад!» прагучала аднекуль з таго часу. І лютасць у вачах, якімі ён разануў, як аўтаматнай чаргой, вакол, была сапраўдная, белая, як і шкло трохлітровага слоіка ў другой руцэ мужчыны.

Скаланулася ад нечаканасці прадаўшчыца, замерла на імгненне чарга, спалохана прагучаў голас дзяўчыны:

— Мне не мёд... Я арэхаў хацела глянуць сыну.

— Я не хачу арэхаў, мама, пайшлі! — хлопчык, дасюль не заўважаны нікім, цягнуў сваю маладую маму за палец і насцярожана глядзеў на людзей. Жанчына з палёгкай паслухмяна пайшла за сынам.

Толькі тады ўздыхнула, заварушылася чарга.

— А рукі нечага распускаць, — быццам ні да кога і да ўсіх сказаў шчупленькі мужчына ў спартыўнай куртцы і вынашаных джынсах. — Нікому.

Мужчына з трохлітровым слоікам азірнуўся, змераў яго позіркам зверху ўніз.

— Асмялелі, перастройшчыкі!..

Ён больш нічога не сказаў, толькі шумна ўцягнуў праз ноздры паветра і завярнуўся да прылаўка. Праз два чалавекі падыходзіла чарга, мёду яму хапіла, на ўвесь слоік.

Я выйшаў на вуліцу. Усё гэтак жа сонечна і ўтульна свяціўся вераснёўскі дзень. Але і на гэтым цяпле халадам павявала ад нядаўняга. І ўспомніўся той асенні дзень, інвалід на халодным ветры, мытыя не раз, вылінялыя стужачкі ўзнагарод на калодцы. І сённяшні дагледжаны твар, тлуста бліскучая пад слюдой калодка ўзнагарод, амаль цалкам юбілейных, і непрытворная ўладная лютасць, якая прарвалася на людзей з мінулага, калі ў пашане быў другі парадак, які спадзяецца на сваё вяртанне. І тады можна будзе аднесці пірагі за ўсе страчаныя мяды.

Над прылаўкам з залацістым вінаградам сыта кружыліся восы, і прадаўшчыца дабрадушна, ленавата адмахвалася ад іх рукой.

## Пагарэльцы

Час ідзе, бярэ сваё жыццё. Сцішана глядзіць вёска з-пад засені векавых прысад на новыя пасёлкі, цэнтральныя сядзібы. І жыве, упэўненая ў сваёй патрэбнасці, сваёй праваце, зносіць ціха і цярпліва, па-сялянску, добрае і дрэннае, успамінае старое жыццё і дзівіцца праявам новага. Хаця здзівіць яе ўжо і цяжка — такога нагледзелася. Летам толькі ажывае галасамі сваіх гарадскіх унукаў, якіх наязджае болей, чым саміх жыхароў асталося. Слухае і ведае таямніцы бацькоў іхніх, якіх яна нарадзіла, а разам з імі і многа такога, што яшчэ гадоў дваццаць таму ёй і сасніцца не магло. Напрыклад, легкавічкі, якія сёння пыляць па вуліцы, а на ноч хаваюцца ў гаражы, што павыстаўлялі з платоў на вуліцу тлуста пафарбаваныя чырвоныя, сінія, срабрыстыя жалезныя вароты.

Першы даў форсу Віцічак: невяліччкі, шчуплы мужчына ў дыяганалевым салдацкім фрэнчы, галіфэ і ботах. Твар у яго заўсёды зарослы рэдзенькай рыжаватай шчэццю. Нават на святы, калі галіўся, усё роўна здавалася, што маленькі твар яго зарослы.

Вёска ведала, што Віцічак прагны на работу і на дабро. Як толькі крыху аслухалася, абжылася вёска пасля вайны, Віцічак улёг збіраць грошы: свіней трымаў, бычкоў гадаваў, гусей, качак... Акрамя калгаснай работы, зранку і вечарам цягаў мяшкі з зеллем усё лета. Потым падрасла старэйшая Таня, пайшла ўслед за бацькамі ў работу.

У той час Віцічак быў схадзіў нават і ў начальства — пабыў брыгадзірам. Нядоўга, праўда. Дапамаглі зайздрасць і звяглівасць. Выгледзеў у жніво, што нехта схаваў пад саломай у полі кучу збожжа. Не вытрывала душа, сам паехаў дармавое забраць. На тым і папаўся.

Пасля Віцічак гаварыў канцавому Косціку:

— Нацёрта яно мне было тое брыгадзірства! Толькі з людзьмі настыраешся, а наробку на каліва. Цяпер цялят пасу, у месяц больш за самога старсыню зарабляю!

Але гэта ўжо пасля строгай партыйнай вымовы і таварыскага суда.

— Дык цялят можна і не камуністам будучы пасвіць. А то ж плаціць трэба, — пад'ялдыкваў Косцік.

— У арміі зь нас, лепшых, прымалі, хто зь яго думаў...

Віцічак спахопліваўся і замаўкаў, на ўсякі выпадак азіраўся, ці няма нікога паблізу, акрамя Косціка.

Віцічак ганарыўся, што здагадаўся і не пасылаў сваіх дзяцей у горад у вялікую навуку, як модна было на першым часе. Праўда, і самі іхнія атэстаты падказвалі, што гэтакі блат будзе дорага каштаваць, ды і невядома, што з яго выйдзе. Сваёй мудрасцю Віцічак потым і пахваляўся.

— А сьто цяпер тая навука дае? Нуль цэлых і дзесятых. Мая ў сталоўцы робіць, галава не баліць, усяго хапае!..

Рабацяшчая і змасная, яго Таня ў сталоўцы знайшла сваю залатую жылу. Прыязджала дагледжаная, разадзетая.

— Цэлую сумку навезла яды. Сьто толькі хоцясь! — хваліўся Віцічак.

— То і мяне б пачаставаў, — абзываўся Косцік.

— Пайслі! Яна да мяне без бутэлькі горкай і не едзе!



 



«Мінск-2». Вырашыў гэтым творам надаць гістарычную трактоўку.

Памяць. Вось ён, неабходны зыходны пункт для творчасці! А яшчэ — любоў да чалавека зямлі, той зямлі, адкуль прабілася, забруілася крыніца натхнення творцы. Творцы, якому нядаўна нададзена ганаровае званне народнага мастака Беларусі.

...Бусел — дзівосная птушка шчасця — распасцёр бялюткія крылы на афішы, што запрашае на персанальную выстаўку Гаўрылы Вашчанкі ў Дзяржаўным мастацкім музеі рэспублікі...

**Л. КРУШЫНСКАЯ.**

**Віцічак ведаў, што цяпер яго Вера нікуды не дзенецца, выдасць прывезенае дачкой.**

**Потым Тані і вяселле справіў. Без вялікага размаху, але і не беднае. Маладыя ў сельсавет распісвацца на легкавых машынах ездзілі — зяць працаваў на рамзаводзе, і Тані з «торгу» «Волгу» выдзелілі.**

**— Сьто ты хоцясь! У яго рукі залатыя. Усе да яго — выруцы!..**

**Зяць умеў рабіць грошы. Хутка Таня прыязджала на ўласнай «Волзе». Зяць не без дапамогі Віцічка купіў старую машыну, а перарабіў у новую. Потым на вуліцы насупраць Віцічкавай хаты выраслі штабялі лесу, з якіх на ўчастку ў горадзе, які маладыя купілі разам з «урамянкай», устаў звонкі, з вялікімі вокнамі дом.**

**— Усё сваё. Сад. Агарод. Як і не ў горадзе, а на дацы. Толькі кватаранты за ўрамянку сэсцьдзесят рублёў плоцяць у месяц!.. — не мог нацешыцца Віцічак.**

**Таня Віцічкава тым часам злілася ў мажную, моцную, як злепак, маладзіцу. І зяць пакруглеў з твару, заблішчаў, а вусы распушыліся і натапырыліся. Пад домам ягоны гараж ператварыўся ў майстэрню. Аднаго, чаго не хапала Віцічку, — унукаў. Калі спачатку ён мудра пасміхаўся: «Абзыцца трэба, а дзяцей нарабіць навука невялікая,» — то цяпер памоўчваў, не прызнаваўся, што Таня і па дактарах ходзіць, і на курорты ездзіць. Каб насаліць Віцічку, суседка Шура, з якой мяжу на пляцы Віцічак не можа навесці і да сённяшняга дня, гаварыла ўсім:**

**— Дзе ж тое дзіця будзе? Каб даставаць, усім падстаўлялася. Лякарствы піла, каб дзяцей не было. А цяпер ялаўкай і зжыве!**

**— Ну сьто ты ад дурной Сулкі хоцяс? — разводзіў рукамі Віцічак.**

**Але і без Шуркі ведала вёска, што неаднойчы зяць, пасля таго, як добра «закідаў» з цесцем, ганяў ноччу жонку з пастронкам у руках па садзе, называў адным толькі словам. Тая скуголіла, а Віцічак з Верай пераймалі зяця і ўпрошвалі:**

**— Колечка, людзі ж пачуюць! Брыдка будзе...**

**Тым часам рос і Віцічкаў Вова. Гусей ён яшчэ пасвіў паслухмяна, а далей пайшоў сучаснай дарогай. І як ні крывіўся Віцічак, але купіць сыну матацыкл у восьмым класе давялося.**

**— Ськола цяперасьняя дзяцей распусціла. Цьорт ведае дзе ўсю ноч на матацыклах лётаюць! Я б то свайму не купіў, але Таня... Гросьай хапае, падарыла.**

**Гэтак гаварыў Віцічак, але вёска ведала, што даў грошы сам Віцічак пасля таго, як Вовік раніцай закрыў шклом комін, калі маці толькі запаліла ў печы, а дзверы калом падпёр. Давялося Віцічку праз акно вылазіць. Хоць летам гэта і лёгка, але ж не хацелася, каб суседзі бачылі, як дым праз вокны валіць. Вовік прыгразіў, што калі не купяць матацыкл, то не такое яшчэ ўчыніць.**

**Год пасля школы Вовік гойсаў на матацыкле на ўсе гулянкі ў наваколлі пакуль не забралі ў армію.**

**— Армія сьтука добрая, мухі выганяе! Таня яго на мясакамбінат прыстроіла. На кааперцію на царгу стаў. А дзеўку яму я сам добрую прыгледзеў, Місі з Замосця. Дарма, сьто маладая, але Міся дваццаць тысяч на каравай даў ёй!..**

**— А ты, багатыр, нябось зажаўся. Рады, што свата багатага знайшоў, — паддзеў Віцічка Косцік.**

**— Цяму? Я на ўсю абстаноўку, як палуцаць кватэру, даў.**

**— Пакуль таго кааператыву дачакаешся...**

**— А ім за карсэнь не капае. У Тані зывуць, ва ўрамянцы. Гэта толькі сказаць, што ўрамянка, а так нармальная хата. Цякай, колькі табе хоцяцца! Усе разам, як адна сям'я, — завяршаў гаворку шчаслівы Віцічак, і Косцік уздыхаў:**

**— Што тыя дваццаць тысяч. І я б іх даў, каб хто толькі маю браў.**

**Ішло жыццё. Зліквідоўваліся, а потым зноў пачалі называцца перспектыўнымі вёскі. Але перасталі ў магазінчыкі, якія былі ў кожнай вёсачцы, штомесяц прывозіць па цэлай машыне «чарніла». А як перасталі прывозіць, то магазінчыкі тыя зачынілі, пару разоў на месяц аўталаўку прысылаць сталі. І ўсё зноў рабілася з клопатам пра чалавечы фактар, а той гэтага не разумеў. І мацюкаўся. Гэтак жа, як і на «пажарнікаў», якія пачалі лазіць па будынках, чамусьці разам з участковымі і больш нюхаць па кутках, чым аглядаць гарышчы і каміны печаў. Але ж гэта толькі забаўкі ў параўнанні з тым, што перажыла вёска пад сваімі векавымі ліпамі і вязамі, што з ёю выраблялі, малюючы сонечныя перспектывы, пакуль людзей па свеце не разагналі. Меншае і меншае яна, як шагрэневая скура, а таму кожны чалавек у яе на віду.**

**Некалькі дзён не паказваўся на людзі Віцічак, і пачалі перапытваць у вёсцы, ці не захварэў? Але не ехала ў адведкі «на Волзе» Таня і Вовік са сваёй не паказваўся.**

**Усё адкрылася, калі да Віцічка зайшоў у адведкі канцавы Косцік, які апошні месяц праз дзень ездзіў у горад у гарэлачны аддзел гастранома і гараваў у кампаніі з бутэлькай сваё гора: ягоная дачка пайшла доктарам у армію, у Афганістан.**

**— Ну, яна зь доктар, а не салдат. І вайна гэта, кажуць, к канцу ідзе. Мо і з музам адтуль вернецца. Сьто табе, Косцік, гараваць вельмі! А ў мяне горс, цым у вайну карацель прайшоў! Вот зяцёк вырабіў дак вырабіў! З Вовікавай Ларыскай злёгся! На развод падалі, палавіну ўсяго адсудзілі, селі на «Волгу» і за свет паехалі! Там, казуць, радзіяцыі няма. Куды зь цяпер мая Таня? А Вовік гуляе, грошы прапівае! От вырабіў! Горсь, чым немец прайшоў! Усю зізню — падцыстую! Пагарэльцы мы з Верай! Усю зізню будаваліся, а цяпер на галавеськах сядзім. Пагарэльцы.**

**Віцічак плакаў горкімі слязамі, Косцік ківаў галавой, глядзеў у акно, за якім стаяў душны жнівеньскі дзень. Млелі на сонцы векавыя прысады. З акна відаць было, як па гравійцы пыліла калгасная агітмашына з чырвоным лозунгам на будцы — «Усе сілы на...» — развозіць механізатарам абед у тэрмасах. За ёй уставала густая сцяна пылу бязлітасна спякотнага пaслячарнобыльскага лета і асядала на траву, на лісце, на даспелую збажыну.**

**В І Н Ш У Е М!**

# «Весяліцесь, дзеці-зоркі...»

Творчасць Станіслава Шушкевіча — адметная старонка нашай дзіцячай літаратуры. У беларускую літаратуру пісьменнік прыйшоў у 20-я гады. Яго ранняя паэзія была па-маладнякоўску акрыленай, экспрэсіўнай. Не страціў аптымізм паэт і па сённяшні дзень, нягледзячы на многія цяжкія выпрабаванні, якія выпалі на ягоны лёс. У 1936 годзе С. Шушкевіч быў беспадстаўна рэпрэсіраваны. Трэба было мець запас духоўнай трываласці, каб вынесці восем год лагерных пакут. Не было ніякай віны і ў настаўніка Данілавіцкай сярэдняй школы Дзяржынскага раёна Мінскай вобласці Станіслава Шушкевіча, арыштаванага зноў у 1949-ым і сасланага ў бестэрміновую высылку ў Краснаярскі край. І толькі потым была рэабілітацыя, радасць сустрэчы з бацькаўшчынай. Пачынаючы з другой паловы 50-ых гадоў С. Шушкевіч атрымаў магчымасць працягваць актыўную літаратурную, журналісцкую і пісьменніцкую дзейнасць. А пражытыя ў Сібіры 20 гадоў, гадоў маладосці, не толькі не зламалі, а, наадварот, загартавалі яго, навучылі разумець і цаніць сапраўдныя каштоўнасці ў жыцці. Станіслаў Пятровіч на працягу многіх гадоў застаецца мудрым дарадчыкам і старэйшым сябрам нашай дзятвы.

Каб быць дзіцячым пісьменнікам, трэба быць філосафам і добрым чараўніком, любіць жыццё і ўмець радавацца яму, ведаць асаблівасці светаўспрымання дзяцей, іх клопаты ў школе, у дзіцячым садку, прычыны іх засмучэння і радасці. У многіх вершах нашага юбіляра адчуваецца блізкасць да народных дзіцячых жанраў — забаўлянак, прыгаворак. Вось, напрыклад, фрагмент верша «Цяцерына вячэра»:

**— Цяцера, цяцера,**
**Ці гатова вячэра? —**
**Дзеткі плачуць ледзь жывыя,**
**Шэры воўк галодны вые.**
**— Хай не шчэрыцца клыкаты,**
**А ідзе хутчэй дахаты,**
**Я не дам яму ні трошкі,**
**Я не дам яму ні крошкі.**

Традыцыйнае, народнае па-майстэрску пераасэнсоўваецца паэтам, набывае новыя мастацкія якасці і вартасці. Разам з тым вобразы дзіцячай паэзіі С. Шушкевіча рэалістычна-канкрэтныя, наглядныя: паэтавы словы па-народнаму дасціпныя, трапныя, ёмкія, таму лёгка запамінаюцца, трымаюцца ў дзіцячай памяці.

Натхнёна ў сваіх вершах С. Шушкевіч паэтызуе родную прыроду, Беларусь. Яны ўвасабляюць не толькі абуджэнне, абнаўленне і росквіт у прыродзе, але і перадаюць абнаўленне ў чалавечай душы, ненатольную прагу жыць, працаваць, здзіўляцца.

Паэт набліжае навакольны свет да разумення дзіцяці, дапамагае спасцігнуць гукі, рухі, фарбы прыроды.

Добра адлюстравана ў вершах паэта школьнае жыццё. Ён дасціпна расказвае пра будні і клопаты дружнага класа, піянерскага атрада. З лагодным гумарам кпіць з Віцькі-непамыцькі, які не спяшаецца змыць бруд з шыі, вушэй і рук; расказвае пра братоў-абібокаў Пазяхая і Уздыхая, пра хлопчыка Лёню, які забыў пра ўрокі і бавіўся на горцы. З непасрэднасцю і шчырым захапленнем паэт расказвае пра гульні-забавы дзяцей, пра маленькіх рыбаловаў, плыўцоў, лыжнікаў, асуджае тых, хто нядбала ставіцца да прыроды, раслін і жывёл.

С. Шушкевіч расказаў нашым дзецям пра подзвіг піянера Марата Казея. Жыццю Марата і яго ўдзелу ў барацьбе супраць фашысцкіх акупантаў прысвечаны кнігі «Гара Марата Казея» і «Апавяданні пра Марата Казея». І ў апошні час пісьменнік часта звяртаецца да вобраза і подзвіга гэтага героя.

Радасна, што і сёння Станіслаў Шушкевіч плённа працягвае творчую працу, рупліва клапоціцца аб учарашнім, сённяшнім і заўтрашнім дні роднай літаратуры, культуры, удзельнічае ў грамадска-літаратурным жыцці рэспублікі. Пражытае і перажытае, напісанае і сабранае ім, людзьмі яго пакалення, стала трывалым падмуркам духоўнай спадчыны для наступных пакаленняў беларусаў.

**Зоя МЕЛЬНІКАВА.**
г. Брэст.



С. ШУШКЕВІЧ сярод піянераў СШ № 167 г. Мінска.

Фота А. СІНІЛЫ.

**Станіслаў ШУШКЕВІЧ**

## ПРЫНЯСУ ЯШЧЭ ШМАТ ПЕСЕНЬ...

Прыйшоў, наведаў родныя мясціны —
Бор, азярцо, пагорак, дзе журчыць крыніца.
Мяне хвалююць і трывожаць успаміны,
Каб да сяброў і аднагодкаў не спазніцца.

Аж страшна, засталося землякоў так мала.
Тут песні камсамольскія калісьці разам пелі.
Вядома, многіх смерць скасіла і забрала,
А многіх я не ведаю, куды падзелі.

Цяпер жа восень. Гусі паляцелі клінам.
Крыклівых у далёкі вырай холад гоніць.
Тут над магілаю бацькоў маіх схілілася рабіна,
Асіна каля брамы звар'яцела, пляскае ў далоні.

Мо хто падумае, што гне мяне дакука,
Што сум мяне схіліў, зрабіў гарбатым.
Яшчэ шмат песень прынясу для ўнукаў,
Святла і радасці для кожнай хаты.

## ЁН ЛЯЦІЦЬ НАД НАМІ ЗОРКАЮ ГАРАЧАЙ

Каб пазнаць, адкрыць касмічныя пустыні
У прасторах аж завоблачных нябёс,
Першым зведаў невядомыя дасюль вышыні
Казачны адважны альбатрос.

Сэрцы біліся трывожна безупынна,
Хвалявалася краіна нібы мора.
Быў я кропелькай вялікае хвіліны,
Што прывабіла ўвесь свет да зораў.

На экране ўбачыў сонечную ўсмешку,
Радасцю нязвыклай кроў мая кіпела,
Першымі знайшлі мы ў космас сцежку,
Тую, што душа Гагарына хацела.

Гляну на твой ліст у шэранькім канверце,[1]
Зноў цябе жывым, вясёлым вочы бачаць.
Вы, жывыя, ў смерць Гагарына не верце,
Ён ляціць над намі зоркаю гарачай.

[1] У 1961 годзе я паслаў Юрыю Гагарыну свой зборнік вершаў «Услед за марамі». Я атрымаў ад першага касманаўта ў свеце ліст. Перадаю яго змест:

«Паважаны Станіслаў Пятровіч!

Дзякую за Ваш падарунак. Жадаю поспехаў у Вашай літаратурнай працы і моцнага здароўя.

З сардэчным прывітаннем Ю. Гагарын».

## ТЭАТР

# БАЛЬ ПОЎНІ

### «МАЙСТАР І МАРГАРЫТА» М. Булгакава на сцэне Дзяржаўнага тэатра лялек БССР

СПЕКТАКЛЬ Дзяржаўнага тэатра лялек БССР мае дакладную дату нараджэння — снежань 1987. Годам раней ягоная шчырасць магла падацца празмернаю, годам пазней ягоная смеласць не была б такою нечаканаю...

...З аднаго боку — складаная поліфанія булгакаўскай прозы, напластаванні эпох, сатыра, «гульні д'ябла», высокая трагедыя, з другога — самая цесная мінская сцэна, самая маленькая мінская трупа. Дарэчы згадаць разважанні Фагота пра пятае вымярэнне прасторы, хоць у дадзеным выпадку больш да месца размова пра яе тэатральнае вымярэнне...

Спектакль аб'ёмны — па колькасці сюжэтных ліній, па колькасці персанажаў (іх больш за сорак), па тэхнічных сродках — спектакль аснашчаны адмысловай машынерыяй, у ім бяруць удзел маскі, партэрныя і механічныя лялькі (апошнія сядзяць у зале сярод публікі і па ходзе дзеі падымаюцца, жэстыкулююць, кідаюць рэплікі — без дапамогі акцёраў). Спектакль — не толькі сведчанне прафесіяналізму ягоных стваральнікаў, іх чуйнасці да аўтарскіх падтэкстаў і



«Майстар і Маргарыта» М. БУЛГАКАВА. Сцэна са спектакля.
Фота Д. КЛІМЕНКІ.

ўмення інтэрпрэтаваць празаічны твор тэатральнай сучаснай мовай. «Майстар і Маргарыта» на сцэне Дзяржаўнага тэатра лялек БССР — гэта спроба ўсвядоміць, зразумець той перыяд айчыннай гісторыі, які зусім не так даўно быў яе «белай», лепш сказаць, «чорнай плямай». Спекуляцыя на ідэалах народа, судовыя фальсіфікацыі, патаемныя арышты і расстрэлы вынікалі з найскладаных грамадскіх працэсаў, іх трэба ўважліва аналізаваць. Нам мусіць адбалець, як балела ахвярам трагедыі тых часоў; пакутай кране нашы душы зведванне ісціны. А веданне дапаможа зразумець і вытокі негатыўных з'яў нядаўніх часоў: дэвальвацыю асобы, пагарджэнне талентам, безумоўнае і поўнае панаванне аўтарытэту ўлады над уладай аўтарытэту... Спектакль распавядае пра часовае і адвечнае, пра веру і бязвер'е, пра вернасць ідэалам і здраду ім, але больш за ўсё — пра тыранію і свабоду, пра неабходнасць заставацца самім сабою.

Дзеянне разгортваецца ў двух часавых пластах: «маскоўскія сцэны» каменціруюцца і асэнсоўваюцца ў дыялогах пракуратара старажытнай Іудзеі з арыштаваным філосафам Ешуа. На пляцы Пілатава палаца сутыкнуліся дзве сілы — дыктатара і мысліцеля, уладара лёсаў і валадара розумаў. Адвечны канфлікт, які трагічна цягнецца праз стагоддзі... Выканаўца ролі Пілата У. Уласаў падрабязна перадае складаны псіхалагічны малюнак ролі: вось пракуратар здзівіўся чысціні філосафа... угледзеў у ім талент лекара... ацаніў моц духу... пацягнуўся да дзіўнага вязня... і — здрадзіў Ешуа, бо спалохаўся ягонага прароцтва пра будучы свет без улады кесара. Трусасць уладара зрабілася дамінантай вобраза, акцёр падкрэслівае гэта і сцвярджае думку, што нельга быць вольным сярод рабоў, можна быць толькі першым сярод іх...

Час у спектаклі звязваюць безыменныя персанажы ў форме падобнай да вайсковай, свайго роду «здані». Яны паслугуюць Пілату, распінаюць Ешуа, арыштоўваюць Босага, цягнуць «лекавацца» Бяздомнага... З-пад белых халатаў лекараў таксама вытыркаюцца зялёныя і карычневыя фрэнчы; лекары таксама маленькія вінцікі страшэннай машыны гвалту і ўціску. І там, дзе яна запушчана, зусім звычайным падаецца з'яўленне Воланда і яго світы. Тыя прысутнічаюць ва ўсіх эпізодах: назіраюць, умешваюцца, інтрыгуюць, махлююць, ашукваюць, забаўляюцца; круцяць-верцяць колы адавай машыны, а выканаўцы ў сініх галіфэ па самых абсурдных паклёпах-нагаворах цягнуць, арыштоўваюць, няволяць, ганьбяць, няславяць, забіваюць... Д'ябальскі калаўрот, баль поўні... Шоргат гумы ля пад'езду... Ціхі стук у дзверы...

Перакладаючы раман на сучасную сцэнічную мову, інсцэніроўшчык і рэжысёр Аляксей Ляляўскі імкнуўся максімальна захаваць ягоную пабудову: дзеі нададзена поліфанічнасць, сцэнічны час сціснуты, некалькі сюжэтных ліній развіваюцца адначасова. Тры спосабы стварэння вобразаў, па сутнасці, перадаюць ступені духоўнай свабоды ці няволі герояў спектакля. Персанажы, вольныя ў сваіх учынках,— ці праз сваю звышнатуральную прыроду, як Воланд, ці праз высокую духоўнасць, як Ешуа,— падаюцца «жывым планам». Лялькі ўвасабляюць тых герояў спектакля, якімі валадараць «нізкія» страсці: Сцёпа Ліхадзееў, Берліёз, Міканор Іванавіч Босы, Жорж Бянгальскі, наведвальнікі Тэатра вар'етэ. Маскі — знакі заганы ці распусты. У масках выступаюць Пілат, госці на бале Сатаны (дарэчы, уніформа безыменных персанажаў таксама ўспрымаецца як своеасаблівая маска). Майстар, Маргарыта і Іван Бяздомны існуюць у двух станах: духоўна зламанымі, спустошанымі, яны пададзены праз нерухомасць адпаведных лялек, а поўнымі жыццёвых сіл — праз драматычнае выкананне.

Падобны прыём дазваляе рэжысёру дасягаць надзвычай моцнага эфекту, напрыклад, у сцэне сустрэчы Маргарыты з Майстрам пасля балю поўні. Жывая Маргарыта яшчэ трапеча і калоціцца ад перажытага жаху, ад чакання, ад болю за каханага і раптам бачыць не жывога чалавека, а ляльку — яго змучаны цень... Менавіта тады яна ўсведамляе, што для каханага магчыма толькі адно вызваленне — небыццём, і вырашае адысці разам з ім.

Лялечны і «жывы» пласты спектакля зыходзяцца ў фінальнай сцэне — адыходу Маргарыты і Майстра. Бяздомны, пабачыўшы Майстра спакойным і шчаслівым побач з каханаю, раптоўна разумее, якім коштам дасягнуты гэты спакой...

Турэмныя пераходы ператвараюцца ў лесвіцу, Майстар і Маргарыта павольна знікаюць у цемры і, азірнуўшыся на імгненне, бачаць, як пад векамі дзвюх трун, ля якіх спрытна завіхаюцца людзі ў форме, апошні раз мільганулі іхнія твары — васковыя твары лялек. Яны адыходзяць усё далей і далей, туды, дзе ўсё можа адбыцца і спраўдзіцца: знойдзе даравання Понцій Пілат, знойдзе ісціну філосаф-жабрак з Іудзеі, знойдуць каханне і спакой яны, Майстар і Маргарыта... На пустой сцэне ў вертыкальных плынях святла застаецца чакаць свайго вызвалення паэт Іван Бяздомны...

Можна сказаць, што «Майстар і Маргарыта»— рэжысёрскі спектакль. Вялікія падставы ёсць, каб назваць яго акцёрскім. Самым правільным будзе сцвярджэнне, што Ляляўскі пабудаваў гмах спектакля, гаспадары ў якім — акцёры. З адметным пачуццём стылю, дасціпна і вынаходліва іграюць «інфернальную» світу Воланда А. Казакоў (Бегемот), В. Белаш (Гела), У. Варанкоў (Фагот). Сапраўдны драматызм уласцівы Н. Кафанавай у ролі Маргарыты. Майстрам эпізоду выявіў сябе А. Вергуноў у ролях доктара Стравінскага і акцёра Куралесава.

**Ёсць у спектаклі акцёрскія работы, якія не ствараюць уражання завершаных. Іван Бяздомны — У. Грамовіч на прэм'ерных спектаклях выглядаў пасіўным назіральнікам за падзеямі. Такое сціплае выкананне не адпавядае значэнню вобраза ў структуры спектакля, бо лёс Івана—гэта драматургічная вось падзей. Маналог Бяздомнага распачынае дзею, праз яго распавяданні мы спазнаём падзеі і характары персанажаў. З тэкста Булгакава вядома, што з Іванам адбываюцца вялікія перамены: ад прыстасаванства і абыякавасці чалавек прыходзіць да ўсведамлення ўласнай драмы. Ён той, хто ідзе ўслед за Майстрам, не прымае тыраніі, дамагаецца волі — любым коштам, нават праз смерць. Але лёс героя ва ўсёй паўнаце акцёрам не пражываецца, і вобраз Івана губляецца ў насычанай сцэнічнай дзеі.**

У адрозненне ад дасціпнай і дзейснай світы, Воланд у выкананні А. Васько залішне засяроджаны на сваёй усемагутнасці: імкнецца выглядаць значным, а выглядае скаваным. Праўда, ён умее спяваць па-французску, але ўсё-ткі значна саступае булгакаўскаму персанажу ў шарме, элегантнасці і пачуцці гумару. Манатоннае выкананне ролі Воланда зрабіла неабавязковым шэраг эпізодаў спектакля, напрыклад, гутарку Воланда і Фагота з буфетнікам Сокавым. Тэкст Булгакава, безумоўна, цудоўны, але для тэатра гэтага недастаткова...

**Такія самыя сумненні выклікае і сцэна з Алаізіем Магарычам, які ўзвёў на Майстра паклёп, каб завалодаць ягонай кватэрай. Менавіта ад гэтага моманту дзеянне набывае трагічнае гучанне, таму сатырычныя фарбы, якімі абмалёўваецца лялечны персанаж, успрымаюцца недарэчнымі.**

Неадназначнае ўражанне пакідае і работа І. Клімовіча ў ролях Майстра і Ешуа. Абодва гэтыя вобразы, па сутнасці, дзве версіі аднаго характару. Ешуа — асоба, якая адбылася і засталася да канца вернай сваім ідэалам. У Майстры Булгакаў падаў чалавека чыстага, таленавітага, але які не ўмее і не жадае змагацца за свае перакананні. Ягонае жыццё — суцэльная спроба адгарадзіцца ад жорсткасці свету творчасцю і каханнем.

Акцёр шчасліва «пацэліў» у вобразах сваім аблічам, выклікаў у гледачоў сімпатыю, але на прэм'ерных спектаклях і Майстра, і Ешуа ён іграў аднолькавымі, хоць розніца паміж персанажамі істотная і мае прынцыповае значэнне для філасофіі твора Булгакава. Праўда, у маладога акцёра ёсць усе падставы і дадзеныя для поспеху.

Цяжка ў гэтым спектаклі пераацаніць ролю сцэнографа — А. Фаміной. Дэкарацыя — чырвоная цэгла сцен, металічныя лесвіцы і пераходы — лёгка змяняецца ад нязначнай перамены асвятлення: робіцца то ўтульным пакойчыкам, то змрочным засценкам, то пляцам ці тэрасай Пілатава палаца. Прастора сцэны зеўрае безданню на балі поўні, быццам дэманструючы ўменне Фагота маніпуляваць пятым вымярэннем. Сцэнограф дала аблічча героям спектакля—у ляльках, масках, касцюмах, грыме. А. Фаміна менш за ўсё наследавала «літары» рамана, таму воблік персанажаў дакладна адпавядае ягонаму духу.

Трэба адзначыць і музыку У. Кандрусевіча — не як фон падзей спектакля, а самакаштоўную драматургічную «адзінку».

Спектакль «Майстар і Маргарыта» паводле М. Булгакава не бясспрэчны па сваёй канцэпцыі. Некаторыя яго меркаванні і высновы могуць падацца катэгарычнымі, трактоўкі асобных сцэн — залішне рэзкімі, нават непрымальнымі. Спектакль хвалюючы, адкрыта палемічны, але стваральнікі, на мой погляд, зусім не дбаюць пра яго абсалютнае прыманне: яны, хутчэй, запрашаюць да спрэчкі пра час, пра нас, пра наша ўменне і здольнасць браць урокі з мінулага.

**Галіна АЛІСЕЙЧЫК.**

---

СМЕШНА ўспамінаць — яшчэ некалькі гадоў назад мы баяліся, што тэлебачанне адвучыць людзей чытаць. Усё мяняецца! З раніцы — чэргі ля газетных кіёскаў, а за многімі кнігамі — чэргі ў бібліятэках, а тэлевізар, бывае, і не ўключаеш: чытанне паглынае ўвесь час. Нядаўна знаёмая, завітаўшы ўвечары, здзівілася: «Глядзіце тэлевізар? Наш сапсаваўся, але майстра яшчэ не выклікалі — ўсё роўна, глядзець няма чаго...» — ідуць адны паўторы...

І мінулы тыдзень не парадаваў навізной. Усе тры праграмы — аж да пачатку Алімпійскіх гульняў — нібы спаборнічалі, у каго больш паўтораў. І рэкорд тут пабіла Беларускае тэлебачанне. Па рэспубліканскай праграме паўтараліся не толькі мастацкія і дакументальныя фільмы, але і нядаўна паказаныя перадачы (напрыклад, тэлечасопіс «Мерыдыян», «Суст-

---

НАРАДЗІЎСЯ Мінскі камерны аркестр 28 сакавіка 1968 года. Гэта — паводле дакументаў. «Неафіцыйна» ж калектыў існаваў раней. Ужо ў 1967 годзе кампазітар і арганіст Алег Янчанка неаднаразова збіраў найбольш актыўных мінскіх музыкантаў для супольнага музіцыравання. Ігралі тады пераважна музыку сучасную, як савецкую, так і замежную, якая толькі-толькі пачала прабівацца да нас.

Алег Янчанка скончыў Маскоўскую кансерваторыю і быў больш дасведчаны ў навінках сучаснай музыкі, ён прывозіў незнаёмыя нам, мінчанам, ноты і запісы, і мы з вялікай асалодай удзельнічалі ў тых музычных сустрэчах. Ну а калі музыканты-аднадумцы збіраюцца разам, іх рана ці позна захапляе ідэя супольнай ігры.

І вось у нас узнікла ідэя стварыць свой калектыў, які займаўся б камерным музіцыраваннем. Пасля многіх начных і вечаровых рэпетыцый (іншага часу для рэпетыцый не выпадала, бо асноўнымі ўдзельнікамі аркестра былі студэнты Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі) наладзілі першы канцэрт у зале філармоніі. У лістападзе 1967 года з салісткай Вялікага тэатра Саюза ССР М. Міглау мы выехалі ў Віцебск, дзе адбыўся першы выязны канцэрт Мінскага камернага аркестра — так мы вырашылі назваць наш калектыў.

**Са студзеня 1968 года А. Янчанка ўжо актыўна хадайнічаў за фінансавае забеспячэнне нашага калектыву. У выніку ягоных намаганняў мы сталі філарманічным калектывам. 28 сакавіка быў выдадзены загад міністра культуры аб арганізацыі Мінскага камернага аркестра. З музыкантаў, якія ўдзельнічалі ў арганізацыі калектыву, цяпер працуюць шэсць чалавек: заслужаны артыст рэспублікі канцэртмайстар аркестра Міхаіл Штэйн, саліст Аляксандр Прыходзька, канцэртмайстар групы альтоў Лучыя Ластаўка, віяланчэлістка Раіса Позіна, скрыпачкі Валянціна Гурына і Людміла Кацішэўская і аўтар гэтых радкоў, клавесініст і піяніст Аляксандр Мільто.**

**Здавалася б, ну што асаблівага можна расказаць пра нашу працу: рэпеціруем, выступаем з канцэртамі. І гэтак—ужо 20 гадоў. Але ж я паспрабую ў некалькіх штрыхах адлюстраваць «жыццёвы партрэт» Мінскага камернага аркестра.**

ПЭЎНА, памятаюць чытачы «ЛіМа» публікацыю пра вялікі поспех канцэрта нашага аркестра на фестывалі «Снежаньскія вечары» ў Маскве, у Дзяржаўным музеі імя Пушкіна (1983 год). Гэтае выступленне навяло нас на думку наладзіць такія ж канцэрты і ў нас у Беларусі. Сёе-тое ўдалося зрабіць. Да фестывалю мы пакуль «не дацягнулі», але ўжо неаднойчы праводзілі канцэрты ў Магілёве, у

## ЧЫТАЧ ПРОСІЦЬ РАСКАЗАЦЬ

**У рэдакцыю «ЛіМа» прыходзяць лісты, у якіх выказваюцца просьбы больш увагі ўдзяляць так званым нефармальным аб'яднанням моладзі.**

**Так, напрыклад, хатняя гаспадыня з Гродна Алена Крачкоўская піша нам: «Жыву я ў Гродне, з'яўляюся членам клуба «Паходня». Такія аб'яднанні, як наш клуб, ёсць у розных гарадах нашай краіны. Але чамусьці так мала ў друку пішацца пра нефармальныя аб'яднанні, клубы, якія робяць часам вельмі важныя і патрэбныя справы. Мы, напрыклад, у сваім клубе абмяркоўваем творы пачынаючых паэтаў і празаікаў, знаёмімся з гісторыяй, культурай нашага краю. Зусім нядаўна па ініцыятыве клуба «Паходня» ў Гродне праходзіла канфэрэнцыя, прысвечаная 300-годдзю Гродзенскай аптэкі.**

**Клуб «Паходня» арганізаваў пры музеі М. Багдановіча дзіцячы літаратурны гурток «Вянок», якім кіруе Данута Біч эль-Загнетава. З якой цікавасцю вучаць тут дзеці вершы беларускіх паэтаў, спяваюць песні. Я і мае трое дзяцей (меншаму пяць год) таксама з задавальненнем прыходзім кожную суботу ў музей. Дзеці — наша будучыня, і яны павінны любіць, паважаць, ведаць гісторыю свайго краю, яго культуру, а прыкладам можам служыць толькі мы, дарослыя.**

**Свядомасць, як я заўважыла, у маладых людзей пачынае моцна праяўляцца ў студэнцкім узросце. Таму найперш студэнты і ўваходзяць у клубы тыпу «Паходні», але падтрымкі ад старэйшых часам і не знаходзяць. Лічу, што падтрымаць можна публікацыямі, давер'ем. А то ў нас, у Гродне, усе, к прыкладу, ведаюць, што ёсць клуб калекцыянераў, а пра «Паходню» ці ўвогуле ніколі не чулі, ці такія чуткі ходзяць, што «вушы вянуць».**

**Асабіста для мяне клуб «Паходня» стаў як бы крыніцай новых ведаў, новых адносін паміж людзьмі. У сваёй сям'і мы размаўляем па-беларуску, вучым дзяцей сваёй мове. Дачка пачала рабіць першыя крокі ў паэзіі, і першыя вершы яе — на роднай мове».**

**А С. Цярэнцьеў з Віцебска паведаміў нам пра канферэнцыю пад дэвізам «Экалогія культуры», якая адбылася мінулагодняй восенню ў Ленінградзе. Чытач выказвае свае думкі аб руху «нефармалаў» і прапануе, каб мы расказалі на старонках газеты пра аб'яднанні «Талака» (Мінск) і «Узгор'е» (Віцебск), што прынялі ўдзел у канферэнцыі разам са шматлікімі групамі моладзі з розных гарадоў нашай краіны.**

**З просьбамі расказаць аб тым, што з сябе ўяўляе «Талака», што аб'ядноўвае яе членаў, звяртаюцца да нас і іншыя чытачы.**

**Нататкі журналіста Віктара Мартыненкі ў пэўнай меры адказваюць на чытацкія пытанні.**

# Будуюць хату талакой...

У сацыялізме — грамадстве сацыяльнага вызвалення працоўных — спраўджваецца даўняя мара чалавецтва. Але мы ідзём нікім не ходжанымі сцяжынамі і, натуральна, увесь час натыкаемся на праблемы самага рознага характару. Адны з іх вырашаюцца правільна, другія — не без памылак, вырашэнне трэціх замаруджваецца... А замаруджванне з вырашэннем пэўных праблем можа выклікаць розныя стыхійныя рэакцыі грамадства.

Скажам, маладзёжныя фарміраванні накшталт гомельскага і мінскага клубаў «Талака», гродзенскай «Паходні», полацка-наваполацкага «Маладзіка», віцебскага «Узгор'я», брэсцкага «Краю» і г. д. узніклі ў нашай рэспубліцы ці не таму, што справа выхавання нацыянальнай свядомасці была пушчана на самацёк? Гэты безумоўны пралік спараджаў нацыянальны нігілізм, адбывалася дэфармацыя разумення інтэрнацыяналізму. Але тое, што сам уклад нашага жыцця вылучыў як альтэрнатыву аб'яднанні, якія жывяцца не абывацельскімі настроямі, а духоўнымі запатрабаваннямі, — ужо гэта сведчыць пра магутны сацыяльны патэнцыял. Аднак рэалізоўваць гэты патэнцыял эфектыўна трэба яшчэ вучыцца і вучыцца. Важна, каб патрэбнасць дбайнага розуму ў гэтай справе не ператваралася ў звышдбайны бюракратызм — тое, што вельмі яшчэ перашкаджае згаданым маладзёжным суполкам. Лёс мінскай «Талакі» тут вельмі характэрны.

Не на пустым месцы з'явілася яна ў 1985 годзе. Спачатку была «Майстроўня»— клуб, дэвізам якога, бадай, было — «моладзь і мова». Праўда, знайшліся гэткія купалаўскія спяпаны крыніцкія, якім «абы ціха». Яны ў павазе да роднай мовы заўважылі нацыяналізм, а ў палымяным пратэсце супраць нядбайнасці некаторых гаспадарчых дзеячаў да гістарычнай спадчыны — звычайнае хуліганства. І «Майстроўні» не стала. Гэта не значыць, што не стала скіраванай адпаведна свядомасці.

Новае аб'яднанне ўзяло іншы кірунак. Маладыя людзі — студэнты, рабочыя, інтэлігенцыя — вырашылі, улічваючы папярэдні вопыт, супрацьпаставіць старым поглядам не словы, а справы. І назву абралі адпаведную — «Талака». Талака — гэта калі бяда ў аднаго, а клопат — ва ўсіх. Ёсць добры старадаўні звычай: калі згарэла ў каго хата, дык усёй грамадой людзі збіраліся на талаку, бо разам і ямчэй і хутчэй працаваць. А хіба гэта не сапраўдны пажар, калі з-за невуцтва пэўных адказных асоб або недахопу сродкаў на рэстаўрыцыю, старадаўнія помнікі архітэктуры ператвараліся ў стойлы для жывёлы, збожжасховішчы ці ўвогуле руйнаваліся? «Талака» прапанавала не сродкі, а рукі. Плюс працоўны энтузіязм.

Старшынёй клуба выбралі маладога рабочага мінскага вытворчага аб'яднання «Інтэграл» Сяргея Вітушку. Ён і па сённяшні дзень лідэр «Талакі», але цяпер ужо Сяргей — студэнт гістарычнага факультэта Белдзяржуніверсітэта.

**— Пайшоў вучыцца, бо адчуў недахоп ведаў,— тлумачыць Вітушка.— Мы займаемся сур'ёзнай справай — бясплатна працуем на археалагічных раскопках, на аб'ектах рэстаўрацыі. І няхай мы толькі дапамагаем спецыялістам, але ж не павінны і самі быць дылетантамі. Прынамсі, я, як старшыня клуба, не магу сабе такога дазволіць...**

Суботнікі на Траецкім прадмесці, сядзібе Ваньковіча ў Мінску, вандроўкі па гістарычных мясцінах Беларусі, удзел у разнастайных маладзёжных сустрэчах — хіба пералічыш усе карысныя справы «Талакі»? Тым больш, што нават вандроўкі ў іх незвычайныя. Расказвае актывіст клуба, грузчык Беларускай чыгункі Віктар Івашкевіч:

**— Мы тут не ў ролі турыстаў. Не разумеем тых, хто ходзіць, каб проста «накручваць» нагамі кіламетры, і прыдумвае сабе розныя «катэгорыі складанасці». Складанасць нашых маршрутаў залежыць ад колькасці занядбаных помнікаў культуры, з якіх трэба вывезці смецце, падладзіць мур ці хоць аднавіць адарваную шыльду «Ахоўваецца дзяржавай». А часам і альпіністаў прыходзіцца ўшчуваць, калі яны, штурмуючы старажытныя вяршыні дойлідства, нявечаць іх сваім альпінісцкім рыштункам...**

Не дзіўна, што плён дзейнасці «Талакі» не застаўся без увагі: радыё, тэлебачанне, прэса прысвяцілі маладым энтузіястам рэпартажы, артыкулы, нават перадавіцы, падкрэсліваючы той прыклад сацыяльнай свядомасці, які грунтуецца не на словах, а на справах. У маладзёжных аб'яднаннях Гомеля, Віцебска, Полацка, як у мінскай «Талацэ», гэты рух за гістарычную памяць становіцца рухам за паўнацэнную духоўную культуру. У суседняй Літве з'явілася нядаўна аналагічнае аб'яднанне «Талка». Праўдз, амаль адразу пасля яго з'яўлення... беларусам ужо можна было ехаць у Вільнюс па вопыт: клуб адразу пачаў працаваць на базе мясцовага фонду культуры, з дапамогай гарвыканкома атрымаў пастаяннае памяшканне, тэлефон, магчымасць рэкламы сваіх мерапрыемстваў праз рэспубліканскі друк. Нічога падобнага нашы пачынальнікі пакуль не маюць: віцебскае «Узгор'е» кожны сезон з'язджае з чарговых «зімовых кватэр», гомельскі клуб нядаўна атрымаў падвальнае памяшканне, а мінская «Талака» ўсё пераязджае з аднаго Палаца культуры ў другі.

На жаль, грамадскае прызнанне нефармальных аб'яднанняў не ператварылася яшчэ ў сталую афіцыйную падтрымку. І вытокі гэтага трэба шукаць у кансерватызме тых чыноўнікаў, якія прывыклі ствараць дабрабыт са слоў і фраз, з-за чаго кожнае незразумелае слова ці сімвал для іх здольны закрэсліць у іх вачах усе добрыя справы.

Скажам, ніхто не супраць таго, што некаторыя юнакі і дзяўчаты свой вольны час аддаюць не бяздумнаму торганню ў дыска-барах, а карыснай працы. Але калі яны ж працуюць на аднаўленні цэркваў ды касцёлаў, ды яшчэ «нейкія значкі» (?!) на сябе чапляюць...

А між тым, час бы залішне пільным чыноўнікам зразумець, што адраджэнне некаторых гістарычных сімвалаў — гэта і канкрэтная контрпрапаганда супраць распаўсюджання буржуазнай сімволікі. Няўжо ж лепш, калі наша моладзь упрыгожвае сваю вопратку амерыканскімі сцяжкамі, ідаламі заходняй маскультуры...

Яшчэ горш, калі да нежадання зразумець моладзь дадаюцца яшчэ і бюракратычная абыякавасць, самадурства. У Віцебску ачышчаную ад камянёў і падрыхтаваную «ўзгорцамі» да рэстаўрацыі Прэабражэнскую царкву мясцовыя чыноўнікі адвялі пад... стойлы для жывёлы. А што? Ёсць бясплатная рабсіла— яны і гной, калі трэба, вывезуць!

Сёй-той называе энтузіястаў з «Талакі», «Узгор'я», «Паходні» «аматарамі фальклору», «прыхільнікамі даўніны»... Але ён проста не ведае іх, гэтых сучасных хлопцаў і дзяўчат. Яны з захапленнем святкуюць Купалле пасля чарговага суботніка, які адбыўся пасля працоўнага дня, а на другі дзень — у выхадны — крыху паспаўшы, спяшаюцца на аўтобус у Дзяржынск на фестываль мінскага рок-клуба «Няміга». Іх цікавіць усё... Усё, што мае дачыненне да развіцця роднай культуры. Так што марнуе час той, хто шукае ў іх нацыяналістычную адасобленасць. У рэшце рэшт яны імкнуцца ўдыхнуць сапраўднае гучанне ў паняцце інтэрнацыяналізму, сутнасць якога, як вядома, не ў самаліквідацыі нацыянальных культур, а ва ўзаемаўзбагачэнні.

**Віктар МАРТЫНЕНКА.**

ЗНАЕМЯЧЫСЯ з выстаўкай «Няміга-17», я зноў успомніў «нефармалаў». Успомніў і ўсміхнуўся: некаторыя ж з удзельнікаў «Нямігі...» таксама ў свой час пачыналі як «авангардысты». Многа гадоў назад мы з Л. Шчамялёвым наведалі майстэрню А. Кузняцова, дакладней, памяшканне, дзе ён вёў дзіцячую студыю выяўленчага мастацтва. Убачылі там такія экзерсісы, што цяперашняй «Форме» або «Галіне» і не снілася. Эксперыментавалі і М. Бушчык, і А. Мацiевіч, і Т. Сакалова, і А. Мятліцкі. «Авангардысцкая» работа А. Малішэўскага вось ужо колькі гадоў упрыгожвае маё жыллё.

Падумалася: у аснову сапраўднага мастацтва заўсёды пакладзена праўда. Не вытанчанае майстэрства, не фантомы самазаглыбленага мыслення, не эксцэнтрыка атракцыёнаў, а праўда. Аксіёма? Так. Але яе не пашкодзіць паўтарыць, *бо шукаць тую праўду* — задача няпростая. Часта і жыцця не хапае, каб знайсці яе.

На выстаўцы «Няміга-17» яшчэ раз пераканаўся, што сэнс выяўленчага мастацтва ў *адным*: у перакладзе ўсіх ідэй, якія хвалююць чалавека, грамадства,— інтэлектуальных, пластычных, духоўных,— на мову чалавечнасці.

Экспазіцыя стала нечаканасцю і нават *сюрпрызам не толькі для гледачоў,* але і для калег-мастакоў, хоць ніякіх асаблівых нечаканасцей быццам не павінна было быць. Проста высветлілася: калі на рэспубліканскіх выстаўках экспануюцца адзін-два творы таго або іншага мастака — гэта адна справа, а калі многа, ды яшчэ ў групе аднадумцаў, гэта зусім іншае.

Выстаўка здзівіла цэласнасцю экспазіцыі і нестандартнасцю, неардынарнасцю дараванняў, самастойнасцю меркаванняў пра час і пра сябе. Бадай, апошняе ўразіла мяне больш за ўсё. Ды яшчэ — любоў аўтараў да пластычнага вобраза, які ў асноўным перадаецца колерам, каларытам. Думаецца, мы ўбачылі жывапіс у лепшым сэнсе гэтага слова.

Сапраўды, жывапіс А. Малішэўскага, М. Бушчыка, С. Кірушчанкі, А. Кузняцова, А. Мацiевіча, Л. Хобатава і А. Цыркунова сканцэнтраваны ў вельмі кампактных адсеках, утварае ўражанне выбуховага зараду, стыхійнасці навальніцы—з-за сваёй гарачай імпульсіўнасці, страсных колеравых усплёскаў. Мова жывапісу—захапляе, *але патрэбны* немалыя намаганні, каб яе зразумець, больш таго — на гэта не кожны аказваецца здатным. Я назіраў за рэакцыяй публікі на выстаўцы. Шмат пытанняў узнікала, напрыклад, да Кузняцова (праблема канкрэтнай вобразнасці), да Кірушчанкі (чаму карціны цёмныя), да Малішэўскага (спецыфіка яго малюнка), да Цыркунова (зашыфраванасць сюжэтаў) і г. д.

Але тыя, чыя думка напружана працавала, хто імкнуўся зразумець выстаўленыя палотны, маглі ацаніць у працах мастакоў памяць пра традыцыі, на жаль, паўзабытыя, беларускага жывапісу 20—30 гадоў, зварот да вытокаў народнай творчасці, да лепшых дасягненняў рускага мастацтва пачатку стагоддзя, зварот да вытокаў народнай творчасці. Яны маглі ўбачыць і тое, што ўсе гэтыя майстры звязаны агульным светаўспрыманнем, агульнай прыналежнасцю да складаных паваротаў нацыянальнай гісторыі, разуменнем сутнасці пластычнага мастацтва і яго прызначэння.

Гледзячы на лепшае, найбольш значнае, што строга і ў асноўным удала адабралі мастакі, бачыш, як, мяняючыся з цягам часу, яны захоўвалі адданасць заяўленаму яшчэ ў ранніх работах (частка іх таксама экспанавалася на выстаўцы). Унутраная цэласнасць, устойлівасць маральных крытэрыяў — самая прыкметная якасць іх творчага руху. Я памятаю, як не так даўно адвяргалася «вядучымі» нашымі мэтрамі творчасць М. Бушчыка і А. Кузняцова, з якой цяжкасцю ўваходзілі ў вялікую творчасць, акрамя бадай што А. Мятліцкага, і іншыя ўдзельнікі выстаўкі. Пра А. Малішэўскага не гавару. «Патрыярх» групы «Няміга-17», ён у свой час, гадоў недзе 25 назад, хадзіў у «фармалістах». Я не ўсё прымаю ў асобных работах гэтага майстра, асабліва тое, што тычыцца кампазіцыі і малюнка, думаю, што і ў выбары тэм ён не заўсёды шчыры, аднак колера-музыка яго пейзажаў, нацюрмортаў, партрэтаў сапраўды дзівосная. Яго жывапісную вытанчаную пластыку лёгка адрозніць ад іншых «каларыстаў»— па яго звонкіх «гіпербалах», сведках пачуцця страснага, сканцэнтраванага ў прамень, а не такога, што асвятляе ўбачанае роўным святлом.

А. Малішэўскі паказаны на выстаўцы *нібы прыцішана, без тых карцін,* якія ў свой час былі добра прыняты і здабылі

# АДНАДУМЦЫ З «НЯМІГІ-17»

**Нататкі з выстаўкі, якая стала нечаканасцю і нават сюрпрызам не толькі для гледачоў, але і для прафесіяналаў...**

мастаку заслужаны аўтарытэт. Ён вырашыў выступіць тут у інтымных формах пейзажа і партрэта, бліснуць свабодай і нязмушанасцю пэндзля. Відаць, пейзажныя эцюды больш за ўсё набліжаюць нас да сапраўднага аблічча майстра, хоць і ў карцінах ён паказаў сябе выдатным каларыстам. Мне ж бліжэй менавіта пейзажы, нацюрморты, партрэты, дзе Малішэўскі адчувае сябе больш свабодна. Маю на ўвазе, скажам, даўні партрэт А. Кішчанкі, партрэт М. Мельячэнка, беларускія эцюды «Пойма Бярэзіны», «Прылукі», «Стары Мінск», «Лес партызанскі» і самы апошні па часе — «Поле Рахманькі». А карціна «Дзень Памяці» пераканаўча праілюстравала жывапісную канцэпцыю аўтара: колер — не фарба прадмета, а філасофія.

Мяне прывабіла магутная індывідуальнасць А. Кузняцова, філасофская і музычная вытанчанасць яго мастацтва. У гэтым мастаку ёсць максімалізм, для яго самога, відаць, не надта зручны і лёгкі. Ёсць імкненне, спазнаўшы свет, наноў узнавіць яго як гарманічнае адзінае, спалучаючы бачнае, даступнае позірку з пластычным ідэалам, як гэта атрымалася ў карціне «Малочны ранак».

А. Кузняцоў ахвотней за ўсё піша жанчын і кветкі. Але дзіўныя, на першы погляд, небудзённыя формы гэтых кветак, вопраткі, прадметаў, атрыбутаў для яго толькі пачатковы імпульс, які перадаецца жывапісу. Усё далейшае належыць яго духоўнай субстанцыі, яго ідэі. Вось, скажам, палатно «Прысвячаецца народнаму майстру Антону Такарэўскаму». Што на ім? Жанчына ў вясельным уборы з кветак як сімвал чысціні — і чорныя сасуды, выдатная кераміка майстра. Сасуды з іх паўтанамі, кантрастамі, блікамі — як вечная памяць... Або «Белы вальс» — трагічны, журботны твор пра нялёгкі жаночы лёс. Трапяткі «Сляпы дождж»— таксама ўспамін пра людзей, якія даўно пайшлі ад нас...

Вядома, мастацкі вобраз палотнаў А. Кузняцова не адназначны. Ён складаны, асацыятыўны. Творы не адразу раскрываюць перад гледачом глыбіню жыццёвых калізій і пачуццяў, якія хваляюць мастака, бо пазбаўлены геаграфічных прыкмет, апавядальнасці, літаратурнасці, канкрэтнасці сюжэтных ліній. Думаецца, маральны пафас карцін А. Кузняцова — у спрэчцы са старажытным выслоўем: «Прыйшлі мы выпадкова і пойдзем, нібы нас не было». З плынню часу мастак вярнуў і з захапленнем узнавіў для нас вобразы беларускіх жанок, што сваёй духоўнай прыгажосцю сцвердзілі адвечныя катэгорыі любові, дабра і міласэрнасці.

Яшчэ адна яркая мастакоўская асоба — М. Бушчык, які таксама не цураецца рацыяналістычнага пачатку ў сваіх палотнах. Але моцная, яркая пачуццёвасць, стыхія колеру і святла нібы напаўняюць яго творчасць. (На жаль, на выстаўцы не прадстаўлены маленькія эцюды мастака, якія ён пісаў на радзіме: менавіта ў іх, на мой погляд, асабліва праявілася яго паэтычнае пачуццё, жывое трапяткое дыханне). М. Бушчык усёй сваёй істотай прывязаны да зямных радасцей, да квецені прыроды, да сонца, цішыні, утульнасці роднага дома, вясковых ландшафтаў, да сціплых працаўнікоў-сялян. Ён піша блакітную ноч з ледзь прыкметнай цэркаўкай, летнія ліўні і туманы. У гэтай рэальнасці мастак знаходзіць паэтычны, філасофскі і музычны стрыжань свайго мастацтва.

Так, М. Бушчык пастаянны ў сваім захапленні жыццём, але па экспазіцыі відаць і тое, як ён мяняецца штораз, ствараючы адчуванне то пластычнага ўздыму, то няўстойлівасці, то стракатасці жывапісу. Нястрымана экстатычны ў карціне «Нараджэнне дня», ён задумены і вытанчаны ў палотнах «Цішыня», «Беларуская вёсачка», настойлівы і сумбурны ў алегорыі «Красавіцкая ноч», настальгічны ў «Блакітнай поўначы».

Заглыблены работай над структурай колеру, каларыту, прасторы займаецца С. Кірушчанка. Часцей за ўсё ён выкарыстоўвае градацыі цёмна-сіняга спектру, у складзе якога пастаянна выяўляе ўзбагачаючыя колеры, нібы паглынутыя агульным тонам: загушчаная сінеча неба, якая нібы патанае ў чарнаце ночы («Ноч», «Няміга ноччу»), прыглушаная зяляніна саду, што стварае прыцягальную недагаворанасць («Святло красавіка», «У садзе»). Адно з цікавых палотнаў С. Кірушчанкі — «Нацюрморт са слівамі». Тут дакладна «зафіксаваны» моцныя бакі яго жывапіснага даравання. Блізкія да яго апошнія карціны — «Эдэм», «Чаканне», «Сабор». У іх — імкненне аўтара да прадуманай вытанчанасці жывапіснага рашэння, пабудаванага на зблізаных цёмных танах, арганічная пластыка палатна, прасторавая і колеравая арганізацыя пры ўменні перадаць імпрэсіяністычны стан прыроды, на які душа чалавека адгукаецца патаемнымі пачуццямі. Інакш кажучы, пластычная структура палатна ў С. Кірушчанкі становіцца самым актыўным сродкам у раскрыцці ідэі твора. Праўда, на маю думку, мастаку трэба ў будучым ісці на большае «высвечванне» палітры, бо ў некаторых, у тым ліку апошніх па часе палотнах, заўважаецца самацытаванне ўжо знойдзеных раней пластычных канцэпцый.

Люблю я і карціны А. Мацiевіча, у якіх прысутнічаюць вытанчаны жывапіс, тэмперамент, і ў той жа час пластычная стрыманасць. Мастак валодае шчаслівым дарам абвостранай рэакцыі на «спецыфіку рэчаіснасці». Часам яе вынікам бываюць творы, гранічна напружаныя па сваім настроі — як, напрыклад, карціна «Успаміны». Тут абстрактная эмацыянальная рэакцыя на дзею (удовы за сталом) не адлюстравана, а выяўлена ў колера-рытмічнай пабудове палатна. Карціны «У асеннім садзе», «Восень», «Звычайны вечар у Лахве», «Бакеншчык», «У вёсцы» напоўнены зусім іншым настроем, спакойным і прасветленым позіркам на наваколле. Мноства нябачных промняў звязвае творчасць А. Мацiевіча з 20—30-мі гадамі, з жывапісам М. Філіповіча, Р. Семашкевіча, М. Станюты, калі ў атмасферы актыўных, хоць і супярэчлівых выпрабаванняў усяго савецкага мастацтва стала інтэнсіўна развівацца і нацыянальная беларуская школа жывапісу, на жаль, сёння добра падзабытая. Сам А. Мацiевіч лічыць, што колер можа непасрэдна выражаць змест.

Цікава, самабытна, хоць і супярэчліва, развіваецца творчасць А. Цыркунова. Ён, здаецца, гатовы хутчэй памыліцца ў плане фармальным, чым сфальшывіць у пытаннях маральных, у пытаннях гістарычнай памяці народа, яго каранёў і традыцый. Сфера прысутнасці гэтай маральнасці не абмяжоўваецца ў мастацтве А. Цыркунова нейкімі рамкамі, а вызначае ўсе яго адносіны з шырокім колам з'яў і падзей, пачынаючы ад тэмы хрышчэння Русі і да Скарыны — і далей да тэмы «блуднага сына», які вярнуўся ў родную хату («Бульба»).

Часам ён падыходзіць да самай мяжы акрэсленага, дазволенага самімі прынцыпамі выяўленчага мастацтва, спрабуючы, узняўшыся на дыбкі, убачыць: што там? Аднак прынцыпы ёсць прынцыпы:плата за іх парушэнне непазбежная. У некаторых рэчах, скажам, «Пакутніца Наста», «Гарэзлівы Стась», у трыпціху «Полымя» — сведчанне гэтага балансіравання на краі выяўленчасці, тут сустракаецца колеравая жорсткасць, фарба замест тона, прыкметныя скажонасць формы і знарочыстая дысгарманічнасць кампазіцыі.

Работы А. Цыркунова апошніх гадоў («Белая мелодыя», «Над Курганам», «Першадрукар-асветнік Скарына») сведчаць, што ўся вобразна-жывапісная канцэпцыя мастака скіравана на асваенне галоўнай і ўлюбёнай тэмы — тэмы нацыянальнай спадчыны, кроўнай, непарушнай сувязі сённяшняга чалавека з гістарычнай памяццю, з роднай зямлёй. А гэта для мастака — нямала.

Выстаўка адкрыла здольнага жывапісца Л. Хобатава. Яго мастацтва напоўнена імпульсіўнай непасрэднасцю, праматой: мастак выплёсквае на палатно свае ўражанні ад самых простых жыццёвых рэчаў: вось стары іграе на гармоніку; задуменны начны паўстанак; адзінокі конь, нібы зачараваны, стаіць у тумане; ласі, якія п'юць ваду, гарэза-дзяўчынка, маці і сын... Усё жыве светам пластыкі і ўсё ўбачана вострым і добрым рамантычным поглядам. Радасць, адкрытая экспрэсія— у «Дыханні зямлі», «Мройнай ночы», «Поўдні». У карцінах Л. Хобатава амаль няма часавых характарыстык, яны гавораць толькі пра паэтычныя перажыванні свету. Але вобраз мастака — не пазачасавы. Уяўленне пра зямлю ў яго палотнах даецца нібы ў двух планах: гэта рэальная беларуская зямля і гэта — наша планета, радзіма чалавецтва.

Раздзелы жывапісу на выстаўцы ўдала фланкіруюць экспазіцыі твораў Т. Сакаловай і А. Мятліцкага.

Тамара Сакалова — прызнаны майстар арыгінальнай керамікі. Яна шмат працуе ў станковым плане, для выставак, а таксама ў манументальна-прыкладным мастацтве (на выстаўцы прадстаўлены некаторыя шамотныя кампазіцыі, выкананыя для Саюза тэатральных дзеячаў БССР). Элегантнасць, свабода асацыяцый, кампазіцыйная складанасць і высокі прафесійны густ — вось рысы, характэрныя для яе лепшых рэчаў. Т. Сакалова бачыць у мастацтве магутную арганізуючую сілу, здольную ствараць прыгажосць для людзей. Пейзажы, нацюрморты, партрэты, прадметныя тэматычныя кампазіцыі мастачкі — гэта карцінкі стану свету, яго асобных праяў — прыроды і людзей. Яна адлюстроўвае невялікае кола аблюбаваных ёю прадметаў, але пры тым сіла эмацыянальнай уражлівасці яе керамічных карцін настолькі моцная, што надоўга пакідае ў памяці пераліvы вытанчаных карычневых, шэрых, охрыстых, чорных, блакітных таноў на паверхні шамота. Т. Сакалова вызначаецца дысцыплінай мыслення, высокім узроўнем майстэрства і спецыфічных ведаў, а таксама вялікай працаздольнасцю.

Што галоўнае ў творчасці Аляксандра Мятліцкага, вядомага ў рэспубліцы як майстра станковай і дэкаратыўнай кампазіцыі? Камернасць, інтымнасць вобразнага ладу? Высокая культура матэрыялу? Схільнасць да сузіральнасці, філасофскага роздуму? Або пошук гармоніі свету? Відаць, усё разам. І тады нараджаюцца жаночыя і дзіцячыя вобразы, мадонны, ікары і праметэі, цудоўныя маленькія кампазіцыі, прысвечаныя дзяцінству, сям'і, каханню, выкананыя ў бронзе, камені, часам — у дрэве, і цёплая фактура дрэва выглядае сапраўды жывой, як ва «Ураджаі», напрыклад.

Свет А. Мятліцкага спакойны, гарманічны і чароўны натуральнасцю быцця («Дуэт», «Песня», «Мацярынства», «Папараць-кветка», «Хваля»). Але ёсць і іншы — больш супярэчлівы, менш цэласны, у якім няма эстэтычнай завершанасці, акругленасці пластычных форм, але затое ёсць драматызм. Драматызм часу. Пра гэта — рэльефны трыпціх «Дзецям вайны», пра гэта — «Акорд». «Падзенне Ікара».

І яшчэ. Нібы аспрэчваючы манаполію партрэтнага жанру ў адлюстраванні духоўнага свету чалавека, А. Мятліцкі ў шэрагу сваіх работ звяртаецца да пластыкі і руху чалавечага цела. Дзякуючы ўважліваму вывучэнню натуры, уменню прыкмячаць галоўнае, ён аперыруе мовай вельмі востра і дакладна знойдзеных і ўвасобленых у матэрыяле жэстаў, пастаў і тым самым стварае своеасаблівую «формулу» стану чалавечай душы.

Мы паглядзелі выстаўку. Якія высновы можна зрабіць з гэтай нагоды? Сёння часам вядуцца спрэчкі, што важней у мастацтве — «што» або «як». А ці ў гэтым пытанне? Важней за ўсё — «хто», асоба самога мастака. Менавіта яна, асоба мастака, і прывабіла столькі гледачоў у Палац мастацтваў. Выстаўка паставіла яшчэ раз пытанне пра цяперашнюю сітуацыю ў беларускім мастацтве: пойдзе мастацтва па шляху добра знаёмых «гульняў» (няхай гэта акадэмічная правільнасць або модная гістарычная стылізацыя, карнавальны «авангардызм» ці віртуознае рамяство на ўсе выпадкі жыцця), або рушыць у недаследаваныя пласты жыцця, у складаныя калізіі рэчаіснасці, у пошукі новых вобразна-пластычных сродкаў? І яшчэ. Можа, сапраўды ўнутры прафесійнага Саюза мастакоў неабходны такія вось творчыя таварыствы па інтарэсах, як «Няміга-17»?

Барыс КРЭПАК.



А. КУЗНЯЦОЎ. «Белы вальс».



А. МЯТЛІЦКІ. «Акорд».


Экіпаж братоў КРЫЧАЎЦАВЫХ. Злева направа: Аляксей, Канстанцін і Міна.

лі яны несці страты і пры выхадзе ў раёны збору і пры сутыкненні з гітлераўскімі часцямі, а таксама ад бамбёжак і жорсткіх ударaў варожых танкавых кліноў.

Усё гэта зведала і размешчаная паблізу Брэста 22-я танкавая дывізія. На світанку 22 чэрвеня, калі ўвесь асабовы састаў дывізіі спакойна адпачываў напярэдадні выхаднога дня, на танкістаў абрынуўся бомбавы ўдар.

Дывізія пад камандаваннем вопытнага генерала, удзельніка грамадзянскай вайны, здолела захаваць баяздольнасць і прымусіла праціўніка адступіць да дзяржаўнай граніцы. Быў знішчаны таксама нямецкі дэсант.

Тым часам гітлераўцы падцягвалі новыя сілы, адначасова падвяргаючы нашых танкістаў бесперапынным бомбавым налётам. Часці дывізіі, вымушаныя адысці на ўсход, занялі абарону на рубяжы Кобрына. Пры гэтым савецкія байцы імкнуліся затрымаць праціўніка як мага даўжэй, сарваць яго планы наступлення. Камандзір дывізіі паставіў задачу ўсім часцям трымацца да апошняй магчымасці. Ён сам на сваёй баявой машыне прымае ўдзел у выкананні пастаўленай задачы. Усё менш застаецца ў жывых нашых танкістаў. Канчаюцца боепрыпасы. Скончыліся яны і ў генерал-маёра В. П. Пуганава. Яго механік-вадзіцель атрымлівае загад — наступаць. І танк імкліва ідзе на ворага. Удар!.. Загінуў смерцю храбрых камуніст Віктар Паўлавіч Пуганаў. Танкісты з яго падраздзяленняў прадаўжаюць весці няроўны бой, стрымліваючы праціўніка...

Гэтак жа дзейнічала і 30-я танкавая дывізія, размешчаная ў раёне Пружан. Танкісты дывізіі вялі баі з фашыстамі, вымотвалі праціўніка да самага Бабруйска.

З першых прыгранічных баёў танкісты паказалі бяспрыкладную стойкасць і адвагу. У адным з баёў на пачатку вайны экіпаж танка лейтэнанта Праздзнікава вырваўся наперад, пачаў знішчаць ворага артылерыйскім агнём, давіў гітлераўцаў гусеніцамі. У самы разгар боя ў экіпажа скончыліся снарады, а потым і паліва. Камандзір перадаў па рацыі, што экіпаж вядзе бой у акружэнні, байцы адбіваюцца гранатамі і асабовай зброяй. Каля поўначы камандзір танка лейтэнант Праздзнікаў перадаў у эфір: «Усё, што маглі, мы зрабілі для Радзімы. Бывайце!» Пасля невялікай паўзы ён дадаў: «Узрываем танк разам з сабой!»

Нельга не ўспомніць пра адважны экіпаж братоў Крычаўцавых. Падрабязнасці пра гэты сямейны экіпаж мне сталі вядомы пасля вайны.

Георгій Цімафеевіч Крычаўцаў — бацька дзесяці дзяцей — настаўнічаў у вёсцы Урыцкае Гомельскага раёна. Да вайны старэйшыя дзеці Георгія Цімафеевіча раз'ехаліся па краіне. Калі прыйшоў час прызыву ў Чырвоную Армію, ён звярнуўся ў Наркамат абароны з просьбай, каб трох яго сыноў прызвалі адначасова і ў адну часць. А потым, калі сыноў узялі ў танкавыя войскі, Георгій Цімафеевіч зноў звярнуўся з просьбай да наркома — накіраваць яго сыноў у адзін танкавы экіпаж. Просьба была задаволена.

Камандзірам танка быў прызначаны Канстанцін Крычаўцаў, Міна — механікам-вадзіцелем, Аляксей — наводчыкам гарматы. У такім складзе танкавы брацкі экіпаж быў накіраваны ў адно з падраздзяленняў 31-й танкавай дывізіі.

З самага пачатку вайны дывізія вядзе ўпартыя баі з ворагам. На світанку 24 чэрвеня баі працягваліся з неаслабнай сілай. Экіпаж Крычаўцавых не раз паказваў адвагу і майстэрства ў паядынках з ворагам і выходзіў пераможцам. На гэты раз ля вёскі Лапы іх танк падбівае варожую баявую машыну, за ёй другую, трэцюю... На сваім шляху танк падмінае гусеніцамі некалькі агнявых кропак ворага, падбівае гармату. У гэты момант варожы снарад трапляе ў савецкі танк. Яго ахутвае чорны дым. Камандзір атрымаў па рацыі каманду: «Пакінуць машыну!» Адказ быў кароткі: «У нас ёсць яшчэ боепрыпасы!» Танк Крычаўцавых прадаўжаў абстрэльваць ворага. Насустрач яму ішоў нямецкі танк. Яго неабходна было падбіць. Абапал дарогі — непраходныя балоты. Спыніць гэты танк—і гітлераўцы надоўга будуць затрыманы. Полымя і дым не давалі магчымасці братам весці прыцэльны агонь. Варожы танк набліжаўся. Тады савецкі танк вогненнай каметай ірвануўся на праціўніка. Удар! Прагрымелі адзін за адным два выбухі. Дарога надоўга стала непраходнай для гітлераўскай калоны танкаў. Наступленне ворага было затрымана цаной жыцця братоў Крычаўцавых — сапраўдных савецкіх патрыётаў.

У раёне Ружан, дзе ішлі ўпартыя баі прыгранічных савецкіх часцей, праз чвэрць веку ў памяць аб загінуўшых мясцовыя жыхары ўласнымі рукамі ўзвядуць Курган Славы і ўстановяць на п'едэстале танк.


Курган славы ў Ружанах.

У многіх гарадах нашай краіны і за рубяжом застылі навекі легендарныя савецкія танкі.

**Я. ВАЙНРУБ,**
**палкоўнік у адстаўцы.**

# Анатоль Рыгоравіч ШЭЛЕГ



Савецкае тэатральнае мастацтва панесла цяжкую страту. 12 лютага 1988 года на 79-ым годзе жыцця памёр народны артыст БССР Анатоль Рыгоравіч Шэлег, з імем якога звязана шмат яркіх старонак у летапісе беларускага нацыянальнага тэатра.

А. Р. Шэлег нарадзіўся 25 снежня 1909 года ў г. Мінску ў сям'і рабочых, рана пачаў самастойнае працоўнае жыццё. У 1929 годзе А. Р. Шэлег паступіў у студыю пры БДТ-ІІ у г. Віцебску і з таго часу непарыўна звязаў свой лёс з гэтым калектывам.

На сцэне тэатра імя Я. Коласа А. Р. Шэлег стварыў шэраг яркіх вобразаў, пазначаных мастацкай праўдзівасцю, глыбінёй і праніклёнасцю. Працавітасць, прынцыповасць, аддданасць сваёй справе, актыўная грамадзянская пазіцыя прынеслі Анатолю Рыгоравічу павагу ў калектыве, сярод тэатральнай грамадскасці і працоўных рэспублікі. У 1940 годзе яму было прысвоена ганаровае званне заслужанага, а ў 1952 — народнага артыста БССР.

Вобразы Сымона з «Раскіданага гнязда» Я. Купалы, Пятра з «Улады цемры» Л. Талстога, Юрася з «Несцеркі» В. Вольскага, Гадуна з «Разлома» Б. Лаўранёва і многія іншыя работы А. Р. Шэлега сталі яркімі, незабыўнымі падзеямі ў тэатральным жыцці рэспублікі.

Член Камуністычнай партыі Савецкага Саюза з 1943 года А. Р. Шэлег на працягу двух дзесяцігоддзяў узначальваў партыйную арганізацыю тэатра, выбіраўся дэлегатам XXVII і XXVIII з'ездаў КП Беларусі, членам Віцебскага абкома КПБ, дэпутатам абласнога Савета народных дэпутатаў.

Партыя і ўрад высока ацанілі заслугі А. Р. Шэлега. Ён быў узнагароджаны ордэнамі Працоўнага Чырвонага Сцяга, Дружбы народаў і «Знак Пашаны», медалямі і Ганаровымі граматамі Вярхоўнага Савета БССР.

Светлы вобраз Анатоля Рыгоравіча Шэлега — таленавітага акцёра, грамадскага дзеяча — назаўсёды застанецца ў нашых сэрцах.

**В. А. ПЯЧЭННІКАЎ, Н. М. МАЗАЙ, Ю. М. МІХНЕВІЧ, Я. К. ВАЙТОВІЧ, У. В. ГРЫГОР'ЕЎ, У. П. КУЛАКОЎ, І. А. НАВУМЧЫК, М. М. ЯРОМЕНКА, Г. Б. АСВЯЦІНСКІ, В. Я. МАЗЫНСКІ, Ф. І. ШМАКАЎ, З. І. КАНАПЕЛЬКА, Б. І. СЯЎКО.**

**Міністэрства культуры БССР смуткуе з прычыны смерці народнага артыста БССР, акцёра Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Я. Коласа Анатоля Рыгоравіча ШЭЛЕГА і выказвае глыбокае спачуванне родным і блізкім нябожчыка.**

**Саюз тэатральных дзеячаў БССР глыбока смуткуе з прычыны смерці ветэрана СТД БССР, акцёра Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Я. Коласа, народнага артыста БССР ШЭЛЕГА Анатоля Рыгоравіча і выказвае спачуванне калектыву тэатра, родным і блізкім нябожчыка.**

**Калектыў Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Якуба Коласа глыбока смуткуе з прычыны смерці ветэрана-коласаўца, народнага артыста БССР Анатоля Рыгоравіча ШЭЛЕГА і выказвае шчырае спачуванне родным і блізкім нябожчыка.**

шых гарадоў свету пад час другой сусветнай вайны, горад, дзе мала што захавалася.

Для даведкі нагадаем яшчэ раз пра брукоўку пляца Мяснікова. Гэта апошні з брукаваных дарэвалюцыйных пляцаў, які быў у Мінску.

**П. А. ВАШКЕВІЧ,**
ветэран вайны і працы;
**С. М. ВАШКЕВІЧ,**
ветэран працы;
Ігар і Іна **ВАШКЕВІЧЫ,**
інжынеры.

●

МАТЭРЫЯЛЫ ПРА ЗНІШЧЭННЕ ПОМНІКАЎ нашай гісторыі і культуры не могуць не хваляваць. Памятаю час, калі ў нашай прэсе паднялася бура, дакладней — «цунамі», супраць двух выпівох. Яны, купаючыся цёплай ноччу ў фантане Цэнтральнага скверу, скінулі з пастамента «хлопчыка з лебедзем». Газеты шмат месца адводзілі пісьмам-абурэнням, людзі патрабавалі пакарання хуліганаў. І п'янчугі былі пакараны.

А калі помнікі нашай даўніны знішчаюцца, псуюцца з ведама і са згоды ГалоўАПУ — дык тады ў каго шукаць рады? Міжволі думаеш так, калі бачыш, як усё менш і менш адзнак даўніны застаецца ў тысячагадовым Мінску.

Падтрымліваю прапанову Э. Ялугіна назваць плошчу Мяснікова плошчай 1905 года.

**Я. ЗЛЕБАЎ.**
г. Мінск.

## АД РЭДАКЦЫІ

**На публікацыі В. Дранчука і Э. Ялугіна рэдакцыя атрымала афіцыйны адказ з Галоўнага архітэктурна - планіровачнага ўпраўлення г. Мінска, падпісаны намеснікам галоўнага архітэктара горада А. ГРЭЧЫНЫМ. У ім паведамляецца, што замена брукаванкі на асфальт на плошчы Мяснікова і вул. Савецкай адбылася «ў сувязі са стратай эксплуатацыйных якасцей праезджай часткі».**

**Акрамя таго, з адказу мы даведаліся, што згодна з комплексным планам манументальнай прапаганды прадугледжана ўстанавіць на плошчы помнік А. Мяснікову (Мяснікяну), «у кампазіцыю якога будуць уключаны элементы добраўпарадкавання з брукаванкай».**

**Гэты адказ наўрад ці можна лічыць адказам на пытанні, пастаўленыя ў допісах нашых чытачоў. Ён спараджае дадатковыя пытанні. А як жа з эксплуатацыйнымі якасцямі праезджай часткі, скажам, Дварцовай плошчы ў Ленінградзе! Калі і кім быў зацверджаны «комплексны план манументальнай прапаганды»! А мо варта яго гараджанам абмеркаваць, перагледзець, дапоўніць! Чаму на плошчы вырашана паставіць помнік Мяснікову! Чаму іменна ён вылучаны з шэрагу барацьбітоў за Савецкую ўладу на Беларусі! Няўжо яго заслугі перад Беларуссю большыя, чым, напрыклад, у Чарвякова ці Цішкі Гартнага!**

**Адносна прапановы Э. Ялугіна надаць плошчы Мяснікова новае імя, якое больш адпавядае гістарычнай значнасці гэтага кутка Мінска, А. Грэчын піша: «...для рашэння гэтага пытання неабходна вывучыць грамадскае меркаванне наконт канчатковага прыняцця назвы плошчы адпаведнай камісіяй пры Мінгарвыканкоме». Дык, узнікае пытанне, можа, і мэтазгоднасць узвядзення помніка на гэтай плошчы таксама варта абмеркаваць!**

# ПІСЬМЕННІК СУСТРАКАЕЦЦА З ЗЕМЛЯКАМІ...

**Кожны месяц у эфіры ўвесь мінулы год гучалі перадачы пад рубрыкай «Пісьменнік сустракаецца з землякамі». Раней літаратары пісалі на радыё пра БАМ і Цюмень, падарожжы па братніх рэспубліках. Усё гэта, безумоўна, добра. Але пра родныя мясціны, пра сваіх землякоў, пра тое, што іх хвалюе, як яны працуюць ва ўмовах перабудовы, нарысаў было мала.**

**Рэдакцыя звярнулася да пісьменнікаў з просьбай прыняць ўдзел у такіх перадачах, і пісьменнікі адгукнуліся на гэтую просьбу. Прагучалі 24 перадачы. Чаму 24? Таму што кожны нарыс гучаў запар дзве раніцы па дваццаць-трыццаць мінут.**

**Казімір Камейша расказаў аб праблемах Налібоцкага краю, Уладзімір Глушакоў прысвяціў сваё выступленне давыд-гарадоцкім народным умельцам, Іван Летка сустрэўся з берастаўіцкімі хлебаробамі. Пра жодзінскіх аўтамабілебудаўнікоў гаварыў Іван Сіняўскі, пра драгічынскіх механізатараў — Мікола Федзюковіч. Аб справах і клопатах сваіх землякоў расказалі радыёслухачам пісьменнікі Аляксандр Капусцін, Мікола Гроднеў, Сцяпан Кухараў, Валянцін Мыслівец, Іван Капыловіч, Міхась Пянкрат.**

**Сёлетні, 1988 год, Галоўная рэдакцыя літаратурна-драматычнага вяшчання рубрыку «Пісьменнік сустракаецца з землякамі» пачала выступленнем Віктара Дайліды, які расказаў пра свае родныя мясціны на Случчыне. Сваімі ўражаннямі ад наведання родных мясцін з радыёслухачамі неўзабаве падзеляцца Марыя Філіповіч, Міхась Парахневіч, Мікола Капыловіч, Віктар Карамазаў, Віктар Гардзей і іншыя.**

**Рэдакцыя мяркуе сабраць гэтыя нарысы ў кнігу, якая і магла б мець назву «Пісьменнік сустракаецца з землякамі», альбо «Землякі». А вось якое выдавецтва возьмецца выдаць, як кажуць, па гарачых слядах такую кнігу?**

**В. ШЫМУК,**
**супрацоўнік**
**Рэспубліканскага радыё.**

